


Вёска дрэмле... Вечар ліпнёвы..
Толькі вуліцы звонкі смех...
Ў лапці абуты з ліп новых
Едуць яны на начлег.

Сьвіткі зрэбны. . палатаны...
Але хлопцы—проста душа!
Гора бачылі шмат яны..
— Гэй, паганяй! Шырай шаг!

І заляскалі коней капыты,
Дарогу друкуе сто ног...
Месяц плача хмаркай закрыты—
Угнацца за імі ня мог.

Вось паляна—коньмі стрыножана...
Вогнішча! Песьні! Смех!
Толькі лес шэпча трывожна
Дзіўны сказ пра новы начлег.

* *
*

Ночка, ночка... Цёмна, нявесела...
Вые на выгане воўк—
Гэтай ночкай паўстанца павесілі,—
Разудалы сьпеў вёскі змоўк.

Загарэліся хлопцы помстаю:
Калі гэтак—адплата ня грэх!
Хто з касой, хто з сякерай востраю
Вышлі ў пушчу на новы начлег.

Звоніць пушча зноў разудалымі,
Зноў шугае на вогнішчы корч,
Калі трэба, то раз!—ударым мы!
Ты маўчы, чорнавокая ноч!..

Дні мінулі—хлопцам весела!
Вышлі з лесу—іх ня стрымаць!
— Сягоньня паўстанцы вешалі,
Сягоньня на волі іх раць!

* * *

І яны, яны камсамольцы.
Ім ня страшна адкрытая сьмерць,
Іх аружжа выстралам моліцца,
Кліч іх гучны—наўкола глядзець!

І ў полі пад градам шрапнэлі,
Захіліўшы ў чырвоны сьцяг,
Марш хаўтурны ня раз ім пелі
І хавалі пад звон—„тра-ра-рах!

Тагды раць іх спраўляла трызну.
Набіралася сьмеласьці, сіл...
Камсамолію—вольну айчыну
Ня спужаць мільёны маглі.

Камсамолец—запалены гартам,
Камсамольца—бунтарскі дух,—
Адзін кліч—стане новая варта,
Адзін кліч толькі—„Зьмену рыхтуй“

* * *

І расьце, і расьце і мужае
Камсамольцаў адважная раць.
Што ім вораг? Што і мяжа ім,
Як захочуць яны пагуляць!

На заводах, на фабрыках дымных,
Дзе палёў сінявокі прастор,—
Яны злучаны палкім уздымам,
Іх злучае юнацкі задор.

Толькі кліч—і за шэрагам шэраг,
Нібы мора прыбоямі хваль,
Яны змыюць мяжуючы бераг,—
Вольным сьпевам запеніцца даль.

Ня стрымаць, ня спыніць ў падарожжы,
Хто агнём гэтай сілы сагрэт...
Пабядзіць дух паўстанчаскі зможа
Камсамолец бунтар і поэт!

* * *

Вёскі сьпеў... Шумы гораду...
Вуліц вясёлы звонкі сьмех...
Успамінаюць сягоньня горда
Камсамольцы мінулы начлег.

З маршам ўдаль!.. Бач, здаволены!..
—Гэй, не адстань! Шы-рай шаг!..
Песьню! Плакаць даволі нам!..
Камсамольцы—хлопцы душа!

Сьвіткі зрэбны... палатаны...
Фабрычнага дыму пах...
Гора бачылі шмат яны,
І цяпер ім змагацца—ня страх!

Ня жыцьцё—а раздольле!..
Бо дзеці паўстаўшых краін...
Беларусь! і ты Камсамолія!
Я, камсамолец,—твой сын!..

**М. Чарот.**



# ГАРАЧАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ



Царска - панскі фэадальны лад давіў рабоча-сялянскую моладзь нячуванай эксплёатацыяй, якая была накіравана да выраджэньня моладзі. Капіталістычны лад хацеў зрабіць з маладога пакаленьня паслухмяную зброю для барацьбы з рабочаю клясаю. На ўсём сьвеце першаю з пачатку вайны заварушылася рабочая моладзь. Гэта вышла не выпадкова а дзеля таго, што вайна бліжэй усяго зачапляла рабочую моладзь.

Кастрычнікавая рэвалюцыя разьбіла кайданы і волею рэвалюцыі быў створаны наш К С. М.

За пяць гадоў свайго існаваньня КСМ Беларусі здабыў сабе мейсца ў радох рабочых і сялян сваімі гэраічнымі ўчынкамі, змагаючыся ня толькі на мяйсцовых фронтах, але і на ўсіх фронтах рэвалюцыі. Гісторыя барацьбы КСМ стварыла традыцыі, на якіх павінна выхоўвацца наша маладое пакаленьне і захоўваць заветы рэвалюцыйнай барацьбы КСМ. Прайшло пяць гадоў і наш Камсамол налічвае ў сваіх радох сотні тысяч сяброў.

Наш Камсамол выявіў сябе ня толькі ў бойках, але і на мірнай ніве гаспадарча-культурнай працы. Ён пусьціў моцныя карэньні, ахопліваючы фабрыкі, заводы, воласьці, вёскі, дзе толькі ёсьць рабоча-сялянская моладзь, вядучы яе наперад пад сваім сьцягам да вольнага новага жыцьця і да таго змаганьня, на парозе якога мы ўсё яшчэ стаім. Не павінен забываць наш Камсамол ні на хвіліну, што перад намі яшчэ шмат бояк за поўную перамогу камунізму ва ўсім сьвеце.

У пятую гадавіну істнаваньня КСМ Беларусі— Камуністычная Партыя Беларусі пасылае вам сваё гарачае прывітаньне. Ахоўваючы заваёвы Кастрычнікавай рэвалюцыі, мы перакана1ы, што ў будучых бойках нас разам з вамі ніхто ня пераможа.





*(15/XII 1918 г.—15/XII 1923 г.).*

Роўна пяць гадоў таму назад, 15-га сьнежня 1918 году, у тым будынку, дзе цяпер зьмяшчаецца клюб імя Карла Маркса, адбыўся першы сход Камуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

Маленькая была арганізацыя, усяго 30 чалавек налічвалася ў ёй.

22-га сьнежня арганізаваўся Камсамол у Бабруйску. Затым па ўсіх гарадох Беларусі ўтвараюцца гарадзкія арганізацыі КСМ.

Гэта быў час упартай барацьбы савецкіх рэспублік з ворагамі, якія насядалі з усіх бакоў. Наш Саюз не застаўся ў бяздзейнасьці. Ён злучаецца з камсамолам Літвы і разам з ім распачынае працу. Выдаюцца брашуры, газэты і г. д.

Дзякуючы здрадзе, Вільня—мейсца перабываньня ЦК Камсамолу Літвы і Беларусі—пападае ў рукі палякаў. Жменька камсамольцаў у працягу трох дзён абараняла горад.

Паласа польскага наступу робіць саюз ваенным лягерам. 20°/о камсамольцаў ідзе на фронт. Рэшта вучыцца ваеннай справе.

У районе польскай акупацыі працуе падпольная арганізацыя. Смаленскія камсамольцы трымаюць з падпольнікамі моцную сувязь. Сялянская моладзь гуртуецца ў партызанскія атрады.

Са зваротам Савецкае Ўлады йзноў вырастаюць камсамольскія арганізацыі ў гарадох Беларусі. Утвараецца ЦБ Камсамолу Беларусі.

У верасьні 1920 году адчыняецца першы Ўсебеларускі зьезд камсамолу. Зьезд прымае пастанову аб уступленьні ў агульную сям'ю рабоча-сялянскай моладзі—РКСМ.

У гэты час у Рызе ідуць перамаўленьні з Польшчай. Палякі настайваюць на граніцах 1772 году. Зьезд пасылае беларускай дэлегацыі тэлеграму:

—Ня ўступаць. Рабоча-сялянская моладзь *гатова* абараняць Савецкую Беларусь.

Праз нейкі час пасьля зьезду Менск на адзін дзень ізноў пападае ў рукі палякаў.

Саюз увесь час нясе вартаўнічую службу і выконвае розныя заданьні. Мір падпісан.

Тады яшчэ іstнаваў „Югэнд-Бунд“, „Евкомол“, дзе-ні-дзе былі яшчэ арганізацыі „Югэнд-Поалей-Цыон“. Камсамол робіць вылазку супроць іх. Склікаюцца канфэрэнцыі беспартыйнай рабочай моладзі. На гэтых канфэрэнцыях маладняк заяўляе, што ўся моладзь ідзе за намі і ня лічыць другіх арганізацыяў сваімі.

У 1921 годзе „Югэнд-Бунд“ уліўся ў нашы рады.

У тэй барацьбе, якую распачалі Савецкія рэспублікі за эканамічнае аднаўленьне гаспадаркі Беларусі, Саюз займае пачэснае мейсца.

Саюзныя рады шчыльнеюць. Як грыбы пасьля дажджу растуць ячэйкі ў горадзе і на вёсцы.

На Беларусь наведываюцца Савінкаў з Балаховічам. У некаторых паветах гаспадараць бандыты. Саюз узбройвае сваіх сяброў, і камсамольцы прымаюць дзейны ўдзел у ліквідацыі бандытызму.

*Прыходзе НЭП. „Гаспадарчы разрахунак“ пачынае* выціскаць рабочую моладзь з вырабчасьці. Нашы культурна-асьветныя ўстановы—клюбы, газэты—напярэдадні зачыненьня. У нашых радох—неспакой.

На дапамогу нам прыходзе партыя.

Выпрацоўваюцца новыя мэтады культурна-асьветнай працы, выдаюцца дэкрэты аб нескарачэньні рабочай моладзі.

Моладзь апраўляецца. Крызіс мінае. Саюз расьце, імкнецца да працы.

Камсамольскія рады выраўняліся.

## Што такое камсамол цяпер.

Мы раскінулі свае галіны на ўсёй рабоча-сялянскай Беларусі. Няма такога глухога кутка, дзе ня было-б камсамольскай ячэйкі.

У самай глухой вёсцы старыя сяляне ведаюць камсамольцаў, любяць іх верацъ ім. Камсамолец усюды—у сельсавеце, у хаце чытальні, у валасным выканаўчым камітэце—усюды.

Рабоча-сялянская моладзь вучыцца. Камсамолец—пастух савецкай гаспадаркі, гонячы жывёлу ў поле, цягне ў торбе, разам з хлебам і салам, Каваленка. Рабочая моладзь развіваецца ў камсамольскіх клюбах, школах і гуртках. З раніцы да позьняй ночы працуе рабочы-падростак: да 5—6 гадзіны—на заводзе, а потым—у вячэрняй школе, на сходзе, у гуртку.

Камсамольскія клюбы ахвотна адчыняюць свае дзьверы для моладзі і заўсёды бываюць поўнымі.

Рабфак, Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчы Інстытут, Тэхнікумы—поўны камсамольцаў.

Ажыцьцяўляеецца лёзунг тав. Троцкага.

—Грызіце граніт навукі сваімі маладымі зубамі.

Рыхтуецца кадр будучых кваліфікаваных рабочых. Больш 1000 чалавек вучыцца ў розных прафэсыянальна-тэхнічных школах.

Пільна сачыць ахова працы за ўмовамі працы падросткаў на прадпрыёмствах. Усюды гэтыя ўмовы выконваюцца.

Рабоча-сялянская моладзь Беларусі мае свае газэты і супрацоўнічае ў іх.

„Красная Смена“, „Юный Пахарь“, „Юнгэр Арбэйтэр“ і „Гвязда Млодзежы“.

Камсамол ня толькі рыхтуе зьмену для партыі—ён выхоўвае зьмену і для сябе.

У траўні 1922 году на Беларусі распачалася праца сярод дзяцей. Цяпер налічваецца 26 атрадаў (больш 1500 чалавек) спартакаўцаў.

Клапоты аб абароне Савецкіх граніц займаюць немалое мейсца ў камсамольскай працы. Шэфства над флётам, штогадовае папаўненьне яго радоў—любімы абавязак сяброў саюзу.

Кожны год увосень 40 маладых хлопцаў пасылаюцца ў Піцер і Кранштадт у камсамольскі флёт. Камсамольцы-ж папаўняюць каманднbackup курсы, ваенна-палітычныя школы, часьці Чырвонай Арміі і ўзброены саюз моладзі (Чырвоная Армія).

Садружаства гарадзкіх ячэяк з вясковымі як нельга лепш дапамагае справе смычкі гораду з вёскай.

Адзіная на Беларусі арганізацыя рабоча-сялянскай моладзі—гэта Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі. Пяць гадоў існуе ён.

—15-га сьнежня 1918 году—30 чалавек.

—15-га сьнежня 1923 году—4500 чалавек.

Уступаем у шосты год.

Кузінец.






Вам на памяць Серп і Молат
    Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
    Ня гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду
    Зналі, шанавалі,
І у цяжкую прыгоду
    Усталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
    Як віхор сусьветны;
Не праспалі у пасьцелі
    Волі агняцьветнай.

*

Вам дасталіся ад продкаў
    Сохі і бароны,
Каб вы ў час, пасьля паводкаў.
    Вышлі на загоны.

І з'аралі сваю ніву
    Шырока, глыбока,
Зерне ўкінулі шчасьліва,
    Чыстае, як вока.

Каб рунела зерне тое
    Весела, яскрава,
Побач з вашай маладою
    Сакалінай славай.

*

Вам пакінулі прадзеды
Гартаваны косы,
Каб вы з імі сонца сьледам
Выйшлі на пакосы.

Каб касілі да упаду
Пустацьвет і зельле,
Што сваім пякучым ядам
Труціць кроў у целе.

Каб зьвінелі вашы косы
Над зямлёю соннай
Ад начных да раньніх росаў
Звонка, векапомна.

*

Вам у спадчыне ад роду
Засталіся песьні,
Каб быць вашай асалодай
У жыцьця прадвесьні.

Каб вы пелі, ня сьціхалі
Ў радасьці і ў горы,
Гаманілі, нібы хвалі,
У бурлівым моры.

Каб шоў гоман ня спыняны
Ад поля да поля,
І людзей яшчэ скаваных
Заклікаў на волю.

Янка Купала.






Займаўся ў школе. Было мне гадоў 14-15. Шмат мне здаралася чуць пра социялістаў.

Казалі, што гэта людзі з адным вокам пасярод ку лба, а я зусім і ня ведаў, што бацька мой соцыяліст. Мне так хацелася ўбачыць такога соцыяліста і толькі ў 1903 годзе, калі залічыўся вучнем у мэханічную школу, гэта пытаньне перада мной паступова высьвятлялася.

Працаваць у майстэрні прыходзілася гадзін дванаццаць у дзень, прымушалі яшчэ працаваць і ўначы. А плацілі вучню дваццаць капеек у тыдзень. Мала хто працаваў тут больш двух-трох месяцаў.

У другой майстэрні працаваў мой сябра Яновіч і быў ужо членам партыі.

Аб сваёй сувязі з партыяй ён нікому не расказываў, але якім та чынам даў мне кніжку „Красное знамя“ і папярэдзіў, каб нікому не паказваў.

Кніжку гэтую я прачытаў і зразумеў.

Знайшоў, проста выпадкова, тое мейсца, куды бацька хаваў літэратуру.

Дзякуючы гэтаму я пачаў даведывацца, пачаў больш глыбока разьбірацца ў пытаньнях і кожны раз, што новае вычытаю, апавядаю рабочым сваёй майстэрні. Рабіў я ўсё гэта зусім бяз усякае мэты, зусім і ня думаў праводзіць сярод рабочых прапаганды, а яны вельмі зацікавіліся і любілі мае апавяданьні.

Сустрэў раз у кніжцы такую думку, што рабочыя павінны гуртавацца, баставаць і ставіць свае патрабаваньні. Задумаў-

ся я над гэтым пытаньнем і пераканаўся, што як найхутчэй трэба зрабіць забастоку ў сябе на заводзе.

Аб сваім заданьні расказаў таварышу—ён растлумачыў мне, што забастоўка на нашым невялічкім заводзе ня дасьць ніякіх вынікаў, а будзе яна толькі тады, калі яе правесьці па ўсіх мэханічных майстэрнях.

Думка аб забастоўцы глыбей захапіла мяне, і я парашыў зрабіць агульную. Пайшоў па майстэрнях. З вучнямі, наогул з моладзьдзю, я скора згаварыўся.

*Яны віталі маё заданьне і як мага падтрымлівалі яго.*

Куды горш было з дарослымі рабочымі. Калі прыходзілася гутарыць аб цяжкім жыцьці наогул рабочага, аб тым, што яго трэба палепшыць, што трэба вымагаць павялічэньня платы за работу,—яны з усім згаджаліся, але ў забастоўку ня верылі.

Яны казалі:—У горадзе шмат майстэрняў, хто небудзь да забастоўкі ня прымкне—забастоўка ня ўдасца.

Прапанавалі склікаць усіх рабочых мэханічных майстэрняў на сход за гадзіну да пачатку працы.

На гэтым згадзіліся. Па ўсіх майстэрнях было апавешчана аб сходзе.

А палове восьмай назаўтра ўсе сабраліся. Што-ж рабіць? Хто-ж выступіць перад рабочымі і скажа ім, на што іх склікалі?

Яновіча няма!

Пачаў гаварыць я. Давёў, што мы павінны вымагаць як для сталых рабочых, так і для моладзі паляпшэньня свайго становішча.

Рабочыя ўсе за забастоўку!

Выбралі стачачны камітэт. У склад яго ўвайшлі амаль *што ўсе старыя, а ад моладзі толькі адзін я.*

Забастоўка ўдалася!

Пасьля забастоўкі я і стаў соцыялістам.

Бугуцкі






I.

Нешта надзвычайнае пачалося ў нашай вёсцы.

Бывала, вярнуўшыся з поля і павячэраўшы, зьбяруцца ў чыёй небудзь хаце мужчыны і пачнуць гаманіць аб гаспадарскіх справах; перабяруць усё, што прыдзе толькі на розум ды пазяхаючы разыходзяцца.

І моладзь час праводзіла без карысьці. Шушукаюцца, куды даўжэй, чымся старыя ды разьбягаюцца; на работу трэба-ж уставаць чуць зара зьявіцца.

А *цяпер* і старыя і моладзь сядзелі куды пазьней і гаманілі цішэй.

Калі-ж хто незнаёмы праходзіў ля вокан—гутарку зусім спынялі.

У нашай хаце таксама кожны вечар зьбіраліся. Больш усё моладзь. А жыў тагды ў нас мой дзядзька, зусім малады яшчэ хлапец, нядаўна вярнуўшыся з гораду, з фабрыкі.

Зьбярэцца чалавек 10—15, дзядзька мой выцягвае з пад ложка акованы зялезам куфар і дастае адтуль некалькі кніжок у чырвоных вокладках, сядзе за стол і пачынае чытаць. Чытаў моцна, выразна; спыняўся на некаторых мяйсцох, тлумачачы тое ці іншае незразумелае слова.

Звычайна, у канцы чытаньня прыходзіў дзяцюк гадоў 22—23 з доўгімі валасамі, адзеты пагарадзкому.

Ён прыносіў газэты і іншыя лістоўкі. пачынаў чытаць пра забастоўкі рабочых у Расеі, гаварыў ён аб тым, што мы тут у вёсцы павінны рабіць, каб палепшыць сваё жыцьцё.

Позна ўночы разыходзіліся хлопцы, а мой дзядзька доўга яшчэ гаварыў з бледным, доўгавалосым дзяцюком.

І было так кожны вечар. Прайшлі два-тры тыдні... Скончылася чытаньне, скончылася прамова дзядзькі, а доўгавалосага няма. Пачалі разыходзіцца...

Прышоў ён позна ўночы...

—„Браты,—загаварыў ён пачакаўшы,—настае часіна і нам далучыцца к агульнаму дамаганьню сваіх правоў.

Усюды пачаўся рух працоўнага сялянства. Паліцыя і казакі здолеюць нас задушыць зусім. у Менску растрэліваюць і вешаюць рэвалюцыянэраў. Мы павінны дапамагчы рэвалюцыянэрам, аб'яднацца з імі. Памятайце—у аб'яданьні сіла!".

— Праўда, усё гэта праўда,—падтрымліваў доўгавалосага другі хлапец, Кульгавіч.

— Я сам бачыў, як у Менску з турмы выводзілі маладых, здаровых дзяцюкоў і дзесяткамі адпраўлялі на той сьвет.

А мы тут толькі чытаем! Не, чакаць больш нельга! Давайце заўтра склічам вясковы сход!—І доўга, доўга хлапцы яшчэ гаманілі пра заўтрашні сход.

II.

Раніцаю, як толькі ўзыйшло сонца, я пагнаў у поле кароў. Час цягнуўся вельмі марудна.

Хацелася як найхутчэй быць дома, каб ведаць, што робіцца ў вёсцы. Цень стала карацейшаю.

— Эт, паганю кароў дамоў,—парашыў я і хутка пагнаў сваю жывёлу ў вёску. Загнаў яе ў хлеў, заходжу ў хату.

А там ужо бацька, дзядзька, доўгавалосы, Кульгавіч раіліся, як склікаць сход: стараста склікаць народ адмовіўся.

Адмовіўся і ня трэба. Паслаць на другі канец да Піліпа, ён усё зробіць.

Бацька даў майму меншаму брату пісульку—той схапіў шапку і радасна выскачыў на двор.

— А ты, хлопча, пойдзеш з намі?—запытаўся ў мяне доўгавалосы.

— Пашто пытаць?—усьміхнуўся дзядзька—пытай ці ня пытай—усё роўна там будзе. Заўсёды ходзе ўсьлед за намі

Пашлі.

Бабы і дзяўчаты, седзячы на вуліцы з нейкай трывогай і страхам у вачох, праводзілі нас. Чакалі чагосьці надзвычайнага, страшнага...

Па дарозе ў капліцы нас чакалі яшчэ два мужчыны, адзетыя пагарадзкому (капліца гэта была ў нас дзеля за-

ховы чырвоных кніжачак і газэт). Разам усе пайшлі на сход.

Вялікі пляц, які разьбіваў сяло на дзьве палавіны, быў паўнюткі народу. Гул і гоман кругом.., Па сярэдзіне на бочках пакрытых дошкамі стаяў стол і пару зэдлікаў.

Кульгавіч узлез на памост, пачаў гаварыць і ў прамову сваю ўклаў толькі гневу, толькі сілы, толькі сьветлае надзеі,— ўсе слухалі, затаіўшы дух.

Пасьля Кульгавіча доўгавалосы доўга і цікава гаварыў пра жыцьцё гарадзкіх рабочых, пра тое, што мы павінны быць з імі ў сувязі.

Сход скончылі тым, што абралі „Грамадзянскі камітэт" і парашылі. На работу да памешчыка няйсьці—забаставалі!

III.

А праз тыдзень прыйшлі ўсьцішаць вёску.

Убачыўшы салдат, я зараз-жа пабег да бацькі, а ён мне кажа:

— Бяжы хутчэй да Алеся і скажы яму каб яны...—ён тое хто—былі ў дубінцы.

Хацелася бегчы, але страшна... І каб ніхто недагадаўся, пайшоў сабе ціха, быццам бяз справы.

Салдат разставілі па хатах.

Галасілі бабы, дзеці...

Прышоў да Алеся, а ў яго ў хаце людзі. Папрасіў у яго касу, наша быццам зламалася, а ў сенцах разсказаў яму ўсё што трэба.

IV.

Ноччу ў глухім маладняку, за рэчкай, зноў сабраліся нашыя хлопцы. Пастанавілі яшчэ мацней трымацца забастоўкі і падтрымліваць „грамадзянскі камітэт".

Мы ведалі—па вёсцы плач; салдаты грабілі, хто што мог. начальства не забараняла...

Праз дні два „Грамадзянскі Камітэт" арыштавалі.

У вёску прыехаў сам губэрнатар *Курлоў* і загадаў склікаць сход.

Знова пляц паўнюткі народу. Наўкала панавала магільная ціш, усе сумна паглядалі на зямлю...

Губэрнатар выйшаў на ганак, абвёў грамаду сваімі вачамі і пачаў прамову.

— Братцы!

— Мы табе ня братцы! вырваўся голас аднаго з нашых хлапцоў.

Губэрнатар пачаў угаварываць, нібы поп.

— Хто мкнецца адняць чужое дабро, чужую зямлю-той, грабіцель!

— Гэта вы, грабіцелі!

— Вы адабралі зямлю ў народа!

— Віна ваша вялікая, але я яе вам дарую, калі скажыце хто вамі кіруе.

— Не дачакаешся гэтага—крыкнулі хлопцы і, як адзін чалавек адказаў увесь народ—не!

— А, калі так, чытай сьпіс! І маршалак моцна чытае сьпіс, дзе былі прозьвішчы гуртка нашых хлапцоў: і доўгавалосы і другія хлапцы з гораду і мой дзядзька і Кульгавіч і іншыя.

— Узяць іх—крыкнуў губэрнатар. І пачалася свалка! Праз некалькі хвілін доўгавалосы і іншыя хлапцы былі зьвязаны.

Павялі іх у валасьць.

Шмат хлапцоў пахавалася. Арыштавалі майго бацьку за тое, што ён ня ведаў дзе знаходзіцца дзядзька, арыштавалі яшчэ шмат сялян...

V.

На заўтра раніцаю доўгі шэраг нашых сялян з закручанымі назад рукамі пайшлі ў Навагрудак.

Па перадзі ўсіх нашы галоўные дзеячы маладые хлопцы: доўгавалосы і яго два таварышы.





# З АРХІВУ.

**Секретно.**

Его Превосходительству

**Господину Минскому Губернатору.**

| |
|---|
| Правитель Канцелярiи |
| **7 авг. 1913 г.** |
| Минскаго Губернатора. |

**Минскаго Уѣзднаго Исправника**

**Рапортъ.**

*Койдановскiй Волостной Старшина Антонъ Алексѣевъ Котъ 30 истекшаго iюля, явясь къ приставу 3 стана вверенняго мне уѣзда, заявилъ, что крестьяне деревни Ледники, Койдановской волости, Федоръ Фоминъ Маковскiй 19 лѣтъ, Лаврентiй Павловъ Короневичъ 19 лѣтъ, Андрей Григорьевъ Сорокачъ 17 лѣтъ, Георгiй Каминскiй 20 лѣтъ и Иванъ Довнаръ въ ночь на 22 iюля, проходя по улицѣ деревни Байдакi, пѣлi революцiонныя пѣсьни и оскорбляли ВЫСОЧАЙШУЮ особу Государя Императора.*

*При производствѣ по сему делу приставом 3 стана дознанiя установлено, что поименованные крестяне въ ночь на 22 iюля, дѣйствительно проходя по улицѣ деревни Байдаки, пѣли противоправительственныя пѣсьни. выражаясь:*

*Россія наша мать, ты губишь насъ.*
*Изъ-подъ Портъ-Артура гнали, какъ собакъ...*
*Царь испугался, издалъ манифестъ:*
*Мертвымъ свободу, живыхъ подъ арестъ!*
*Долой Царь—сабакарь!*

*Все это подтверждено и показаніями допрошенныхъ свидьтелей. Донося о вышеизложенномъ ВАШЕМУ ПРЕВОСХОДИТЕЛЬСТВУ, докладываю, что произведенное по сему дълу дознаніе,—полученное мною отъ Пристава 3 стана 4 сего августа за № 561, мною одновременно съ симъ передано на распоряженіе Начальнику Минскаго Губернскаго Жандармскаго Управленія, о чемъ донесено Г. Прокурору Окружнаго Суда и сообщено участковому товарищу прокурора.*

*Исправникъ.*

**(Беларускі Дзяржаўны Архіў,**
**Справы канцэлярыі Губэрнатара).**





Беларусь ніколі не адставала ад іншых часьцін Расіі ў справе змаганьня з самаўладзтвам.

У Менску зарадзілася правадырка Акцябрскай Рэволюцыі— Камуністычная партыя і менскія рабочыя таксама ўнесьлі сваю долю у рэкі крыві, пралітай царскімі катамі.

Калі ў 1904—6 гадох па ўсёй Расіі пракацілася хваля забастовак, калі рабочыя Масквы, Петраграду і другіх гарадоў прыкладалі ўсе сілы, каб палягчыць сваё становішча,—тады і менскія рабочыя паднялі свой голас.

Не адстаў і маладняк—рабочыя падросткі.

Менская рабочая моладзь упісала не адну слаўную старонку ў гісторыю рэволюцыйнага руху моладзі.

### Клейн-Бунд.

Гэта было ў 1904 годзе. Забастоўка ахапіла ўсе прадпрыёмствы Менску.

Улада рабіла ўсё магчымае, каб спыніць забастоўку. На бастуючых нацкоўвалі паліцыю і штрэйкбрэхераў, бастуючых кідалі ў турмы.

І вось, гаспадары прыдумалі новы спосаб падарваць забастоўку. Яны пастанавілі выкарыстаць вучняў падросткаў.

Але рэволюцыйны рух, ахапіўшы дарослых рабочых, ня мог абмінуць падросткаў. Яны ведалі, што недзе на акраінах зьбіраліся рабочыя, яны бачылі, гвалты паліцыі. Іх цягнула да супольнай працы са старымі. Яны пачалі аказываць, якую маглі, да-

памогу бастуючым, сачылі за штрэйкбрэхерамі, пашыралі сярод сваіх сяброў думкі аб забастоўцы і г. д.

Старшыя рабочыя зацікавіліся гэтым і хутка быў склікаиы сход падросткаў, які пастанавіў, што на другі дзень ні водзін падростак ня выйдзе на работу.

Сказана—зроблена. На другі дзень была пастаўлена на ногі паліцыя. Кожнага падростка, з выгляду падобнага да рабочага арыштоўвалі.

Але гэта падросткаў не напалохала.

Наадварот, першая забастоўка яшчэ больш узьняла настрой маладняка.

Хутка адбыўся першы організацыйны сход рабочых падросткаў.

Сход адбыўся ў майстэрні, гаспадар якой выехаў на некалькі дзён і пакінуў ключ свайму вучню.

На сходзе быў выпрацованы маленькі статут організацыі. У організацыю пастаноўлена было прымаць падросткаў не маладзей 16 гадоў і працуючых ня менш 2-х гадоў на прадпрыёмствах. Рухам падросткаў кіраваў Бунд і організацыя атрымала назву „Клейн-Бунд“.

Са ўсім жарам моладасьці ўзялася маладая організацыя за працу.

Рабілі сходы, чыталі. Але гэта не магло здаволіць маладых бунтароў.

Гэта, як пісалася вышэй, быў час масавых забастовак. Вялася гарачая барацьба супроць 12-цёх гадзіннага рабочага дня.

І маладняк сыграў не малую ролю ў гэтай барацьбе.

Была выдзелена група, якая павінна была даведывацца пра тыя майстэрні, дзе гаспадары не хацелі здавацца на патрабаваньні рабочых.

Маладыя бунтары разьбівалі ў такіх гаспадароў каменьнямі шыбы, дзіравілі дахі і г. д.

Асабліва дапамагла гэткая тактыка у забастоўцы аптэчных рабочых.

Вось што піша удзельнік організацыі: «Гаспадар аптэкі умеў сам рабіць лякарствы і, дзеля гэтага, адцягіваў перамаўленьні з рабочымі. Мы палічылі патрэбным удзень і ўночы, па чарзе прыходзіць у аптэку і заказываць розныя рэцэпты.
Адзін раз у нас ня было рэцэпту. Адна з сяброў нашай арганізацыі, Годзя, пашла ў аптэку. Было ужо за поўнач. Аптэкар спаў. Гөдзя стукала так, што шыбы зьвінелі. Нарэшце ёй адчынілі.

— „Ці няма у вас на 3 капейкі чарніл?—запыталася яна.

Аптэкар са злосьцю зачыніў дзьверы.

Сваімі заказамі мы замучылі аптэкара. На дапамогу яму прышоў яго бацька, таксама аптэкар, але яго аптэка была ў другой часьці гораду і ён яе зачыніў.

Тады мы пашлі ў зачыненую аптэку і пачалі стукацца. Удалі, нібыта наш сябар самлеў і трэба яму аказаць дапамогу.

Падънялі гвалт—чаму аптэка зачынена? Прышла паліцыя, саставілі пратакол і аштрафавалі аптэкара. З таго часу бацька ўжо ня мог дапамагаць сыну і той прымушан быў здацца. Забастоўку выйгралі».

Вось што піша удзельнік працы «Клейн-Бунда».

І гэтак было ня раз.

Маладым рэволюцыянэрам вельмі хацелася выпускаць свае адозвы, як „сапраўдныя“ рэволюцыянеры.

Дарослыя рабочыя яшчэ не даверылі ім сваёй друкарні. І вось хлопцы сьцягнулі недзе гэктограф і ўзяліся за працу цэлымі начамі выводзілі друкаваныя літары, каб праклямацыі былі падобны да „сапраўдных.

Калі праклямацыі былі гатовы, падросткі ўночы расклеівалі іх сталярскім клеем на самых відных мяйсцох. Паліцыя не магла знайсьці друкарні «Клейн-Бунду, а праклямацыі цэлымі тыднямі квітнелі на сьценках, бо іх вельмі цяжка было сарваць.

Нават «дарослыя» немаглі нічога даведацца. Да таго моцна была кансьпірацыя.

Нарэшце трэба было організаваць уласную «біржу»—мейсца спатканьняў.

„Дарослыя“ мелі гэткую біржу, але падросткі там толькі блуталіся пад нагамі ў дарослых. Апроч таго, маладыя паўстанцы мелі свае асабістыя справы—ім трэба было весьці перамаўленьні з майстрамі, якія дрэнна вучылі сваіх вучняў.

Мейсцам для „біржы“ была выбрана вуліца, побач з «біржаю «дарослых». І вельмі хутка „маладая біржа“ стала ажыўлёньней, чым „старая“.

Актыўнасьць маладняка зьвярнула на яго ўвагу партыі. Раней партыя не зьвяртала асаблівай увагі на рух падросткаў, цяпер яна ўзрастала з кожным днём.

На маладняк пачалі глядзець, як на сур'ёзную мацнеючую і ўзрастаючую сілу.

Мы ў нашы дні можам сьмела сказаць, што гэты погляд маладняк апраўдаў.

## Югэнд-Бунд.

У пачатку лета 1905 году пачалі організоўвацца падросткі ў мястэчках і ў павятовых гарадох. Сама сабою паўставала думка аб аб'яднаньні.

Менская організацыя «Клейн-Бунд» выступіла ў ролі ініцыятара. Для падрыхтоўкі зьезду на паветы былі разасланы лепшыя таварышы. Кожнаму далі на праезд па 80 капеек.

У сярэдзіне лета ў Камароўскім лесе адбылася першая конфэрэнцыя „Клейн-Бунду“ Менскай губэрні. Сабралася чалавек 15—20. Аднэю з пастановаў конфэрэнцыі была пастанова прымаць дзяўчат у організацыю.

Конфэрэнцыя перамяніла назву організацыі і назвала яе *„Югэнд-Бунд“*.

К гэтаму часу адносіцца і першая ахвяра. У організацыі істнавалі ўжо баявыя адзінкі. Начальнікам аднэй з такіх адзінак быў 16-цёх гадовы Аўрэмул Гімэльштэйн.

На 28 чэрвеня была назначана дэманстрацыя на Багадзельнай вуліцы.

На дварох сынагогі былі праведзены мітынгі.

Але, як толькі дэманстранты ступілі на Багадзельную, з усіх бакоў наляцелі казакі і пачалася страляніна.

Пачалася паніка. На Багадзельнай у гэты час будавалі дом. Усе кінуліся туды, скакалі праз платы, хаваліся ў ямы.

Толькі Аўрэмул не ўцякаў. Ён сеў на бервяно і страляў у казакаў да таго часу пакуль сам не зваліўся, пранізаны казацкімі кулямі.

Так пралілася першая кроў падростка—рэволюцыянэра. *Кроў маладога бунтара пралілася на тым самым мейсцы, дзе цяпер стаіць клюб „Інтэрмол“.*

### „Маладая Іскра“.

У 1905 годзе да рэволюцыйнай моладзі пачала далучацца і вучнёўская моладзь. Істнаваўшы ў Менску партыйны камітэт «Іскры» выдзеліў 2 таварышоў для працы сярод вучняў.

Была утворана організацыя моладзі „Маладая Іскра“. Організацыя мела сувязь з чыгуначнікамі і сябры яе карысталіся там папулярнасьцю.

Працавалі маладыя „Іскраўцы“ па заданьнях дарослых: раскідалі праклямацыі, агітавалі сярод салдат, вучылі няпісьменных рабочых і г. д.

У дэманстрацыі 18-га кастрычніка на пляцы Віленскага вакзалу маладыя „іскраўцы“ прынялі актыўны удзел. Тут быў цяжка зранены адзін з лепшых работнікаў «Маладой Іскры»—Валодзя.

Істнавала „Маладая Іскра“ да 1907 году. У гэты год—год суровай рэакцыі, шмат «Іскраўцаў» трапіла ў турму, многія уцяклі з Менску. Шмат «Іскраўцаў» стала на службу агульна-рабочаму руху ў радох бальшавікоў.

---

Вось нашы папярэднікі ў эпоху першай рэволюцыі. Яны марылі аб аб‘яднаньні рабочых падросткаў у моцную баявую організацыю. Абставіны перашкодзілі ім шырэй разгарнуць сваю працу. Але нам, праз 10 з лішніх гадоў удалося ажыцьцявіць іх думкі. «Клейн-Бунд», «Югэнд Бунд» і „Іскра“ пралажылі шлях камсамолу Беларусі.





Пасьля рэволюцыі 27-га лютага пачаўся масавы рух моладзі. Пачалі зьяўляцца організацыі вучняў.

Рабочая моладзь адразу гуртавалася наўкола „Бунда“.

Камсамол радзіўся, калі ўлада перайшла ў рукі рабочых.

У 1918 годзе шмат маладых рабочых пакінулі свае майстэрні, праходзілі праз фронт —уваходзілі ў шэрагі Чырвонай гвардыі і наступалі на Менск.

3 сьнежня немцы пачалі эвакуіравацца. Шмат буржуяў было, якія пачалі зьбіраць свае манаткі, хацелі нават забраць сваю маемасьць. Але... моладзь няпушчае: тавары рэквізыраваны—належыць дзяржаве і квіта!

10 сьнежня наш Менск стаў чырвоным бальшавіцкім.

Т р ы н а ц ц а т а г а сьнежня зьявіліся плякаты, пісаныя ад рукі, якія паведамлялі:



**13 сьнежня ў памешканьні „Дваранскага сабранія адбудзецца мітынг рабочай моладзі.**

**Усіх маладых рабочых просяць зьявіцца.**

Сустрэўшы гэта паведамленьне я падумаў: мабыць гэта і да мяне належыць—мне-ж толькі 16 гадоў.

І зараз-жа пасьля работы я пайшоў на сход.

— Ты ўвесь абпэцканы, нагавіцы падраные—куды табе ісьці на сход!—адгаварывала мяне маці.

— Нічога, гэта на бальшавіцкі! — адказаў я мацеры і пайшоў.

Гэты сход быў скліканы „Югэнд—Бундам“.

Але астаўшыся пасьля сходу невялічкая група парашылі: павінен быць камсамол! Мяне таксама прыцягнулі ў гэту групу.

Пачалі працу.

Першым, пастанавілі, пайсьці да „Югэнд—Бундаўцаў“ каб разлажыць іх рады.

Пайшло нас тагды чатырох у клуб „Югэнд—Бундаўцаў“. Пытаем:—дзе Алікер? Ён зараз-жа выходзіць (у гэты час ён быў сэкратаром організацыі).

У „Югэнд—Бундаўцаў“ адбывалася якраз у гэты час тайнае пасяджэньне—хацелі Алікера выключыць з організацыі за тое, што ён быў бальшавік.

Алікер тут-жа нам заяўляе, што ён выходзе з „Югенд—Бунда“ і пераходзе ў нашу організацыю.

Занепакоіліся „Югенд—Бундаўцы“—хацелі ўстрымаць іншых, якія пайшлі за Алікерам але было ўжо позна.

Перайшло ў нашу організацыю за Алікерам і яшчэ тры сябры камітэту і здаецца, перайшоў сам старшыня,

На другі дзень—15 сьнежня, у цяперашнім клюбе Карла Маркса адбыўся новы сход. Прышло чалавек 50. Зандзер зрабіў даклад аб значэньні камсамола.

Добры даклад, жывы, агністы,—такі, як мы самі былі ў тыя дні.

Паставілі на галасаваньне!

—Патрэбен камсамол ці не?

Усе паднялі рукі—„за“—патрэбен камсамол! Толькі адна рука вучня „казённае гімназіі“—была супроць, але... тут-жа і ўцёк.

На гэтым сходзе абралі камітэт у складзе 10 асоб: Зісман з Польшчы са стажам у юнацкім руху з 13 году, Зайдэнвар—з Варшавы, Гарбаноў—беларускі сялянскі хлапец, Алікер—быўшы, як ужо сказана, сэкратар „Югэнд—Бунда“,—у яго ў кішані была яшчэ „Югэнд—Бундаўская“ пячатка,—я і яшчэ некаторые. Тады-ж і выбралі дэлегатаў на абластны зьезд,

На гэтым сходзе толькі некалькі інтэлігэнтаў увайшло ў нашу організацыю. Іншы б арганізавалі:—„Саюз вучняў—камуністаў“.

Першыя крокі былі цяжкія. Камітэт зьбіраўся ў гасьц. „Еўропа“ пакой 56 і галоўнае было заданьне пабудаваць клюб.

Клюб пабудавалі праца наша пачала пашырацца і пайшла ўперад досыць шпаркамі крокамі.





# Першы этап.

## Смаленск—Менск—Вільня—Менск—Смаленск.

Беларускі саюз радзіўся ў Смаленску ў 1918 годзе. Менск у гэты час быў у капцюрох нямецкіх юнкероў.

Заходняя камуна аб'яднала ў той час Смаленскую, Вітабскую і Магілёўскую губэрні.

Рэволюцыйны рух сярод моладзі ў некаторых мяйсцох Заходняе камуны пачаўся ўвясну 1918 г., але на першы час організацыі займаліся культурна-асьветнай працай.

У Смаленскім „Саюзе рабочай моладзі імя III-га інтэрнацыяналу“ разам са старшынёю—камуністам Вараб'ёвым, працуюць—меньшавікі і бундаўцы.

Вось толькі ўлетку зьяўляюцца дзьве моцныя камуністычные організацыі—у Невелі і Раславе.

У Камітэце Смаленскай організацыі зьяўляюцца патрэбнасьць рэорганізацыі саюзу. Рэорганізацыя—адбылася.

У склад новага прызыдыуму камітэту ўвайшлі камуністы—Флакса, Прашчыцкі і Ахманаў.

### На першым Усерасійскім зьезьдзе.

Да Ўсерасійскага зьезду часу аставалася мала. Не магло быць і гутаркі, каб склікаць раней абласную, падгатоўчую канфэрэнцыю.

Заходняя частка дала 5 дэлегатаў ад 4-х арганізацый.

У часе працы зьезда адбылося пасяджэньне дэлегатаў. Заход. частк., на якім абгаварвалі пытаньне аб організацыі заходня-абластнога аб'яднаньня.

Гэта—пасяджэньне прапанавала Смаленскаму саюзу склікаць абластную саюзную канфэрэнцыю.

### Першы абластны зьезд.

Першы агульны сход Смаленскай організацыі адобрыў нашу пастанову. Падгатоўчая праца для зьезду пачалася.

Першы абластны зьезд пачаўся 20 сьнежня 1918 г. Прысутнічала 42 дэлагат ад організацый Вітабскай губ., 1—Смаленскай, 2—Менскай, 5—Магілёўскай.

Зьезд парашыў, заслухаўшы ад т. Мясьнікава аб становішча Рэспублікі—сілы свае даць Чырвонай Арміі. Зьезд пазнаёміўся з працай усерасійскага зьезду і дзейнасьцю ЦКРКСМ.

Асабліва шмат увагі было зьвернута эканамічна-прававой і культурна-асьветнай працы. Было шмат унесена дабавак да пастановы Ўсерасійскага зьезду і выклікалі пытаньне аб эканамічным становішчы сялянскай моладзі.

### Аб'яднаньне з Літвой.

Пасьля зьезду абраны абластны камітэт прыехаў у Менск і аб'явіў сябе *ЦККСМ Беларусі.*

Першым крокам актыўнай політычнай працы *ЦК* было заклікваць усю рабоча-сялянскую моладзь прыняць актыўны ўдзел у выбары саветаў пад сьцягам камуністычнай партыі.

Тады-ж была пастанова выдаваць „Факел Камунізма". Політычные падзеі высунулі прад намі задачу—аб'яднаньне Літвы з Беларусьсю. 9-га лютага на пленарным пасяджэньні *ЦККСМБ* і прадстаўнікоў Літвы было аб'яўлена аб'еднаньне *ЦК* Літбел стаў з *ЦК Беларусі* і трох прадстаўнікоў Літвы. Хутка *ЦКМол* пераежджае ў Вільню і пачынае сваю працу.

### ЦК КСМ Літбел.

Яшчэ да прыезду ў Вільню ЦК туды прыехаў сябра ЦК Зандлер і выпусьціў 1-шы нумар „Факела Камунізма".

*ЦК* у Вільне прыняў актыўны ўдзел у працы абласнога зьезду партыі. На 3-ці зьезд *РКП* былі пасланы дэлегаты ад КСМ.

*ЦК* наладзіў сувязь між старымі і новымі організацыямі Рэспублікі.

Асабліва добра была пастаўлена выдавецкая праца. Кожны тыдзень выхадзіў орган *ЦК* „Чырвоная моладзь" і Быў здадзены матар'ял для другога нумару „Факела Камунізму". Увесь гэты матар'ял загінуў у час неспадзеўнага захвату палякамі Вільні.

## З Вільні ў Менск.

У час захопу Вільні палякамі ўсе дакумэнты *ЦК* загінулі

Сэкратар *ЦК* пайшоў на баявую працу—прымаў удзел у бойках на вуліцах Вільны. Прышлося організацыйную працу пачынаць нанова. Большасьць сяброў *ЦК* разьехалася ў правінцыю і праводзіла працу на мясцох.

*ЦК* мабілізаваў 20⁰ ₀ саюзу на фронт. Разам з гэтым вёў падгатоўчую працу дзеля скліканьня Беларускага зьезду КСМ. Зьезд быў назначаны на 10 мая.

У Менску зноў пачалі выходзіць: „Чырвоная Моладзь" і выйшаў 2—3 нумар „Факела Камунізма".

Польская армія заняла Беларусь і зьезд назначаны намі не адбыўся.

У жніўні савецкі Менск—у руках белапалякаў.

*ЦК* эвакуіравалася ў Смаленск. Шмат сяброў *ЦК* было кінута ў Чырвоную Армію.

Так у працягу 8 месяцаў Беларускі камсамол пасьпеў прайсьці шлях: Смаленск—Менск—Вільня—Менск—Смаленск.



# У кіпцюрах белага арла

*(8, VIII, 1919 г.— ..., VII, 1920).*



Многа цяжкіх бед перажыла Беларусь, многа крыві пралілося на яе палёх, многа енку і стогну яе працоўнага люду чулі лясы, балоты і шляхі Беларусі. Але рэдка калі прыходзілася ей перажываць тое, што прынясла апошная польская акупацыя.

Мерным крокам адходзіла з Беларусі Чырвоная Армія. Воласьць за воласьцю, павет за паветам захопліваліся белапольскімі легіонамі. 8-га жніўня ў руках генэрала Шептыцкага апынулася сталіца Беларусі—Менск. Праз некалькі дзён легіоны дасунуліся да Бярэзіны і тут павінны былі спыніцца, астаноўленыя Чырвонай арміяй.

Пачалося панаваньне над Беларусьсю кіпцяў „белага арла“ Беларусь папала пад бацькаўскую апеку пана Пілсудзкага. Яшчэ 22 красавіка, захапіўшы Вільню, ён выдае вельмі цікавую адозву да насяленьня быўшаю Вял. Княжства Літоўскага. Гэтая адозва ў вялікім ліку зьявілася і на вуліцах Менску праз некалькі гадзін пасьля захвату горада акупантамі. Ось зьмест яе: Беларусь шмат гадоў ня ведаес свабоды; яна увесь час находзілася пад гвалтам—расійскім, нямецкім, ўрэшце, бальшавіцкім. „Гэткая бязупынная няволя, добра вядомая і мне самому, як раздіўшамуся на гэтай нешчасьлівай зямліцы, павінна быць ўрэшці спынена“. Польскае войска, прышоўшае на Беларусь, нясе ўсім вам свабоду. Хачу Вам даць магчымасьць развязаць ўнутранія нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы“. На Беларусі яшчэ грымяць гарматы, але ўлада з ваенных рук перададзена у цывільны загад, у каторы будуць запрошаны мясцовыя людзі. Мэты ураду такіе: 1) Даць магчы-

масьць жыхарам пагутарыць аб сваіх патрэбах праз абраных імі прадстаўнікоў. 2) „Памагчы, каму трэба, жыўнасьцю, памагчы у працы вытворчай абясьпечыць лад і супакой. 3) Апекавацца над усімі бяз розніцы веры і нацыянальнасьці". Канчаецца адозва прызывам зьвертаецца да пастаўляных уладаў „адкрыта і шчыра у кожнай патрэбе і ў справах, каторыя ляжаць Вам на сэрцы і цікавяць Вас".

Адозва напісана у сантымэнтальна-рамантычным стылю многагэлаголівага Керенскага. Тут і „забытая богам старонка", і „нешчасьлівая зямелька", тут і „сэрца", і „шчырасьць". Але цікава тое, што тут ёсьць і „жыўнасьць". Калі ня зробіш уплыву на сэрца, то рабі яго на жывот. У адозве гаворыцца толькі аб „унутраніх" справах, і нічога не сказана аб агульнай незалежнасьці. Само сабою зразумела, што аб соцыяльным пытаньню няма ні слова, бо развязываць сацыяльныя пытаньні—гэта справа большавікоў, каторых так ня любіць пан Пілсудзкі; апроч таго, калі паставіць у абвестку соцыяльныя справы, тады ня можна было-бы Пілсудзкаму гаварыць аб прызыве да ўлады „мясцовых людзей, сыноў гэтае зямлі", каторых бальшавікі пагналі з іх беларускіх маёнткаў. Гэтые „мясцовые людзі" потым у самой справе былі пакліканы да ўлады і беларускае сялянства добра памятае іх.

У канцы жніўня выдаецца абавяшчэньне № 16, каторае таксама думае аб гэтых „мясцовых людзях". Там ясна, чорным па беламу, напісана так: „Усякая прыватная ўласнасьць, ці будзе яна награбленай, ці мо' прыпадкова знаходзячайся у незаконных ўласьціцеляў, павінна быць безадкладна зьвернута. Уласьціцелі зямельнай маетнасьці, альбо іх правамоцные намесьнікі змушаюцца да 10 верасьня прыняць у сваё ўладаньне зямельную маетнасьць". Зразумела, што паны земляўласьнікі, „сыны гэтае зямлі", пасьпяшылі выканаць прадпісаньне і пачалі забіраць свае маёнткі ад пасынкоў Беларусі, каторые дзе-не дзе ў часы бальшавіцкай ўлады захапілі панскую зямлю.

Каб здаволіць нацыянальнае пытаняне, хутка пасьля захвату Менска (20 жніўня 1919 г.) выдаецца загад № 8 аб карыстаньні беларускаю моваю. Загад абвяшчае: „Ст. І. На абшарах, занятых польскімі войскамі урадавай мовай лічыцца мова польская. Урадавыя загады будуць выдавацца у польскай мове побач с перакладам іх на мову беларускую. Першае месца займае аснова польскай мовы. Ст. II. У сваіх зносінах з уладай насялсньне можа ужываць, побач з польскай, і мову беларускую".

Гэты загад аб мове таксама вельмі двухсмысловы. Так і ня ясна, што такое з формальна-юрыдычнага боку беларуская мова. Мова польская—урадавая. А беларуская? У ваўсякім разе не урадавая. Тым ня менш яе можна ужываць. Праўда, гэтае ужываньне, па загаду, не забязпечана абявязковасьцю са стараны ураду „разумець" гэтую мову.

Пры ўступе ў Менск Пілсудзкі выдаў яшчэ адну адозву да беларускага насяленьня. У адозве вызначалася доўгае сужыцьцё беларускага народу з польскім народам. Гэтае сужыцьцё памалёвана ружоваю фарбаю. Адозва вызначае, што польскія войскі, заняўшыя Менск і прагнаўшыя бальшавікоў, адчынілі зноў для Беларусі магчымасьць далейшага шчасьлівага сужыцьця двух братніх народаў. Пілсудзкі заяўляе, што ён „хацеў-бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі; што датычыць да ўзаемаадносін з Польшчаю, то Беларусь будзе гаварыць з ею, „як роўны з роўным і вольны з вольным".

Сярод беларускіх незалежнікаў прыход Пілсудзкага, быўшага пэпэса, падняў надзеі. Яны паверылі яго адозвам і ня бачылі ўсей няяснасьці і адмоўных бакоў гэтых адозваў. Паміж раднымі Рады Беларускай народнай рэспублікі пачынаецца жывая перапіска. Сутнасьць гэтай перапіскі сводзіцца да таго, каб радные хутчэй зьбіраліся у Менск і адразу прыступалі да будаваньня Беларусі. Радные зьбіраюцца, але вельмі паволі.

У беларускай тагочаснай прэсе („Звон", „Беларусь") так сама на кожным кроку мы спатыкаемся з гэтай верай у Пілсудзкага і дэмакратыю польскага народу. „Мы зьвяртаемся да польскай дэмакратыі з гэткімі славамі: калісь за часоў быўшага Вял. Княжства Беларуска-Літоўскага нашы продкі памаглі Вашым продкам збавіцца ад нямецкай крыжацкай навалы; калісь супольна мы бараніліся ад нашых ворагаў і былі дужые і культурные, але калі Польшча перастала паважаць нашы дзяржаўные і культурна-нацыянальные патрэбы, то гэта прывяло да згубы і доўгалетняга полану і нас і вас" (Звон. 25, VIII, 1919, № 1.). Польшча павінна дапамагчы Беларусі. Яна павінна пасунуць свае войскі яшчэ на ўсход, каб адваяваць ад бальшавікоў Усходнюю Беларусь і такім спосабам аб'яднаць усю Беларусь. Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампана. Стары друг —лепш новых двух. Няўжо-ж дзеля таго, што Беларусь так заняпала і абяднела і не без гістарычнай віны з боку Польшчы, дык яна не мае права на братэрскую помач ад свайго вінавайцы ў гэты рашучы і атпаведны момант? Не, разам мы занепалі, разам нам трэба і вясьці сваё адбудаваньне! Трэба рабіць да канца"! (Звон, 27, VIII, 1919, № 2).

На 18-е верасьня назначан прыезд у Менск Пілсудзкага. Захапленьне белых беларускіх „дзеячоў" вcase ходзіць да апагея. 17-га верасьня у газэце „Звон" вялікімі літарамі надрукованы такія словы: „Гэтымі днямі прыежджае да Менску Начальнік Польскай Дзяржавы, Язэп Пілсудзкі. Гэта, дзякуючы яму наш змучаны, абяздолены край збаўляецца ад крывавага панаваньня маскоўцаў. Гэта ён зьвяртаўся да насяленьня Беларусі з адозваю, у каторай абвяшчаў, што нясе нам волю і збаўленьне

ад векавой крыўды і няволі". Далей ідзе вынятак з віленскай адозвы гэтага збавіцеля Беларусі, „Прывет табе, Начальніку Польскай дзяржавы на тваей роднай зямельцы Беларусі".

На другі дзень у Менск прыехаў Пілсудзкі. Урачыстае спатканьне яго было назначана у Шляхэтнай салі (гдзе цяпер клюб К. Маркса). Тут сабраліся сьліўкі польскай буржуазіі і чынавенства. Былі прысутнымі прадстаўнікі і рэлігій Беларусі —каталіцкій біскуп Лазінскі, праваслаўны епіскап Мелхісэдэк, мусульмансьі мула і еўрэйскі рабін. Прыцягнулі з Заслаўшчыны і селянаў-кулачкоў. Сярод гэтай прыемнай кампаніі былі прадстаўнікі Беларускага Нацыянальнага Камітэту, каторы злажыўся ў Менску да сходу Рады. Старшыня Нац. Камітэту выступіў з прывітаньнем „Пану Начальніку Дзяржавы Польскай" Зьмест яго такі: Ужо шосты тыдзень, як мы жывём спакойным жыцьцём. Разьвеяўся чырвоны туман, разьвеялася відмо галоднай сьмерці. Гэты цуд ёсьць дзелам гераічнага польскага войска, каторага Вы ёсьць начальнікам. Вітаю Вас ад імяні нашых беларускіх дэлегацыяў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленьне, выслаўляю гарачую падзяку за звальненьне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, каторы на гэты раз прыбраўся ў большавіцкую вопратку". Але „плачуць яшчэ маткі у Вітэбску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць, бо забаронен, хаўтурны голас аб'імшэлых званіцаў Смаленску". Мы ім нічым памагчы ня можам, аднак-жа мы пэўны, што страшная мара развеецца і над імі. „Мы верым і спадзяёмся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівым Гораднам вольнымі і шчасьлівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцы нашые адвечные астрогі на рубяжох Масквы—Віцебск і Магілеў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяёмся у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага слаўнаму Прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне ня толькі нашае сягоньняшняе „дзякуй", але і заўсёды: „здароў будзь, прыходзь да нас наш госьцю мілы, суседзе дарагі".

Далей гэтага захапленьня няма куды ісьці. Тут і „чырвоны туман", тут і „відмо галоднай сьмерці". Відна і беларускіх дзеячоў зьбіла з толку тая „жыўнасьць", аб якой пісаў Пілсудзкі ў сваей адозве. Даваць коммэнтарыі да вышэйпаданага прывітаньня няма сэнсу. Праз некалькі тыдняў нават для саміх незалежнікаў стала ясна, што яны абмыліліся ў сваім захапленьні.

Адначасна з гэтымі падзеямі Старшыня Польскага Савету міністраў Падэрэўскі вызывае з Парыжу А. Луцкевіча, старшыню Рады мыністраў Р. Б. Н. Р. для размовы аб беларуска-польскіх адносінах. Размова іх была кароткая. Незалежнасьць Луцкевіча не спадабалася Падэрэўскаму. Луцкевіч быў інтэрнован, а кіраўніцтва ўсходніх земляў абвясьціла Раду Б. Н. Р. распушчанай. Толькі праз месяц Луцкевічу удалося

пры судзейнасьці Пэпэсаў дабіцца ў Падэрэўскага абяцанкі на созыў Рады.

Між тым у Менск ўжо сабралася значная частка радных. Польская захватная палітыка ўжо ясна стала відна радавай большасьці. Сярод дэпутатаў вызначыўся рэзкі падзел на дзьве часткі. Эсэры і фэдэралісты былі процiў якога-бы то ні было згодніцтва з польскай ўладай. Група Нацыянальнага Камітэту, на чале каторай стаялі беларускія эсдэкі, выказывалася за згоду з акупантамі. Пры такім настрою Рада сабралася 12 сьнежня 1919 году. Адразу-ж выявілася, што обедзьве групіроўкі разам працаваць ня могуць. Радные разышліся ўжо на такім драбязговым пытаньні як пасылка прывітальнай тэлеграмы Пілсудзкаму.

13-га сьнежня рэволюцыйным шляхам собраліся 50 радных (з 87-мі) эсэры і сац-фэдэралісты, і ухвалілі рад пастановаў—яны абвясьцілі сабе запраўднай Радай, выключыўшы з Рады меньшасьць; прынялі рэзалюцыю аб падцьвярджэньні акта незалежнасьці Беларусі; вынясьлі пратэст процiў акупантаў і абралі прэзідыум Рады. Ластоўскаму (с. р.) дапаручылі сфармаваньне новага габінэту. Меньшасьць Рады (37 радных) абвясьцілі сябе Найвышэйшай Радай і аставілі стары габінэт Луцкевіча. Такім спосабам утварыўся раскол старой Рады на дзьве Рады з двумя габінэтамі. Актыўная частка антыпольскай Рады хутка адбыла ў Літву, гдзе і сядзіць да нашага часу. Найвышэйшая Рада асталася ў Менску і валачыла сумнае жыцьцё. Ей удалося утрымаць толькі дзьве установы: Беларускую вайсковую Камісію і Школьную Раду.

8-га жніўня 1919 г. польская армія як мы казалі уваходзіла ў Менск і лавінаю расшыралася па гарацешнай Беларусі. Армія, што і гаварыць, па надворнаму свайму выгляду была вельмі бліскучая. Добрые коні, зброя і вопратка; вялікі лік артылерыі і танкаў. Жаўнеры елі белы хлеб і сала. За арміяй цягнуліся абозы на фурманках з запаснымі коламі і тармазамі. Вельмі часта ў абозах і артылерыі магчыма было бачыць асобую пароду цяжолавозаў з доўгімі вухамі. Фурманкі былі пабіты ўсякай жыўнасьцю.

Буржуазія і шляхцюкі спаткалі армію з захапленьнем. Часта магчыма было відзець, як паны і пані, адзетыя ў шырокія вопраткі, кідалі ў жаўнераў кветкамі і выходзілі з хлебам—сольлю. На галовах у паняў і паненак былі павязаны „амарантовыя“ хусткі, ў паноў „амарантовыя“ ружэткі у пятлічках. Зусім ня такі настрой быў у пралетарскіх колах і ў колах гарадзкой і вясковай беднаты. Прышла армія на абарону фабрыкантаў, паноў, ксяндзоў і г. д. І чым больш яна была бліскучая, тым цямней было ў сэрцы беднаты. У галовах будзіліся думкі, зьвязаныя са страхам і адчаяньнем. Чаму ў нас, у беднаты, няма столькі багацьця, як у панства, каб так добра утрымаць нашу збавіцельку чырвоную армію? Здавала-

ся, што ніколі ня хопіць сілаў у пролетарыята і сялянства, каб прагнаць гэтае бліскучае бела-польскае войска.

Адразу пасьля уходу арміі па гарадох, мястэчках і вёсках Беларусі пачаліся пагромы. Шукалі камуністаў, еўрэяў, сялянаў, каторые спачувалі саветам. Даволі было каму нібудзь з паноў ці падпанкоў паказаць на чалавека пальцам, што гэта бальшавік, як гэты чалавек ставіўся „да сьценкі“. Шмат загінула народу, зусім непавіннага ў бальшавізме. Дасталося каапэрацыйным і еўрейскім крамам, каторыя таксама чамусь лічыліся бальшавіцкімі і аддаваліся на разгром. Па гарадох і мястэчках найбольш цярпелі еўрейскі пралетарыят і бедната, па вёсках—батракі савецкіх маёнткаў і сялянская бедната.

Вярнуліся фабрыканты і паны. І тые, і другіе пачалі шукаць і забіраць сваю маетнасьць і зямлю аднятую ў іх бальшавікамі. Пайшлі даносы, обыскі. Запоўніліся турмы гарадзкою і вясковаю беднатою, У турмах для лепшага сазнаньня намечаных праступнікаў былі пушчаны ў ход жастокія пыткі. Па вёсках раз‘ехаліся канаркі—жандармы, утварылі вясковые пастэрункі і разам з вярнуўшымся панствам вышуківалі тых, хто быў проціў пана. Загулялі па мужыцкіх карках, шомпал і бізун. Толькі і чулася па Беларусі „dwadzieścia pięć“. Паны паатрымывалі вышэйшыя пасады як у цэнтру, так і на мясцох. У паветах яны сядзелі як старасты, у валосьцёх—гмінах, як войты. Моц эканамічнае злучылася з уладай палітычнай. Рабочые па гарадах і сялянства па вёсках былі зусім без абароны.

Паўсюды насаджаўся зьвярыны каталіцка-польскі шавінізм. Католік і паляк сталі сінонімамі. Аднекуль зьявілася цэльная хмара ксяндзоў. Трымалі яны сябе з вялікаю пагардаю і сазнаньнем сваей „бажэственна-польскай“ вартасьці. Беларусы каталікі былі запісаны ў палякі. Назва „беларус“ была для акупантаў пугалам, ня гледзячы на авечы настрой беларускіх „дзеячоў“. Паны бралі пачуцьцём, што беларускі рух, як рух запрыгоненага імі сялянства, ёсьць рух у корані не нацыянальны толькі, але і сацыяльны. Па гарадох узяліся пры дапамозе рэлігіі і нацыі разлажыць рабоча-прафэсыянальны рух. Зьявіліся каталіцка-польскія і іудэйска-еўрэйскія рабочыя саюзы. Каталіцкім саюзам даваліся ўсялякія прывілеі. Нават каапэрацыю разьбівалі па рэлігійна-нацыянальным прыкметам. Пайшла палёнізацыя школы. Патрымываліся ўсякімі незаконнымі сродкамі каталіцка-польскія школы. Школы рускія чыноўнічага і „истрнно-русского“ патрошку лічыліся, як магчымыя і цярпімыя. Асабліва даставалася беларускім школам. Не выратаваліся і еўрэйскія хэдэры, хоць яны і былі клерыкальнымі школамі еўрэйскіх сінагогальных абшчынаў. Паўсюду раскінуліся аддзелы „Стражы Крэсовай“ і „Камітэту Абароны Крэсаў“. Гэтыя клерыкальна-культурныя арганізацыі шырока разьвінулі эканамічную працу, стараючыся перацягнуць у каталіцка-польскі бок незаможныя групіроўкі белару-

скага жыхарства той „жыўнасьцю“, аб якой пісаў Пілсудзкі ў сваёй адозве. Апроч таго, разам з „канаркамі“ яны несьлі на сабе палітычную абарону крэсаў, займаючыся сыскам і даносамі. Асабліва разьвінулася праца гэтых крэсавых арганізацыяў, калі быў абвешчан „плебісцыт“ на Беларусі. Добра памятны ўсім крэсавыя з‘езды найчасьцей сялянаў аб прылучэньні да Польшчы. Сялянаў заманівалі у горад, „жыўнасьцю“, часам цягнулі пагрозамі, а то і сілаю, тут іх да з‘езду запіралі і выпускалі толькі ў салю пасяджэньняў. Сяляне, даведаўшыся, у чым справа, уцякалі, як з турмы. Часам вынікала і апазыцыя, ня гледзячы на тое, што падбіралі самых забітых, пакорных і несьвядомых сялянаў.

У адказ на такія акупацыйныя злачынствы пачынаецца на Беларусі падзёмны рух, каторы ў гарадох носіць амаль што выключна політыка-соцыяльны кірунак, а на вёсцы яшчэ і нацыянальна-беларускі кірунак. Найраней пачаўся рух сярод маладых рабочых. Профсаюзы, у каторых да гэтуль меў вялікую сілу бунд і поалей-ціон, ня хочуць і ня могуць ісьці за гэтымі згодніцкімі партыямі. Шырока разьвіваецца тут комуністычная праца. Бунд павінен акрасіцца ў комуністычную фарбу. Падпольная організацыя Компартыі Літвы і Беларусі з кожным днём мае ўсё больш і больш староньнікаў. Вельмі хутка ад агітацыі і прапаганды партыя пераходзіць да падгатоўкі паўстаньня. Здабываецца зброя, організуецца разьведка і невялічкія атрады.

Заварушылася і вясковая бедната. Дагэтуль яна мела слабую сувязь з комуністычным рухам. Сялянства на Беларусі было пераканана, што бальшавікоў на Беларусі няма, што яны жывуць у Маскве, а сюды толькі прыежджаюць, каб змагацца з панамі. Акупацыі імпэрыялістаў, праганяўшыя Вялікі Кастрычнік з Беларусі падтрымывалі гэты вясковы міф аб бальшавікох. Політыка-соцыяльны і нацыянальны ўціск над вёскаю прабудзілі вясковую моладзь. І сюды прыйшла Компартыя і Комсамол. Паралельна з імі вырастае „Беларуская падпольная організацыя“. Яна вырастае на каранёх беларускай вёскі. Складаецца яна большасьцью з сялянаў і вясковых настаўнікоў. Цэнтрам „Організацыі з'яўляецца Беларускі Пэдагагічны Інстытут у Менску“, начале арганізацыі хутка утвараецца камітэт пад назваю Першай тройкі. Праграма „Організацыі зусім супадае з праграмаю Компартыі“. Асаблівым сваім заданьнем яна ставіць абхапіць пратэстуючыя колы вёскі, выдзеліць там беднату, а з яе выбраць актыўнейшыя элемэнты ня толькі для рэвалюцыйнай, але і для коммуністычнай працы Для гэтых мэтаў Організацыя шырока карыстаецца „мужыцкай“ беларускай мовай. Апроч таго, Організацыя ставіць сваею мэтаю разлажыць белы беларускі рух, пакіраваць яго па чырвонаму руслу сацыяльнай, клясавай рэвалюцыі і ўліць у інтэрнацыянальны рух пролетарска-сялянскага вызваленьня.

Ня раз падымаецца пытаньне аб злучэньні Організацыі з Компартыяй Літвы і Беларусі, чаго-жадае і на чым настаівае Організацыя. Злучэньню прашкаджаюць падпольныя ўмовы існаваньня. Наступае час вялікаго бою; няма часу займацца абфармленьнем. Яно адкладзена да лепшых часоў, каторые ужо не за гарамі.

У выніку працы Коммуністычных організацый вырастае паўстанскі рух, каторы з асаблівай сілай выбухае вясною 1920 году. Працуюць ува ўсю партызанскія групы, працуюць адзіночкі тэррарысты. Крывею паноў і крывею паўстаўшых масаў пакрываецца змучаная Беларусь. Расстрэлы, турмы, шомпалы і бізуны ўжо ня могуць задушыць паўстаньня рабочых і сялянаў Беларусі. Тым больш, што і ў польскай арміі пачынаецца разлажэньне. І тут прасыпаюцца рабочые і сяляне ў вопратках легіянэраў. Ўжо ёсьць адказы ад стрэлаў ў народ. Ужо партызанскія групы маюць сваіх людзей сярод легіянэраў. Слабнуць крылы белаго арла. Ён пачынае разжымаць свае кіпці, ўпіўшыеся ў жывое цела рабочых і сялянаў Беларусі.

А тут яшчэ пачынаюцца недахваты эканамічнаго кірунку ў польскай арміі. Справа ў тым, што „жыўнасьць" у белапалякоў была не свая, а Антанты. Антанта зьменьшыла порцыі жыўнасьці. Сталі падымацца цэны, стала ўніз падаць польская марка. Пачаўся летні наступ чырвонай арміі. Зноў прыйшоў Вялікі Кастрычнік, на гэты раз ён прыйшоў на заўседы. 11-га ліпеня 1920 году Менск быў заняты Чырвонай Арміяй

Лік чырвонаармейцаў у раз дзесяць быў меньшым, чым уцекаючая белапольская армія. Яна уцякала ў поўным разлажэньні, пры поўнай адсутнасьці дысціпліны. Куды дзелася тая бліскучая армія каторая 11 месяцоў таму назад прыходзіла акупаваць Беларусь? Яна растаяла, пагубіла сваю маетнасьць і зрабілася натаўпам. І зразумелся рэч. Перад працоўнымі масамі, калі яны падымуцца, калі яны злучацца са сваей. рабоча-сялянскай арміяй, ня зможа устаяць самая лепшая белая армія.

Прыйшоў чырвонаармеец, змучаны, галодны, часта бяз ботаў. Працоўныя масы не абсыпалі яго кветкамі, а стараліся знайсьці для яго ў хаце кавалак хлеба. Пакойна, бодра, бяз шуму, бяз гвалтаў зноў ён за працоўныя масы і разам з працоўнымі масамі Беларусі ішоў ён на Варшаву.

1-га жніўня была абвешчана незалежная Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка Беларусі імем паўстаўшых рабочых і сяляноў. Па гэтаму пытаньню была выдадзена Дэклярацыя такога зьместу: Змучаная Беларусь пры дапамозе Чырвонай Арміі завершае справу свайго вызваленьня. Цяпер рабоча-сялянскі народ Беларусі можа выявіць сваю волю. „Організаваный рабочы кляс і працоўнае сялянства Беларусі (Комуністычная Партыя Літвы і Беларусі, Беларуская Комуністычная Організацыя, Агульны Еурэйскі Рабочы Саюз „Бунд" і Цэнтральнае Бюро Прафэсіянальных саюзаў г. Менска і Менскай

губэрні) грунтуючыся на волі працоўных масаў, выяўлянай на першым З'езду Саветаў Беларусі ў лютым 1919 году ў шэрагу рэзалюцый у поўнай згодзе с Чырвонай Арміяй і Рэволюцыйным Ваенным Саветам заходняга фронту, імем паўстаўшых рабочых і сялянаў правазгалашаюць незалежную Соцыялістычную Савецкую рэспубліку Беларусі". „Яшчэ раз пацьверджаецца, што права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца на заўсёды". Да сазыва З'езду Саветаў уся паўната ўлады на Беларусі перадаецца Ваенна-Рэвалюцыйнаму Камітэту, ў каторы Компартыя Літвы і Беларусі дэлегуе тры прадстаўнікі, Агульны Еўрэйскі Рабочы Саюз „Бунд" аднаго прадстаўніка, Беларуская комуністычная Организацыя—аднаго прадстаўніка.

З гэтага часу на тэрыторыі быўшай Менскай гбуэрні у ўтворанай тут Беларускай рэспубліцы, пайшла праца па адбудаваньню зруйнаванага жыцьця на асновах вялікага кастрычніка Будуецца цэнтр, каторы ў будучыне аб'яднае рабочых і сялянаў усей этнаграфічнай Беларусі.

Ігнатоўскі.



# У дні белапанскага панаваньня



Я. Каліма

*(Успаміны).*

Больш трываць ужо нельга было. Белапанская навала разыгралася не на жарты. Штодзень даходзяць чуткі: там забілі аднаго, там двух, а там пяцёх і дзесяцёх маладых хлапцоў. Катуюць па зверску. Ды ў вёску Слабодку-Кучан- таксама ноччу ўжо раз наскаквалі па т. Аст-ку, але дарма. Прамахнуліся. А тут чуткі распушчаны, што Лапухоўскі пан Іодка абяцаў, вялікую суму грошаў таму, хто дапаможа „сцапаць“ яго. На мяне гастрыў зубы пан Рубкевіч за дапамогу чырвонаармейцам пры адступленьні. Апроч таго „даліся мы ў знакі“ кулаком за прапаганду комуны ды вопісь хлеба. Вось ворагі цяпер і ўзьнялі свой голас.

Гэта было ў пэўныя дні белапанскага панаваньня у восень 1919 году. Панаваў шалёны ўздым шляхецтва. Усё жывое прыціхла. Я і Аст—ка (загадчык аддзелу народнай асьветы Пукаўскага райкому) апынуліся ў адзіноцтве. Туляцца па лясох бяз працы ўжо абрыдзела, а таксама і трываць панскі уціск, які з кожным днём набываў усё больш страшэная формы. А ня дарма-ж кажуць: паспытаўшы салодкага, ня хочацца горкага. Жадалася кіпучай працы. А такая праца магчыма альбо за фронтам, альбо тут, але ў сувязі з іншымі падпольнікамі.

Мы рашылі шукаць ці таго ці другога.

У кастрычніку таго-ж году абудва йдзем у в. Сьвінку. Тут бачым, што моладзь ужо пачынае абурвацца супроць панскага бізуна, якога пасьпела паспытаць. І нас накіроўваюць у Менск, даўшы адрас т. Ш-скага, які працаваў у падпольнай комуністычнай організацыі. Хлопцы Сташ. і Пархім. даюць нам свае пасьведчаньні, якія яны дасталі ў гміне і з словамі „варачайцеся з новымі весткамі“ выпраўляюць у Менск.

Я не магу цяпер пераказаць усіх тых пачуцьцяў і думак, якія нас ахапілі пры гэтым выпаўненьні. Адно толькі сьвяцілася ў вачох усіх нас—гэта: паном ня доўга тут балявать. Поўныя якойсьці глыбокай надзеі, што перад намі разгартаецца новая праца, мы йшлі ў Менск.

У Менску Ш-скага мы знайшлі і праз дзён тры ўжо апынуліся на пасяджэньні падпольнае організацыі, якое адбылося на Койданаўскай вуліцы ў памяшканьні саюзу „Ігла“. Усіх падпольнікаў было сем чалавек. Прозьвішчаў іх я ня ведаў тагды, хоць і цяпер ня ведаю. Але гэтага й ведаць ня трэба было. Нас злучала адна думка: організаваць паўстаньне. Практычна гэта было вырашана так: у кожнай вёсцы організаваць маладых надзейных хлапцаў у пяцёркі і дзесяткі; узяць на вучот усё аружжа, якое маецца на руках у сялян; адзін таварыш з пяцёркі ці дзесятку трымае сувязь з адным таварышам з суседняе організацыі і так ланцугом устанаўляецца сувязь з падпольным комітэтам. Кожны з быўшых на пасяджэньні адтрымлівае пэўнае заданьне працаваць у вадным з районаў Беларусі. Я і Аст-ка павінны былі трымаць сувязь з Ш-скім і цераз яго звязваемся са Слуцкім падпольным комітэтам. Район нашай дзейнасьці—Случчына, галоўным чынам паўночная яе частка і заходняя частка Ігуменшчыны, сучаснай Чэрвеншчыны. Умаўляемся з Ш-скім аб першым спатканьні там на месцы і з гэтым вяртаемся назад.

Вось як цяпер уяўляецца мне той дзень хмурны і дажджлівы, калі мы поўныя прылівам новых сіл і энэргіі йшлі па Слуцкаму тракту з Менску. Навала сумна й панура, а ў нас на душы сьветла і радасна. Мы знайшлі тое, чаго шукалі. Перад намі шырокае поле кіпучай і адпаведнай працы, і мы ўжо не ў адзіноцтве.

Па дарозе-ж мы ўсё абгаварылі. Усіх хлопцаў, з якіх льга пачынаць працу, з якімі пасьпешна можна весьці яе, мы цяпер-жа ўжо намецілі. Разьмяркавалі між сабою ўсе знаёмыя вёскі й воласьці Случчыны й Ігуменшчыны.

За Слабадою Пырашаўскаю мы разышліся. Я зьвярнуў з дарогі ў Старыя Маргі гэтай воласьці, а Аст-ка ў Сьвінку панёс „новыя весткі“.

Так ціха пачалася падпольная праца. І ўжо праз месяц быў створаны ланцуг пяцёрак і дзесятак паўстанчых ад

Слуцку да Менску. Такія вёскі, як Варкавічы, Грывень, Жукі, мяст. Грозаў, Аксаміты, Русакі, Бадзяжы, Яўсеявічы, Пукава, Труханавічы, Старыца, Слабодка-Кучанка, Крыніца, Вялешына, Сьвінка, мяст Пясочна, мяст. Узда, Старыя Маргі, Віркова і шмат іншых ужо мелі хлопцаў, якія чакалі толькі весткі, толькі загаду ад другіх хлопцаў, з якімі была сувязь.

Але надышла зіма. З Бярэзіны ня чутно было раскацістых грукаў гармат. І праца ўся замкнулася ў кола пяцёрак і дзесятак. Кожны тыдзень я і Аст-ка наведваліся да Ш-скага. Месцы спатканьня былі розныя: то мест. Пясочна, то в. Сьвінка, то в. Віркова, а то й проста дзе ў лесе. Тут падлічаліся сілы, атрымліваліся весткі аб становішчы радавай улады за Бярэзінай, даставаліся газэты, даставаліся й зносіліся сходы, інфармацыі аб стане польскіх войскаў, і г. д. Адгэтуль-жа пускаліся тыя ці іншыя чуткі, каб тым самым у большай патайнасьці знаходзіліся нашы падпольныя арганізацыі. З Слуцку па ланцугу перадаваліся розныя адозвы праклямацыі, якія цераз ноч красаваліся ва ўсіх вёсках і валасьцёх прыклеянымі на сьценах хат, валасных будынкаў, цэркваў, а то проста раскідаліся па вуліцах.

Белы арол раз'ядаўся. Панскі бізун і гарапнік разгульваў бяз удзержу. Скора ўсе сяляне пазналі смак „дэмократычнасьці“ і ўжо з нецярплівасьцю пачалі чакаць бальшавікоў.

Нашы хлопцы гарэлі адзіным жаданьнем, як найхутчэй выйсьці з аружжам на белае вараньнё.

Надыйшла вясна. З усіх куткоў пачалі прыходзіць весткі аб замерах выступіць. Але трэба было выступаць арганізавана, сугалосна з націскам Чырвонае Арміі з Усходу. Чакалі весткі ад Слуцкага ці Менскага камітэту. Весткі ня йшлі. У гуртках трывожыліся. Нават нашла была чутка сярод хлопцаў, што Менскі комітэт пераехаў у Вільню, а там яго заарыштавалі. „Пойдзем самі біць жандараў у воласьці.. Папалім маёнткі, каб ня было дзе больш прытуліцца паном“... Мы пачалі рабіць сходы па лясох. Нельга ўжо было стрымліваць стыхійна пачаўшай паўставаць моладзі. Кожны хлопец, які меў захованую вінтоўку, патроны цяпер ужо дастаў. Ўсё сьмялей і сьмялей пачалі прызнавацца адзін аднаму, што ў каго ёсьць і радзіцца, каб далучыцца да тых, што „нешта ведаюць“, або „ўсё ведаюць“.

Але вось у самы разгар працы яшчэ ўсё організацыйнай ў Слуцкую падпольную організацыю зашываецца правакатар і ўсіх выдае. Пачынаюцца аблавы і масавыя арышты, уладжаныя дэфэнзывай. Па вёсках лётаюць „каральныя экспэдыцыі“. Наводзіцца страшэнны жах на сялянства. У паветры запахла кроўю і чалавечым мясам. Гэта жыраваў польскі „бялы ожэл“ перад вылетам у панскі вырай.

У пачатку красавіку 1920 году аб раскрыцьці Слуцкай організацыі павядамляе мяне т. Пі-чук, сябар Старыцкай організацыі, і перадае загад быць астарожным, бо мае быць наскок і на Пукаўскую воласьць. Я ў той-жа дзень паведамляю ўсіх сяброў Слабадзкое організацыі, і мы пастанаўляем, калі каго зловяць ці схвацяць ня прызнавацца і нікога не выдаваць, хоць-бы давялося й памерці пад жандарскімі гарапнікамі.

Захоўваем літаратуру, і я паведамляю суседнюю організацыю Крыніцкую. Тая ў сваю чаргу Сьвінкаўскую і г. д. Праз дзень усе організацыі былі усьведамляны аб становішчы ў Слуцку і ва ўсіх былі прыняты пастановы: падпольнікаў ня выдаваць і ня прызнавацца на дапросах у выпадках калі каго схвавяць, а за арыштаваных у Слуцку адпомставаць так, каб доўга была памятна панскім наймітом маладняцкая воля і спайнасьць пры дасяганьні сьветлага камунізму.

На другі дзень раніцаю на Слабодку наляцела панская п'яная арава. Пачаліся арышты ўсіх ад малога да старога, хто толькі выходзіў на вуліцу. Зводзілі ў гумно селяніна Салановіча і тут учынялі зьверскую экзэкуцыю. Гэта было нешта страшэннае, што не падаецца да апісаньня. Ахвяра разьдзявалася і клалася на ток ніцма. На галаву і ногі садзілася па аднаму жандару, а рэшта на пярэсьцікі пачыналі катаваць гарапнікамі, зьвітымі з тэлефоннага дроту. Калі-ж гарапнік расхвостваўся, пераварочвалі другім канцом і „жарылі“ дзяржаньнем. На ўсю вёску расносіўся душу разьдзіраючы крык ахвяры. А па хатах рабіліся вобыскі, як іх звалі паны, а, панашаму, гэта было рабаўніцтва, бо апроч масла, сала, яек ды грошай нічога не знаходзілі й ня бралі.

Было арыштована больш дваццацёх чалавек, але толькі восем выдаліся больш падазронымі. Іх найбольш і катавалі, а дзевятага Якіма Салановіча зьбіўшы да того, што той ужо згубіў усякую прытомнасьць і хватаўся за сьцены, выкрыкваючы словы: „во тут, во, во“... Застрэлі тут-жа. Рэшту павязалі і ў Слуцак. „Там скажаце,“—казалі раз'юшанныя зьверы. У ліку арыштаванных быў я,—Аст-ка і Кан-віч. Мы былі падпольнікамі. А рэшта нічога ня ведалі. Адзін быў стары селянін. Двое—зусім яшчэ малыя хлопцы: толькі што пакідалі яшчэ пасьвіць быдла.

Па дарозе да Слуцку сутрымаліся ў в. Русакох. Тут адбылося тое-ж, што і ў Слабодцы. Але арыштаваць нікога не арыштавалі, бо моладзь была ў лесе, а старыя поркаліся на папялішчах сваіх хат. (Вёска некулькі дзён таму назад пагарэла).—„Толькі пашпарылі“,—як казалі потым русакоўцы.

Нас укінулі ў турму, а назаўтра была нядзеля. Тая нядзеля, калі вывелі чатырнанцать маладых поўных сілы хлапцоў Слуцкае організацыі закутымі па руках і нагах на

„волю“. Тая нядзеля, калі да нашага чуцьця даносіліся бадзёрыя гукі „інтэрнацыяналу“ нашых таварышаў, аддаўшых сваё жыцьцё за вызваленьне працоўных мас з-пад белапанскага ярма.

Іх растралялі, а гукі іх сьпеву і цяпер гучаць па Случчыне.

Звонам запалі яны і ў нашы душы і давалі болей сьмеласьці адвагі і ўпартасьці нашу справу давесьці да канца. Мы ўжо былі пэўны, што задушыць і растраляць абурэньня ўсяго працоўнага люду нельга. Усіх не пералавілі, і нашы таварышы вядуць далей справу.

Праўда, з які тыдзень як-бы ўсё было ціха. Быў час паджыданьня новых налётаў, і моладзь рабіла перабегі з вёсак у лясы. „Цяпер не бяда. Ужо цёпла. Скора грыбы-ды ягады будуць“—чуліся галасы ў аночаных вёсках

Сувязь парвалася з падпольнымі комітэтамі, як з Менскім, так і з Слуцкім. Нас гартавалі ў турме месяц. Я кажу „гартавалі“, бо іначай і нельга сказаць ці назваць таго становішча, ў яком мы былі гэты месяц. Кожны дзень адбываліся дапросы палітычных у фэльчэрскай камеры. Але гэткія дапросы і мог толькі выдумаць і ўжываць польскі пан—„дэмакрат“. (У дэфэнзыве служылі і пэпээсы). Дапрашваючы, як мага білі рызінаю з каляса, сьціскалі віскі абцугамі, закладалі між пальцамі палачкі й ламалі, заганялі стрэмкі пад пазногці. А млеў чалавек, аблівалі вадою і зноў пачыналі катаваць. Калі-ж нічога не памагалі першыя спосабы, тагды ахвяру падвешвалі нагамі ўгору і драцянымі гарапнікамі расьсеквалі пяткі і лыткі. Адным словам, на дапрос кожны йшоў бяз чужой дапамогі, а назад чуць жывога неслі калідорныя ў бальніцу.

Але чым больш катавалі, тым болей накіпала ненавісьці да ўсіх паноў і дамакратаў у сялян і разгаралася помста. „Адно-б толькі вырвацца“... кожны ціха шаптаў пасьля катаваньня.

Нарэшці мы ўсе вырываемся, бо не ўдалося ад нас чаго выпытаць. Вяртаемся назад, а ўжо ўся моладзь групуецца ля двух цэнтраў: Старыцы і Пясочна. Ласкава прынялі лясы і нас у сваю сямью.

Днём яшчэ можна было стрэць хлопца сям-там на полі за працаю, але як толькі ноч наставала, ўсе сходзіліся ў лясы і „вартавалі“ дарогі. Жаданьне паліць маёнткі стрымлівася набліжаўшыміся гуламі гармат. У чэрвені палякі рушыліся з Бярэзіны.

Нашы організацыі былі нагатове. Пясочынская мела ў сваім складзе каля 50 штыкоў. Старыцкая—40. Каманду пад старыцкімі партызанамі узяў Абр-овіч, П. Ба-рэка і Я. К-пак, як добрыя знаўцы вайсковай справы. Кожны атрад цяпер ужо дзейнічаў па сваёй ініцыятыве.

Наш старыцкі атрад дзейнічаў на тракце Слуцкім у межах ад Перавоза да Старыцы, на дарозе з Старыцы ў Сьвідзічы і ў Падгоркаўскім лесе Пацейкаўскай воласьці, а часта атраду ў дзесяць чалавек у районе Аксаміт і Балгавіч. Пясочынскі пад кіраўніцтвам Ш-скага ў районе Пясочна і Сьвінкі.

На тракце было ссаджана пяцёх уланаў. У Старыцкім лесе перагароджана была дарога абозу, які падвозіў патроны і снарады. Адбіта і кухня, якая везла полудзень.

Дзень і ноч у пачатку ліпеня стракаталі лясы, і польскія жаўнеры, як спуджаныя вароны, ўцякалі разбродна да Варшавы.

Чырвоная армія націскала з Усходу, а мы з тылу не давалі доўга апамятацца і баранілі вёскі ад рабаўніцтва малымі часткамі, а вялікімі атсякалі хвасты.

А раніцою, ня помню ўжо якога дня, наш атрад разам з сялянамі в. Слабодкі, якія вынесьлі хлеб і соль, стрэлі Чырвоную разьведку. З ёю пад крыкі „даёш Варшаву“ на хурманках пашлі наганяць польскія часьці, што пакіраваліся на Капыль.

Назаўтра ў Старыцы адбыўся агульны сход падпольнікаў, які вылучыў з сябе Пукаўскі раўком і дэлегаваў чатырох чалавек у Слуцак.

Гук гармат удаляўся на захад, а тут закіпела творчая праца.






Апраніся ў сьвяточную сьвітку,
Кінь у тхлань паднявольніцу—спадчыну.
Адгані думкі цьмы—недабіткі
З кроснаў матчыных!

Панскі біч ня гудзе над плячыма.
У палацах загібла сваволя.
Сустракай-жа вясёла вачыма
Камсамолію!

Камсамол мкнецца ў вёскі і сёлы,
Ніба вырай на вашыя гонейкі,
У цемру кідае сьмела, вясёла
Ясна—сонейка.

Ён з мазольнай рукою к вам рвецца,
Ён—тварэц новых дзён, шчасьця новага.
Адрывае пагніўшыя вецьці
У дуброве ён.

Маладняк наражае багата,
Ўвесь пранізаны творчаю працаю;
Чыніць новыя сьветлыя сьвяты
У новай хаце ён.

Камсамолься, сяліба ратая,
Заіскрыся чырвонай частушкаю.
Хай жняя твая песьню сьпявае
Вольнай птушкаю.

Выкінь вон гультаёў—багамолаў,
Што туманілі думкі званіцамі.
Парабі ўсе капліцы на школы.
Каб вучыцца ў іх.

Малы ўнук, сівы дзед і жанчына
Хай праз кніжку са сьветам знаёмяцца.
Асьвятліцца ў часы адпачыну
Уся ваколіца.

* * *

Брыльянтавым дажджом,
Жар-маланкай, агнём
Заіскравіць электрыка, радыё.
Самалёт над сялом
Лёгкапрыткім крылом
Зачаруе грамаду прынадаю.

* * *

І прашчураў мары
На нівах—абшарах
Спраўдзяць унукі ў жыцьці.
Пад сьцяг Камсамолу,
Моладзь па сёлах,
Ідзі!

З. Бядуля






Сялянскі быт тварыўся у працягу тысяча-годзьдзеў. Ён пачынаецца ад першапачатковага хлебаробства і з кожным векам, з кожным палепшаньнем у працы на полі народны быт углыбляў свае карэньні і прыймаў усё ярчэйшую афарбоўку, пакуль не загартаваўся ў сталы, паэтычны культ працы, пакуль не перайшоў у гадавы каляндар, напоўнены, паводлуг сонца абароту, пастаянымі, паўтараючыміся абраднасьцямі.

На канве гэтых абраднасьцяў хлебароб тварыў свае песьні, казкі, танцы, тэатр сваю філёзофію і свой *сталы сьветагляд.*

Народная творчасьць паслужыла першакрыніцай усіх галін мастацтва, якія стылізаваліся потым у самастойную творчасьць выдатнейшых прадстаўнікоў народу. Стварылася поэзія, музыка, малярства, разьбярства, тэатр і г. д. Усё гэта ўзбудавалася на здаровым грунце прыроды і працы.

Рэлігійныя культы, якія адхілілі потым разьвіцьцё культуры і пакіравалі яго ў іншы бок, так сама мелі сваёй перша крыніцай народную фантазію, народны быт, народную творчасьць. Але, адарваныя ад жывой глебы народнай, жывучы і разьвіваючыся ў вялікіх населеных цэнтрах—гарадох, рэлігійныя культы служылі пануючым клясам добрай зброяй дзеля таго, каб як найболей эксплёатаваць працоўныя масы, запалохаючы іх „багамі“, „нячыстай сілай“ і г. д. Рэлігійныя культы былі ў руках пануючых клясаў наймацнейшай сілай, каб трымаць мазалістых людзей у цемры, каб мецць іх як сваю ўласнасьць, як жывёлінаў. І чым болей разьвівалася гаспадарчае

становішча краёў, чым больш зьяўляліся розныя вырабы, сканцэнтраваныя ў руках вялікіх зямельных абшарнікаў, тым болей зьяўлялася патрэбнасьць багатых разьвіваць рэлігіі, тым болей тлустая лапа рэлігійных жрацоў-дармаедаў уядалася ў гарапашным целе працоўных мас.

А народны быт, народныя гульні, народная творчасьць і абраднасьці, ня гледзячы на цэркаў, ішлі сваім шляхам. Прадстаўнікі хрысьціянства, якія вытварыліся ў моцную касту, ўгледзілі ў гэтым небясьпеку для сябе і ад першых дзён істнаваньня хрысьціянства ў нас духоўнікі пачалі увадзіць сярод шырокіх народных мас свой „новы быт". Гэтае змаганьне за „новы" хрысьціянскі быт вядзецца ўжо больш тысячы гадоў у нашым краі.

І што мы бачым у канцы?—

Сялянскія масы па сягонешні дзень чытаюць малітвы пакалечаныя, перапутаныя, самі ні слова ў іх не разумеючы. Усе хрысьціянскія „сьвятыя" у народных песьнях і казках адмалёваны ў карыкатурных формах, служаць парабкамі ў сялян—адзін глядзіць за стадам, другі—сьцеражэ поле, трэці глядзіць за парадкам у хаце і г. д. „Сьвятыя" між сабою ў народным выяўленьні пастаянна сварацца за пяршынства, строяць розныя хітрыкі, чыняць несправядлівасьці. Ды й сам бог, паводлуг народных песьняў, часам „піва варыць", „дачку жэніць" і займаецца зусім ня тым, як-бы гэта хацелася папам, ксяндзам і іншым „божым прадстаўнікам" на зямлі.

Духавенства, паводлуг народных казак—самыя найгоршыя людзі. Працоўны селянін з даўных-давён моцна адчуваў на сваіх плячох цяжар рэлігіі і яе прадстаўнікаў. Есьць цэлы цыкль народных казак аб папах і ксяндзох і розных „сьвятых" людзях наогул, у якіх праўдзівымі рысамі адмалёвана характарыстыка гэтых людзей. Блуднікі, абдзёры, абманшчыкі, гультаі—вось галоўныя рысы, у якіх прадстаўлена хрысьціянскае духавенства ў беларускіх народных творах.

Корань бяжбожніцтва захованы ў глыбі народнай душы, а калі ў яго і засталася нейкая старадаўная вера, дык гэта толькі—ажыцьцяўленьне ў паэтычных прымітыўных вобразах сілаў прыроды. А пры першых праблесках навукі і разьвіцьця мас гэта дзіцячая вера разыйдзецца як дым.

Побач з гэтым беларускі селянін стварыў шмат казак і песьняў рэволюцыйнага зьместу. К гэткім бунтарскім матывам будзіла яго паншчына—вечнае ярмо цяжкай працы на чужых. У гэтых матер'ялах ярка адчуваецца інстынктыўная соцыяльна-клясавая падкладка. Такіх матар'ялаў у беларускіх этнаграфічных зборнікаў ёсьць шмат. Аб такіх матывах ў народнай творчасьці друкаваліся артыкулы ў газ., „Сав. Беларусь" у восені мінулага году.

Наша народная песьня, казка і абраднасьці вельмі трывалы. У гэтым аўтар гэтых радкоў пераканаўся ў мінулым го-

дзе, калі спробаваў праз вучняў Ратамскай беларускай школы*) зьбіраць запісі народных песьняў, казак, абрадаў і г. д. У працягу некалькіх месяцаў было атрымана ад вучняў—сялянскіх дзяцей кіпа (на цэлы зборнік) матар'ялаў. Аказалася ў іх шмат цікавых казак, песьняў і абрадаў, якія аддаюць тысячалецьцямі. І гэта жыве ў народзе па сягонешні дзень, ня гледзячы ні на якія перавароты.

Возьмем тут дзеля прыкладу так званы народны каляндар, або гадавыя абраднасьці і пабачым, што ёсьць ў іхніх песьнях і абраднасьцях.

**Калядьі.** На каляды адбываюцца на вёсках вечарынкі і гульні, вечарынкі танцы і цэлыя тэатральныя прадстаўленьні з „казою“, „жураўлём“ і г. д. Вандруючы народы тэатр з музыкай, з песьнямі абыходзіць сялянскія хаты. Такім чынам вясковая моладзь праводзіць весела час цэлы тыдзень. Даём дзеля прыкладу адну калядную песьню:

Стаіць сьвятліца нова зрублёна.
У той сьвятліцы чатыры вакенцы:
У першым вакенцы—ды яснае сонца,
У другім вакенцы—ды ясны месяц,
У трэцім вакенцы—ды дробныя зьвезды,
У чацьвёртым вакенцы—ды цёмная хмара.
Яснае сонца—то жонка аго,
Ясны месяц—то сам гаспадар,
Што дробныя зьвёзды—то дзеткі яго,
Што цёмная хмара—то жыта яго.
Шчодры вечар, добры вечар!

**Масьленіца**. На масьленіцу адбываюцца на вёсках шумныя карнавалы з катаньнямі на канёх, з песьнямі. Праз усю масьленіцу паўтараюцца калядныя гульні. Вось адна з песьняў:

А мы масьленіцу сустракалі,
І бярэсьні з маслам пачыналі,
Сырам гару усыпалі.
Наша масьленіца катліва,
Нашы дзевачкі гульлівы,
А маладзічкі ігрывы,
А мы масьленіцу пракацілі;
Нас масьленіца падманіла:
Мы думалі масьленіца сем нядзеляк,
Ажно масьленіца сем дзянёчкаў.

**Гуканьне вясны**. У сярэдзіне сакавіка, калі сонца пачынае сьвяціць па вясноваму, калі селянін ужо ня можа дачакацца працы на полі,—начынаецца „гуканьне вясны“. Няма цяр-

*) Заслаўская валасьць, Мен. пав.

плівасьці далей чакаць, дык вось дзяўчаты ўзбіраюцца на дахі будынкаў на гумны, абы на ўзгоркі і пяюць вясьнянкі:

Выляці, сізая галачка,
Вынясі залаты ключы,
Замкні халодную зімачку,
Адамкні цёплае лецячка.

„**Вялікдзень**“. На вялікдзень адбываюцца тыя самыя гульні, што і на каляды, дадаючы сюды яшчэ „валачобню“. Вось і вялікадная песьня, якая кажа толькі аб дабрабыце гаспадара:

Чы ня ластаўка ў вакно б'еццa,
Чы не гаспадара папуджае:
Устань, устань, пане гаспадару,
Устань, устань ранюсенька,
І умыйся бялюсенька;
А выйдзі, выйдзі у канюшню:
Восем кабыл ажарабілася,
Восем жарабят нарадзілася.

**Русальны тыдзень.** Матывы і абраднасьці тут падобны да вясновых. Але дзеля таго, што пагода пякнейшая, сонца сьвеціць ярчэй—гэтыя абраднасьці зьяўляюцца ў болей паэтычнай і фантастычнай форме—у відзе гульні ў русалкі: на ўсход месяца ў вечары дзяўчаты, у белых вопратках і маністах, з распушчанымі валасамі, пераплеценымі істужкамі, надзяваюць на галовы вянкі з кветак, бяруцца за рукі і ідуць з песьнямі ў поле. Там яны раскладаюць вогнішча і кідаюць вянкі ў вагонь. Русалка (адна з дзяўчат) ловіць сваіх падружак і каго зловіць—казытае. Песьні пяюцца такога зьместу:

Пойдзем, дзевачкі,
На лугі-лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы саўём вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую.

**Купальле** зьвязана з старадаўнымі абраднасьцямі шмат болей, чымся ўсе іншыя гадавыя сьвяты. Купальле—самы расквіт лета, калі „сонца грае“,—як кажа селянін. На купальле адбываюцца вясёлыя гульні на полі і ў лесе. Моладзь у вянках з кветак парамі,—дзяўчаты і хлопцы,—скачуць праз вогнішчы, ладзяць карагоды і гульні пад музыку дуды, скрыпкі, цымбалаў і г. д. Купальскіх песьняў ёсьць шмат. Вось адна з іх.

Купаленька—
Ноч маленька
Ды ўдаленька.
— Цёмна ночка!
Дзе твая дочка?
— Мая дочка
У садочку
Рожу поліць,
Рукі коліць,
Красачкі рвець,
Вяночкі ўець,
Усім дзевачка
Па вяночку.

**Зажынкі, жніво і дажынкі.** Гэтымі сьвятамі працы канчаецца цыкль гадовых гульняў і сьвят. Тут зноў ладзяцца гульні і піры. У час жніва пяюць:

Ды ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне маладзенькай дамоў хочацца
Ды ўжо ручанькі нарабіліся,
Ды ўжо ножанькі нахадзіліся,
Ды ўжо вочанькі наглядзеліся.

Апрача гэтага, на кожную прыгоду жыцьця селяніна: радзіны, вясельле, хаўтуры—сьпяваюцца песьні і выпаўняюцца абрады.

Як мы бачым, бадай усе народныя песьні носяць чыста бытавы характар і зьвязаны цесна з акружаючым жыцьцём селяніна, з яго гаспадаркай, ураджаем і г. д.

Калі гэтыя абраднасьці і песьні калісьці мелі нейкую сувязь з рознымі павер'ямі і забабонамі, дык у апошнія часы (нават некалькі дзесяткаў гадоў да рэволюцыі) гэты захаваны зьмест іх,—як значэньне „паганскага“ культу,—даўно вытхаўся. Песьні і гульні засталіся ў нашых вёсках як звычайныя забаўкі, поўныя поэзіі і харства.

Сялянскія працоўныя масы, якія вечна жылі ў няволі, быўшы няпісьменнымі і цёмнымі, інстінктыўна рваліся да творчасьці, да мастацтва ў розных яго праявінах. Без мастацтва яны жыць не маглі. Такім чынам народ меў і мае сваю вусную поэзію, тэатр, свой балет і г. д.

Можна сказаць, што народныя забаўкі на вёсках могуць паспрачацца з забаўкамі і з некаторымі тэатрамі гарадзкога насяленьня. Народныя частушкі па свайму гумору і ядранасьці могуць паспрачацца з сучаснымі куплетыстамі, якія гастраліруюць па ўсіх гарадох...

Камсамол змагаецца за новы быт па вёсках, але Камсамол не стаіць проціў тых народных гульняў, проціў тых народных песьняў, якія сьпяваюцца ў розныя поры году спакон

вякоў і не зьвязаны з цемнатой і забабонасьцю. Гэтыя гульні і песьмі аддаюць бадзёрасьцю народнай душы; у іх чувацъ сьвежасьць палёў і лясоў, яркасьць і цяплынь беларускага сонца, хваляваньне нашых рэчак, бульканьне крынічак, шэпты жытняга поля.

Камсамол стаіць за розныя сьвяткаваньні працы і ў даказ гэтаму Камсамол падарыў вёсцы новае сьвята ў гэтым кірунку—сьвята Ураджаю.

Хлебаробныя сьвяты, звычаі, гульні і песьні, не зьвязаныя з царквою, з рэлігійнай цемрай, зусім не перашкаджаюць новаму быту, новаму жыцьцю. Што тычыцца фантастычнасьці народных казак з рознымі „жар-сонцамі“, з „абрусамі-самалётамі“, з „шапкамі-нявідзімкамі“, з „багатырамі“, якія б‘юць разбойнікаў і г. д., дык Камсамол вельмі цэніць фантацію. Бо фантазія—гэта імкненьне чалавека да лепшага жыцьця. Фантазія—гэта першы імпульс чалавечай творчасьці. Без фантазіі не было-б на сьвеце ніякіх дасягненьняў у навуцы, у тэхніцы і ў сацыяльным жыцьці. Фантазія нам дала электрычнасьць, радыо, самалёты і г. д. Фантазія нам дала і наш вялікі Акцябр. Прыпомнім толькі розныя фантастычныя повесьці (утопіі) аб будучым устроі чалавецтва на зямлі.

Камсамол любіць фантазію і глядзіць на багатую фантастыкай і яскравую поэтычнасьць нашай народнай творчасьці, як на адзнаку багатай будучыны нашага працоўнага земляроба, які любіць тварыць, у якога думка яскрава працуе. А ў гэтым і залог сьветлай будучыны.

Камсамол трымае руль новага быту ў сваіх руках, адкідвае са старога ўкладу жыцьця усё шкоднае і непатрэбнае і пакідае тыя добрыя зярняты народнай мудрасьці, поэтычнасьці і творчасьці, на якіх сам выгадаваўся.

Трэба яшчэ дадаць, што багатая частка народнай фантазіі ўжо спраўдзілася ў жыцьці, як у галінах навукі і тэхнікі, так сама ў соцыяльным устроі нашых Савецкіх рэспублік.

Той быт, тая творчасць, той уклад жыцьця працоўнага земляроба, які гадаваўся ў яго сэрцы ад пакаленьня ў пакаленьне тысячамі гадоў, зьменіцца не адразу. Яго можа зьмяніць толькі машынны спосаб пры сельскай гаспадарцы, агульная культура і асьвета на вёсцы, пастаянныя тэатры, электрычнасьць у вясковых хатах, пастаянныя сувязі з цэнтрам праз павялічаньне сеткі чыгунак, праз самалёты і т. д. Толькі гэта можа рабіць пералом у яго псыхіцы. А калі сучасная вёска часам на сто вёрст адарвана ад гораду, калі ёсьць яшчэ глухія воласьці, якія знаходзяцца паміж балот і вазёр, куды летам толькі на чаўнох-«душагубках» можна дабрацца, дык і ня дзіва, што такія мяйсцовасьці жывуць сваім самабытным укладам жыцьця, вытвараным окружаючымі зьявішчамі прыроды і гаспадаркі соткамі гадоў раней.

Пакуль што камсамол змагаецца толькі з агіднай папоўшчынай па вёсках, якая і па сягонешні дзень стараецца трымаць „свае“ парахвіі ў цемры, высмактываючы ў іх пот, забіраючы ў селяніна апошні кавалак хлеба.

Процiў штучна прывітых нашаму працоўнаму селяніну папоўшчыны і іншай чартоўшчыны Камсамол змагаецца, адчыняючы народу вочы. У гэтым кірунку Камсамол ужо шмат зрабіў і не пакіне працаваць, пакуль усе „божыя дамы“ не перабяцца на школы, клюбы, хаты-чытальні, дзіцячыя дамы і іншыя культурныя установы карысныя для працоўных мас.

З. Бядуля






Калі вы скажаце, што гэта ня праўда, а байка, то я запытаюся: а дзе тая мяжа, што аддзяляе праўду ад выдумкі? І ці ня бывае так, што выдумка ходзіць, як праўда, а чыстую праўду лічыць за выдумку? А калі так, то прашу слухаць уважна.

Каму прыходзілася хоць раз пабачыць гэты куточак, той напэўна не забудзе яго ніколі. Гэта быў акраек лесу, таго самага лесу, дзе і цяпер стаяць такія слаўныя дубы.

Ня ведаю, як каму, а маім гэроям, аб якіх павядзецца гутарка, жылося тут нязвычайна весела. Яно, калі сказаць праўду, іначай тут і быць не магло, бо гэты куточак быў вельмі прыгожы. Лес, пераважна дубовы, стаяў на ўзгорку. На тэй яго старане, што выходзіла на ўсход, цягнуўся цэлы шырачэзны пас дубоў. Дубы былі выносныя, стройныя, бы точаныя, і такія тоўстыя, што тры чалавекі не маглі абняць іх рукамі.

Пад гэтым узгоркам блішчала круглае возера, яно паласкала і пераліваласся, як жывое срэбра. Над саменькаю вадою цягнуўся прыгожы шляк сакаўной зелені. Тут былі высокія, гладкія сітнякі і цэлыя зарасьлі аеру. Мястамі пападаліся кучаравыя, круглыя кусты лазы, сям-там прыкідаліся высокія пышныя алешыны, а па суседству з імі красаваліся дзьве прыўдалыя хвоі. Здавалася, гэта дзьве маладзіцы, што пашлі па ваду, ды загаварыліся, а загаварыўшыся, так і засталіся там. Тут-жа была і рачулка, бойкая і праворная. Прыпыніўшыся ў возеры, зноў лілася, павівалая яна ў зялёнай даліне. Таксама заслугоўвае увагі і гэта даліна, бо калі ўставалі грозныя цё-

мна-сінія хмары і грымелі далёкія громы, то гэтыя громы нязвычайна выразна каціліся дрыгацелі па даліне, абягалі возера, і ціха калыхаліся тады палахлівыя чароты, чуць-чуць пагойдваліся стройныя сітнякі; і нават сам лес ціха і таемна шапацеў сваімі чульлівымі лісточкамі-струнамі, зьліваючыся ў нявыразна прыгожую музыку. Здавалася, ўсё напаўнялася тады сьпевам і музыкаю, такою музыкаю, што ніякія музыкі на сьвеце не маглі яе пераняць.

Была раніца.

Залатыя стрэлы сонца, рассыпаўшыся па ўсім сьвеце, выносілі новы дзянёк, той дзянёк, які меў у сабе ўсе тыповыя рысы вашага лепшага лета. Мяккая, роўная, ласкаючая цяплыня паволі разьлівалася па зямлі, а разам з гэтым і нейкая радасьць ўздымалася ў сэрцы тых, хто так ці йначай адчуваў жыцьцё.

— Сонца ўзыйшло!—ціха і радасна абвясьціў усход сонца стары дуб на ўзгорку, а яго лісьцё чуць-чуць задрыжала.

— Сонца ўзышло!—шопатам сказалі дзьве хвоі. Гэту вестку падхапілі сітнякі, чароты, аеры і праз колькі хвілін стала вядома на возеры і па акрайку леса, што ўзышло сонейка. Рачулка яшчэ далей панесла гэту вестку, і аб ўсходзе сонейка даведалася кожная красачка, кожная травінка. Гэта быў нязвычайна радасны момант абуджэньня прыроды, асабліва тады, калі ў чыстых кропельках расы зазьялі вясёлкі, тысячы, мільярды вясёлак. Але гэта быў толькі адбітак усьмеху сонца.

Бабка-зялёнакрылатка сядзела на чарацінцы. Яе тоненькае стройнае цельца шчыльна прытулілася да лісьціка чарацiны, а на крыльцах чуць-чуць выступалі малюпасенечкія кропелькі расы і ёй цяжка было паварушыць імі. Але абагрэла яе сонейка, абсохлі крыльцы. Зўсім ажыла, павясялела зелянушка-бабка, як-бы другі раз на сьвет нарадзілася. Яна азірнулася навокала ёй проста хацелася хоць каму выказаць сваю радасьць, сваё шчасьця, і калі пралетала тут ластавачка, то яна не магла стрымацца, каб не сказаць:

— Давай пагаворым, ластавачка! Ластавачка крута ўзьвілася над возерам, у мгненьне вока апісала дужку, чуць-чуць чыркнуўшы вострым канцом крыла па вадзе, ад чаго па возеры пабеглі срэбраныя абручыкі.

— Ах, як гэта прыгожа!—зноў прамовіла бабка:—паглядзі, як бягуць—калышуцца роўненькія кругі па вадзе! І гэта ты прывяла ў рух такое вялізарнае возера. Дзіўная справа! І колькі хараства на сьвеце!.. Ці ня праўда, ластавачка: жыцьцё—гэта самае большое шчасьце на зямлі!

— Затым-жа ўсе мы, зелянушка, і любім жыцьцё,—зашчабятала ластавачка.

— Ведаеш, якая мне прышла ў галаву думка? мне здаецца, што большага ня можа быць шчасьця, як адчуваць ко-

жны момант, што ты волен, можаш рабіць, што ты захочаш, можаш ляцець, куды цябе зажадаецца.

— Так, зелянушка,—зашчабятала ластавачка:—я-бы толькі дадала: шчасьце можа быць поўным толькі тады, калі і ўсе вакол цябе адчуваюць сябе шчасьлівымі.

— Я зусім далучаюся да гэтае думкі,—квакнула зялёная жаба.

— Вядома, вашэці, так,—празьвінела муха:—калі я бачу, што ўсе вы вясёлыя і мне так сама весела, то ад гэтага толькі павялічваецца паўната агульнага шчасьця.

— Я лічу немалазначным і той факт у агульнай складнасьці гэтага шчасьця, калі да ўсяго іншага дадаецца і элемэнт мудрасьці,—важна зазначыў даўганосы камар: тады і вызначэньне самога шчасьця выходзіць з правільнага пункту погляду. Дык няхай жыве вясёласьць, воля, агульная згода і мудрасьць!

— Ах, якая цікавая тэма размовы!—азваўся матылёк:—я з свайго боку дадаўбы, што шчасьце таксама залежыць і нават у значнай меры і ад хараства.

— Гэта справядліва, гэта справядліва!—падцьвярдзіў чорнавокі конік і заварушыў сваімі прыгнутымі, доўгімі ножкамі.

— Выбачайце, шаноўнае грамадзянства,—забубніў авадзень: я трымаюся другога погляду на рэчы. Скажэце, што станецца з вашым шчасьцем, калі жывот будзе трубіць жалобу пустаты. Дзе тады дзенецца ваша вясёласьць, што будзеце рабіць з вашаю воляю і як будзе тады стаяць справа з вашаю агульнаю згодаю?

— Бум-бум-бум!—зарагатаў авадзень:—а ўся мудрасьць пакіруецца тады ў бок вышуківаньня спосабаў запоўніць пустату вашых жывоцікаў, а ўсё хараство і ўся эстэтыка пойдуць на скасаваньне. Не, другі мае: каб быць шчасьлівым, трэба каб і жывот пустым не заставаўся.

— Фі, авадзень! як вульгарна выказваеце вы думкі вашы!—прамовіла, скрывіўшыся, сінякрылая бабка:—так і відаць, што вы больш каля скаціны ходзіце.

— У вас бяспрэчна, ёсьць здаровыя думкі,—падтрымаў авадня даўганосы камар: але і я таксама згаджаюся і з паннаю сінякрылаю бабкаю ў тым, што гэтыя думкі маглі-б быць выказанымі і ў больш далікатной форме, тым болей у прысутнасьці такіх прыгожых дзяўчат.

Зялёнакрылая і сінякрылая бабкі падарылі камара нязвычайна пяшчотным поглядам, ад чаго камар увесь паварушыўся, дрыгнуў лапкамі і вельмі галантна пакланіўся ім.

— Я не люблю ахінаць праўды ў прыгожыя пустыя словы, а бяру яе так, як яна ёсьць, адказаў авадзень.

— Што гэта ў вас за гармідар такі? спытала мурашка і лапкаю абцерла са лба гарачы пот. Відаць, яна прайшла труднаю дарогу, перабіраючыся з травіны на травінку па розных кладках, покі не прыпаўзла сюды.

Чорнавокі конік у кароткіх словах пазнаёміў мурашку са зьместам агульнай размовы і ў заключэньне спытаў:

— А ваш які погляд на шчасьце?

Мурашка на момант злажыла на галаве дзьве пярэднія лапкі і задумалася. Падумала і сказала:

— Шчасьце... гм... Прызнацца вам, я ніколі ня думала над тым, што такое шчасьце. Ды й калі мне думаць над гэтым, пасудзеце вы самі? Выходзіш з дому, і твая галава забіваецца аднэю думкаю: дзе-б што знайсьці, як-бы найлепш выпаўніць заданьне, колектыву... Стойце, стойце! вось-вось крутнулася ў галаве думка і, здаецца, тая самая, якая мне і трэба.

Мурашка разам замлела—так моцна яна задумалася. Усе вакол таксама маўчалі, каб не пашкодзіць мурашцы злавіць і замацаваць патрэбную ёй думку. Толькі авадзень скептычна пакруціў сваею тоўстаю галавою.

— Вось што будзе шчасьце!—раптам выпаліла мурашка і села на жывот, заварушыўшы разам усімі лапкамі:—шчасьце—гэта найлепшае выпаўненьне волі калектыву, жаданьне прынесьці сабе ў ахвяру колектыву, сузнаньне, што ў яго дабрабыту ёсьць частка твае працы; карацей сказаць: шчасьце—гэта—гармонія таго колектыву, да якога ты належыш.

— А калі я не хачу належыць ні да якога калектыву, то маю я права шукаць сабе шчасьця і быць шчасьлівым? Забубніў авадзень:—ведаю я гэтыя колектывы! Мы, авадні так сама маем трохі граху колектыву. І што-ж? Загудзе наш колектыў —рой каля якое там каровы або вала, а яны задзяруць хвасты трубою ды як паімчацца і—бывай здароў! А колектыў толькі аблізваецца.

— І ня дзіва што паімчацца, прамовіў прыгожы чырвоны з крапінамі матылёк:—ты адзін як загудзіш, то страшна стане. А што робіцца, калі вас зьбярэцца цэлы рой?

— Вы памыляецеся, авадзень,—сказаў шэршань:—як-бы вы ні тлумачылі сабе колектыў і яго задачы, як-бы асабіста не глядзелі вы на колектыўны склад жыцьця. ўсе-ж такі вы жывіцё, вы мусіце жыць у колектыве і па за межамі яго, скажу проста, немагчыма, бытаваньне асабовасьці!

— Брава, брава, шэршань,—запляскаў лапкамі, камар:—мне нязвычайна падабаюцца і спосаб іх выказваньня.

У самы разгар камаровага краснамоўства пачулася гудзеньне, і зараз-жа за гэтым, як бомба, пранёсься жук. Не пасьпелі тут і слова вымавіць, як жук парывіста ўляцеў у самую сярэдзіну сходу і тут-жа, ня схаваўшы нават ніжніх мяккіх крыльляў, упаў на сьпіну і пачаў ад здаваленьня перабіраць крывымі ножкамі.

Зялёнакрылая і сінякрылая бабкі ахнулі аднachасна і чуць не памлелі, такім раструханам паказаўся ім жук.

— Схавай, брат, сваю кашулю, бо нашы паненкі поўміраюць ад сораму,—сказаў да жука авадзень,

— Фі, фі—запішчалі бабкі: ах, які мужык! Як дрэнна ад яго пахне!

— Паслухайце, жук; вы вядзіцё сябе няпрыстойна ў кампаніі дам—завярцеўся каля жука камар. А жук, не зварочваючы ні на каго ўвагі ляжаў на сьпіне і перабіваў нагамі.

— Эх, браткі, слаўна! Эх, слаўна! выгуківаў жук: ну-ж і папрацаваў я! Ну ж і пашанцавала мне! Шэсьць ям выкапаў я! А колькі дабра нанасіў туды! Колькі скарбу!..

Крута зьмяніўшы тон размовы жук раптам перэвярнуўся, акінуў поглядам увесь сход і спытаў

— Ці шчасьлівы вы, прыяцелі мае?

— Шчасьлівы!—адгукнуліся ўсе разам.

— А што зрабіла вас шчасьлівымі?

— Хараство гэтае раніцы!

— Прыгожства нашага краю.

— Жыцьцё!

— Згода.

— Дабрабыт.

— Гармонія колектыву.

І яшчэ многа розных адказаў пачуў жук.

— Ну, калі так, то давайце-ж весяліцца.

І ўсе жукі, мухі, мошкі, пчолы, матылькі, бабкі, конікі, шэршні і восы і ўсе, хто на гэты час аказаўся тут, закружыліся, завярцеліся, зазванілі, загралі, забубнілі і справілі такі слаўны карагод і музыку, што і возера і лес, і поле і рэчка з далінаю слухалі і ад здаваленьня ціха усьміхаліся. Нават хмаркі на небе слухалі тыя сьпевы, слухалі і чагось хмурнелі.

А за гэты час у прыродзе зрабілася нейкая зьмена і цень ад лесу насоўваўся і лажыўся на возера, а разам з гэтым нейкі мрок выціскаў вясёлы настрой тых, хто кружыўся ў вясёлым карагодзе.

— Ня ведаю чаму, але мне штось маркотна стала,—скардзілася зялёнакрылая бабка, сеўшы на лісток аеру.

— Ах, і не кажы, мілая: і я чую нешта такое, як-бы я штось страціла,—адказала ёй сінякрылая таварышка.

— Моташна мне у вашым зборышчы,—прабудніў авадзень і паляцеў у лес пад кару старога дуба.

Пасядзела на купіне зялёная жаба і ні з таго ні з сяго бултыхнула ўніз галавою, перабралася на другую купіну і стала разважаць аб сваіх асабістых справах.

Чорнавокі конік зашыўся ў лазовы куст, сеў на лісток і пачаў стракатаць, каб заглушыць свой смутак. Камар, уткнуўшыся носам у траву, сядзеў над вадою насупіўшыся.

Распаўзьліся, разьляцеліся ўсе, і кожны стаў думаць толькі аб сабе, жыць толькі сваімі інтарэсамі, але разам з гэтым

кожным адчувалася нейкае нездавальненьне і брак чагось, але чаго іменна, ніхто добра ня ведаў.

Пад вечар уся кампанія зноў сабралася на сходку. Колькі тут ні гаварылі, але такога тлумачэньня, якое здаволіла-б усіх, ніхто ня даў. Толькі шэршань унёс прапазыцыю зьвярнуцца з запытаньнем да старога дуба.

Прапазыцыя была прынята аднагалосна.

Паляцела, папаўзла, паскакала ўся кампанія да старога дуба.

Шэршань, як наібольш знаёмы і болей адукаваны і спрытны на язык, выступіў ад імя сходу.

— Памажы ты нам, васпан дуб, развязаці адно вельмі важнае для нас пытаньне Некалькі гадзін таму назад мы былі шчасьлівы і вясёлы, сыпаліся жарты, былі танцы, выказваліся нязвычайна мудрыя думкі, я нават шкадую, што мы іх незапісалі. Але незаметна для нас саміх зрабілася з намі штось такое, што мы страцілі свой добры настрой і гумор, прасьцей сказаўшы, згубілі сваё шчасьце. Але гэтага мала. Страціўшы шчасьце, мы сталі сярдзітымі, неўспагаднымі, прытупілася наша сэрца, адзеравянела наша душа, мы гатовы пакідацца адзін на другога і такія выпадкі на жаль мелі месца ў нашай корпорацыі. Скажы-ж нам, васпане: якія прычыны парадзілі такую ненармальнасьць? Чаго нам бракуе?

— Дзеці мае!—важна сказаў дуб:—вы забыліся прыняць пад увагу адну вельмі важную вакалічнасьць, калі вы казалі, у чым знаходзіцца шчасьце, а без яе поўнага шчасьця і ня можа быць.

— Якая вокалічнасьць, дзядзька? хорам панялося пытаньне.

А дуб, хоць ён у школу вучыцца не хадзіў і пэдагогікі не праходзіў, але быў добры пэдагог.

— Толькі тая веда становіцпа нашым сталым здабыткам, якая вынахоздіцца і пазнаецца намі самімі.

Калі вы не дадумаецеся заўтра самі, тады зьбярэцеся зноў тут, і я сам скажу вам, што вы страцілі і чаго вам бракуе, каб вярнуць ваша шчасьце...





Мы дзеці рэволюцыі, Кастрычніка сыны!
Ў дзень радасьці кіпучае на сьвет зьявіліс мы.
Над нашаю калыскаю ня сумны матчын сьпеў—
Грымелі дні агністыя, змаганьня гром гудзеў.
Нас цешыў песьняй-казкаю крывавы бог вайны
Для нас служылі цацкамі былыя кайданы.
Акопы былі школай нам, указкамі—штыкі;
Гульня была вясёлая—ў „паны і басякі“.
Гулялі не на жарты мы. Мы той гульнёй жылі.
Паставілі на карту мы жыцьцё ў тэй гульні.
Мы выйгралі. Уполымі палаючага дня
Чырвонай перамогаю спынілася вайна.
І ў грудзях, ненатруджаных крываваю гульней.
Блісну́ў матыў абуджаны, гук песьні агнявой.
Пяём віхурай песьні мы, агнём рытмуем іх—
Няма ў іх гнілі, плесені, няма ў іх сьлёз нямых.
Ў іх гоман сталі звонкае, удары малатка,
Напевы агнятонныя фабрычнага гудка,
Іх песьнямі вясеньнімі зьвівае чарназём.
Лясы прыгожаць ценьмі іх вясёлы срыбразвон,
У іх не апяваюцца мінулыя вякі—
У іх вітаюць раніцу працоўныя палкі...
Прайшлі мы сьцежкі вузкія, да сонца мы ідзём,
Сталёвым звонам мускулаў мы Волі гымн пяём...
Ў дзень радасьці кіпучае на сьвет зьявіліс мы.
Мы—дзеці рэволюцыі, Кастрычніка сыны.



*(Апавяданьне).*

## VII.

Прытуляе каўказца да сябе ушчэльле гор, ўкраінца—стэп шырокая ды прывольная, а беларуса—лес..

Эх, лес!..

Нібы думкі ён ведае сваіх насельнікаў.

Плачуць людзі—лес шумна і жаласьліва шуміць, людзям радасна, весела—лес рагоча, аж заліваецца... Лісьця на дрэвах шапацяць цудоўную казку, верхаліны прыхіляюцца адна да другой і соладка цалуюцца...

Але вось шмат дзён ня сьціхае бураломнае ігрышча...

Нешта ня добрае дзеецца на абшарах Беларусі, калі стогнам стогнуць сасоньнікі і бярэзьнікі калі дубы - сталеткі варушаць сярдзіта сваімі моцнымі рукамі—гольлямі...

А па гушчарох лесу блукаюць людзі...

Хто яны?!.

Чаму яны ня там, дзе сьвятло і сонца?..

Чаму яны замурзаныя, закураныя дымам, абрасьлі валасамі?

Чаму яны ў зарасьлях пушчы, у пастаяннай вільгаці і цемры марнуюць сваё жыцьцё?!.

Засьвістаў вецер, пачаў скакаць з дрэва на дрэва нібы шалёны, пачаў лахмаціць лісьця...

І дрэвы загаманілі...

Трэба прыслухацца аб чым лес гамоніць.

Невядомыя людзі, што мандруюць па абшарах беларускіх лясоў—гэта паўстанцы...

Гэта пакрыўджаныя, зьняважаныя, асьмеяныя і аплёваныя польскім панам старыя і маладыя сяляне.

Толькі тут у лесе знайшлі яны сабе прытулак, толькі тут ім можна сьмела выказаць сваю крыўду на ворага... Можна і помсту прыдумаць...

Лес ня выдасьць...

Вось і сонейка апусьцілася са узгорак.

Вечар...

Туман нашай балотнай краіны павіс над лесам, нібы хто белую коўдру распасьцёр.

Замоўклі сьпевы дняўных птушак. Толькі аднастайная траскучая песьня драча парушала вячэрнюю цішу...

Змрок ахіляў лес усё хутчэй і хутчэй.

Пад старым дубам, які распасьцёр свае гольля на некалькі сажаняў ва усе бакі, на досыць прасторнай паляне сярод непраходнага гушчару, пачаў усхліпаваць аганёк...

Паўстанцы—бунтары адусюль накіроўвалі на полымя, якое асьвячала кавалачак пушчы.

Каля агню сядзела некалькі чалавек. На завостраных прутках арэшніку яны пяклі мяса некай застрэлянай дзікай птушкі.

Як толькі дзе-нібудзь чуліся крокі чалавека, які ішоў да вогнішча, некаторыя палахліва пазіралі ў цёмную даль лесу.

Але вартаўнікі, пастаўленыя ва усіх канцох паляны, заразжа давалі ведаць, што гэта свой, і усе былі супакойны...

Малады, стройны хлопец Андрэй закурыў насушанных альховых лісьцяў, лёг непадалёчку ад вогнішча пад кустам і паднос сабе запяяў.

Эх, ты, ночка, маці ночка,
Эх ты, бацька—цёмны лес,
Жыву тут я паўгадочка,
Тут ня страшны сам і бес...

— Што? Новую сачыніў?,—запытаў папраўляючы дровы стары Мікола, які кожную хвіліну ўспамінаў пакінутую жонку і дзяцей і плакаў пры кожнай сумнай і вясёлай песьні.

— Так, браток, выдумаў пад кустам лежачы. Можна, ведаеш, цягнуць на матыў.

Эх, ты доля, мая доля
Доля долюшка мая...

— Ну ну! Пакінь Андрэй—пачуўся голас з грамады, – бач Мікола ужо нарыхтаваў рукаў слёзы уціраць...

— Ня буду... А вось Грышка тае... Дауно час быць тут—сказаў Андрэй, прыкурваючы „папяросу“, якая ніяк не хацела гарэць...

— За Грышку баяцца ня трэба,—загаманіў Сьцёпка, які мацней за ўсіх любіў Грышку і гатовы за яго памерці хоць зараз,—у якіх пераплясах Грышка быў, нам таго ня бачыць...

— Ну і хлапец,—падхапіў Мікола,—хто-бы гэта думаў, каб пастухоў, сын, сьвінапас?., ну і храбры... Адвагі і сьмеласьці больш як у старога. А да чаго спрытны?!

У гэты час недалёка ад вогнішча затрашчала сухое гальлё.

Усе наставілі вушы.

Хуткім, але лёгкім поэтупом нехта ішоў на сьвятло вогнішча...

— Грышка! Грышка!—зашушукала грамада...

Казюк, дванацацігадовы хлапец, адскочыў ад агню, накінуў на галаву кажух і лёг нібы-то спаць...

Казюк уцёк у лес тыдні два таму назад... Бацька яго багаты засьцянковы шляхціц... На пытаньні, чаго ён пашоў у паўстанцы, Казюк адказваў, што яго польскія жаўнеры два разы высяклі за тое, што нашлі ў стозе на гумне аружжа... Гэта і прымусіла уцячы ў лес, каб адплаціць за шрамы, якіх ён нікому чамусь ці не паказваў.

Шмат хто не давяралі Казюку. А Грышка дык той проста лічыў Казюка не сваім хлопцам і казаў усім асьцярагацца яго

Казюк гэта адчуваў, дзеля чаго стараўся з Грышкам не сустракацца.

— Ён! ён!— мацней загаманілі хлопцы...

Так. Гэта быў Грышка...

З кароткім карабінам за плячыма, абвешаны гранатамі, Грышка стаў каля вогнішча і, нахмурыўшы бровы, загаварыў:

— Час надыходзіць! Больш асьцярожнасьці, больш адвагі і сьмеласьці. Сувязь паміж усімі атрадамі, якія знаходзяцца ў гэтай пушчы, устаноўлена... Праз некалькі дзён мы мусім злучыцца ў больш мацнейшыя дружыны і прыблізіцца да тых шляхаў, якімі маюць адступаць польскія войскі.



— Эх, скорэй-бы, далі бог!—усхапіўшыся з пад куста крыкнуў Андрэй і тут-жа пусьціўся ў прысяткі...

Грамада зразу павесялела. Усе не маглі счакаць рашучага часу, каб выступіць адкрыта ў бойку з тымі, праз каго гніюць у балоце цэлыя месяцы...

— Адно дрэнна!—пачаў зноў Грышка,—Макара Грыба злавілі, якому было дадзена заданьне выкрасьці адны вайсковыя паперы. Але я думаю, што ён ня выдасьць...

— Ніколі! Ніколі—загула грамада.

Але гэта вестка крыху сапсавала настрой.

Некі час усе маўчалі

— Зьмяніць варту,—сказаў Грышка,—ды на супачынак!..

Праз паўгадзіны ўсе спалі.

Вогнішча было затушана.

Ноч мінула. Надышла раніца.

Холад узбудзіў амаль усіх.

Хто каля агню грэецца, а хто закутваецца з галавою і нагамі ў сьвітку або кажух і нібы вужака шыецца ў куст, ці ў кучу сухіх лісьцяў.

Грышкі ужо даўно няма.

Да ўсходу сонца ён прасnуўся і пашыбаваў к вызначанаму мейсцу, дзе яго чакаў чалавек з таго маёнтку, з якога ён уцёк.

— Што з бацькам?—было першым пытаньнем Грышкі, калі ён пабачыў свайго сябрука панскага парабка Кузьму.

— Выпусьцілі. І лясьніка выпусьцілі,—гаманіў Кузьма, ня верачы, што перад ім стаіць той самы Грышка сьвінапас, якога ўсе ваколічныя паны баяцца і якога кожная вёска ведае...

— А Макар?

— Застрэлі,—ціхім голасам сказаў Кузьма,—але маладзец, што не рабілі, як ня зьдзекваліся—ня прызнаўся ня ў чым...

Па целе Грышкі прабегла некая дрож. Яму захацелася зараз-жа прыдумаць помсту для тых, хто застрэліў яго лепшага сябра.

— А дзяўчынка лясьнікова.—гаворыў Кузьма далей,—Гэлька, таксама некуды зьнікла. Кажуць, пашла цябе шукаць... Бацьку выпусьцілі, а дачкі няма...

Вочы Грышкі загарэліся дзіўным агнём, Твар паружавеў. Грышка палядзеў на Кузьму і ня чога не сказаў.

Стрэл з вінтоўкі перарваў гутарку.

Грышка хапіўся за карабін і прыхіліўся да дрэва. Кузьма упаў на зямлю і палахлівымі вачыма пазіраў на Грышку.

З-за кустоў у кроках трыццаці паказаўся чалавек. Грышка зразу спазнаў Амельку і кінуўся да яго.

А Кузьма тым часам яшчэ лепш прылягаў да зямлі, каб яго ня бачылі, думаючы, што пачнецца бойка...

— Я другі дзень не магу адшукаць цябе... Прымушан быў страляць, каб хто нібудзь адгукнуўся—даў аб сабе ведаць...

— Гавары, гавары, як справы?—пасьпяшаў Грышка, вітаючыся з Амелькам...

— У Ігуменшчыне шмат заарыштована... Цэлую арганізацыю раскрылі...

— Хто прадаў?—злосна крыкнуў Грышка.

— Яшчэ не вядома... Толькі я прышоў... мяне прыслалі папярэдзіць, што шмат польскіх шпіёнаў пушчана па лясох, каб выкрываць паўстанцкія арганізацыі. Трэба быць асьцярожным пры фармаваньні атраду і папаўненьні новымі людзьмі... Мяйсцовая шляхта разпаўзлася па лесе.., Трэба думаць, што ня з панамі яны ваяваць будуць, а хутчэй нас прададуць...

У Грышкі мільганула думка аб Казюку.

— У твой район перасылаецца яшчэ некалькі атрадаў,— гаварыў больш спакойна Амелька,—з якімі ты таксама павінен трымаць сувязь. Заўтра, а можа нават і сёньня ты атрымаеш загад аб нападзеньні на харчовы транспорт, які будзе ісьці на мястэчка, дзе стаіць N-ская дывізія...

Тымчасам Кузьма убачыўшы таварышскую гутарку Грышкі з незнаёмым устаў і накіраваўся да іх.

Усе трое пашлі па вузінькай сьцежцы, якая вяла да мейсца стаянкі атраду, якім камандаваў Грышка...

Сонца пачало прыграваць... Але было росна. Капелькі буйнай расы, разсыпаным серабром блішчэлі на траве.

Грышка аба ўсім забыўся. Усімі сваімі думкамі ён быў каля лясьніковай хаты, каля Гэлькі, аб якой ён ніяк ня мог забыцца.

Шмат разоў у яго лунала думка—украсьці Гэльку і забраць з сабою ў лес. Альбо спаткацца і ўгаварыць ісьці разам з ім.

Цяпер-жа, калі Грышка даведаўся, што Гэлька кудысьці пашла—непакой апанаваў усю яго істоту...

— Гэй, сьвінапас!—пачуўся за дрэвам голас.

Усе трое вандроўцаў аглянуліся...

Гэта быў Андрэй, які хадзіў па лесе задраўшы галаву і трымаючы вінтоўку на гатове, каб падстрэліць якую нібудзь дзічыну і сасмажыць на полудзень.

IX.

— Паганяй, пся крэў! А то вазьму бат, ды раз па каню а раз па табе, морда мужыцка!..

— Калі-ж, паночку, бегчы ня хоча... Ня можа... Учора з гораду паноў прывезьлі, а сёньня зноў...

— Ну, ешчэ цо мувіць бэньдзеш?!

І уздымаючы слуп пылу, неслася хурманка з вёскі да засьценку к шляхціцу, сын яго Казюк пашоў у паўстанцы...

Туды ехаў польскі жандарма.

Хурман, вясковы хлапец, які вёз жандарма, таксама быў сябром аднэй падпольнай арганізацыі... На гэты раз Сяргей (так звалі хурмана) быў нарочна пасланы з жандармам, каб выведаць, чаго ён едзе да Казюковага бацькі...

— Ты што?—загаманіў жандарма да Сяргея,—у паўстанцы хутка пойдзеш?

— Тата ня пускае...

— А, дурны хлопак!—усьміхаючыся сказаў жандарма і закурыў цыгару...

Шляхціц Яроцкі сустрэў жандарму як найдаражэйшага госьця...

У часе падвячорку, Сяргей, ядучы малако ў сенцах, пачуў размову, якая выкрыла здрадніцтва Казюка...

— Праз тыдзень ён дома павінен быць, каб паказаць нам усе сьляды тых шэльмаў, — казаў жандарма Яроцкаму, які што хвіліны пазіраў то на вакно, то на дзьверы...

— Праз тыдзень, кажаце, значыцца хутка?...

І казюк і ты бэньдзеце мець вельку падзяку і нагараду ад пана палкоўніка...

— Каб-жа толькі бог даў усё яно добра абышлося...

Сяргей ціхінька прытуліўся да кубла і слухаў... Ён гарэў увесь ад нецярплівасьці, каб хутчэй гэту вестку перадаць каму трэба...

Да дому едучы Сяргей сам гнаў каня, што было сілы. Яго непакоіла думка—пераказаць аб гэтым Грышку, у атрадзе якога, як вядома, знаходзіўся Казюк...

Не прайшло трох дзён, як Грышка быў паведамлены аб паўстанцы шпіёне...

Грышка сакрэтна загадаў двум хлопцам сачыць за кожным крокам Казюка і даносіць аб усім яму...

За два дні перад тым, як павінны былі адняць харчы вайсковага транспарту, Казюк хацеў уцячы да хаты і, напэўне, папярэдзіць аб гэтым адпаведных асоб. А можа проста баяўся узброенага выступленьня...

Спроба уцячы кончылаcа для Казюка вельмі дрэнным... Два сакрэтна прыстаўленые сачыць за ім хлопцы, некалькі вёрст далі яму прайсьці, а пасьля прымусілі вярнуцца...

Казюк пачаў нават страляць. Але сакрэтнікі не падаліся і паставілі на сваём...

У тую самую ноч яго судзілі. На судзе Казюк аба усім прызнаўся і кляўся, што ніколі-б ня выдаў ніводнага чалавека...

— Да дрэва! да дрэва здрадніка!—гукала грамада,—паміж паўстанцаў не павінна быць шпіёнаў! Да дрэва!..

— Унас хацелі карову і каня забраць польскія жаўнеры... а калі, кажуць ты будзеш служыць нам і рабіць тое, што загадаем, то нічога ня возьмем... Бацька мяне і набухторыў... Я сам ніколі,—поўзаючы па мокрай траве на каленях і кідаючыся Грышку ў ногі, прасіўся Казюк...

Грышка гордым поглядам акінуў усю сваю грамаду, а Казюка падарыў агідлівай усьмешкай.

Грамада не пераставала патрабаваць хуткай расправы.

— Ціха, хлопцы!—гукнуў Грышка,—я з ім распраўлюся па свойму... Нават рукі сорамна мараць аб такую паганую панскую падлізу... Ці-ж стоіць псаваць порах і кулю!?..

— Даруйце, даруйце!—абліты сьлязьмі, прыпадаючы да ног то аднаго, то другога паўстанца, прасіўся Казюк.



— Вон з лесу, паганец, каб і вочы нашы цябе ня бачылі!—крыкнуў злосна Грышка і паказаў пальцам у даль...

Усе зьдзіўлена паглядалі на Грышку...

А Казюк гэтак рынуўся ў кусты, ажно траскатня пашла па лесе... Пабег куды вочы глядзелі...

— Малады яшчэ хлапец,—казалі сталыя паўсганцы Грышку,—глядзі што выбраўшыся з лесу жывым, ён табе за гэту ласку шыбельніцу нарыхтуе... Ты яшчэ мала ведаеш такіх паганых здраднікаў...

Але Грышка маўчаў. Яму цяпер было не да гэтага, не да расправы над гэткім слабенькім і мізэрным чалавекам, які валяўся пад яго нагамі...

Грышку пачаў непакоіць лёс раскрытай арганізацыі, лёс тых асоб, якія не пасьпелі уцячы ў лес...

— Калі толькі іх павесяць, ці разстраляюць, то за кожную галаву нашага брата—павінна загінуць па дзесяць панскіх галоў і па дзесяць маёнткаў са ўсім скарбам... І гэта мусім зрабіць зараз-жа, пакуль яшчэ будзе сырым пясок магіл загінуўшых паўстанцаў,—гаварыў натхненна Грышка, сабраўшы вакола сябе ўсю грамаду сваей дружыны паўстанцаў...

У адзнаку згоды—усе паднялі карабіны угору...

Наступіла маўчаньне...

А лес так зашумеў, так загуляў віхар па гольлях дрэваў, што здавалася вось-вось пранясецца над зямлёю такая страшэнная бура, якая нічога жывога на зямлі не пакініе...

Усе моўчкі пераглянуліся і зашпылілі сьвіткі..

— Кажуць, што нехта павесіўся, калі вецер такі пачынае шаймаваць,—сказаў стары Мікола і узяўшы карабін у левую руку правай пераажагнаўся...

— А можа каго павесілі... Крыжам паратунку ім не дасі,— загаманіў нехта сярод грамады...

— А цяпер,—зьмяніўшы голас, сказаў Грышка,—гэта мейсца нам трэба пакінуць... Магчыма Казюк ужо даносіў як нібудзь аб нашым гнязьдзе... Бліжэй да Дубовай Грады трэба кіраваць—туды і носа ніхто ня ткне...

І ўся грамада па аднаму слову каманды зьнікла ў гушчары лесу, забраўшы на сябе ўсе пажыткі і аружжа...

Застаўся стаяць толькі адзін Грышка. Яго нешта вабіла туды, бліжэй да лясьніковай хаты. Яму захацелася пабачыцца з Гэлькаю і бацькам...

У глыбіне-ж лесу, у пушчы непраходнай Грышка мог толькі спаткацца са сваім старшым братам Данілам, аб паўстанцкай працы якого таксама хадзіла шмат чутак...

Грышка стаяў, абапёршыся на карабін і думкаю разам з ветрам гатовы быў несьціся далёка, далёка...

Вецер не пераставаў гусьці... Скрып дрэваў і шуршаніна лісьцяў складалі чароўную, а разам з тым і дзікую лясную песьню—казку...

## X.

Гарацьмаёнткі. Нішчацца панскія скарбы, скарбы набытыя мазолістымі рукамі батракоў ды парабкоў...

І руйнуецца ўсё гэта тымі самымі рукамі, чымі было і набыта..

Яны маюць права пусьціць усё з дымамам і пажарам.

Лявон і лясьнік , выпушчаныя з вастрогу, зноў занялі ў таго самага пана свае пасады.

Лявон пасе каровы, а лясьнік--лесу вартуе.

Пан праз дзень-два прызывае да сябе Лявона і пытае:

— Скажы мне, Лявон, праўду: дзе твой сын Даніла? Толькі не мані—лепяй будзе...

— Каб я так жыў, паночку, што ня ведаю. Напэўне ў бальшавікоў... Я трэці год ня бачыў яго...

— А сьвінапас дзе твой?

— Вось гэтага, то я зусім ня ведаю... мусіць загінаў недзе... Ён тагды так напужаўся...

— А ты ня чуў, што кажуць пра тваіх сыноў?

— Не, ня чуў?

— *Маніш, шэльма*... Усе як у бубен б‘юць што яны абудвы ў лесе арудуюць з іншымі паўстанцамі... Ведаеш, што амаль кожную ноч шугае да нябёс агонь то ў тым, то ў другім маёнтку?... А ты яшчэ кажаш, што ня ведаеш аб іх, што ня чуеш гутаркі аб іх зладзейскіх паступках...

—Вольна каму-нібудзь плявузгаць, узводзіць ману на няпавінных людзей.

— Глядзі, Лявон, яшчэ раз кажу, што твая старая галава адпавядаць будзе, калі толькі ў мяне здарыцца якое-нібудзь няшчасьце,

Так яно і вышла.

Нібы то пан нагаварыў сам на сваю галаву няшчасьце.

Праз тры дні пасьля размовы з Лявонам, панскі маёнтак быў падпалены зразу з чатырох канцоў...

Хаця пажар хутка быў затушаны польскімі жаўнерамі, якія стаялі ў маёнтку, але страты было прынесена шмат.

Больш за ўсіх напалохаўся пастух Лявон, які чакаў не малой расплаты за такое здарэньне.

Але пан быццам бы і забыўся на свае пагрозы Лявону, бо адшуканьне вінаваўцаў пажару раскрыла зусім новую справу.

У суседняй вёсцы было знойдзена шмат аружжа і кулямёты, а так сама знойдзены былі ў аднаго заарыштованага паперы, якія выкрылі патаемную арганізацыю.

З гэтай прычыны пан Панятоўскі, пастухом у якога і служыў Лявон, быў заняты расправаю з сялянствам.

Панятоўскі добра ведаў сялян бліжэйшых вёсак, з многімі судзіўся за сэрвітут і вось цяпер ён задумаў за ўсё разлічыцца.

Жандармы цэлыя вёскі ад малога да старога выганялі на дазнаньне.

Самымі жорсткімі карамі мушчын і кабет хацелі выведаць, хто пашоў з гэтай вёскі ў паўстанцы, з якой хаты ёсьць бальшавікі ў Савецкай Расіі.

Ніхто слова не раняў лішняга, ніхто ня прызнаўся і ня даў праўдловага адказу...

Тагды караючыя атрады польскай жандармерыі падпальвалі вёску ў трох мяйсцох і нікога ня пускалі тушыць...

Змаганьне пачалося не на жыцьцё, а на сьмерць...

Агонь і дым пакрылі абшары краіны, людзі якой цярпелі праз шмат вякоў і чакалі якогась збавеньня.

Ночы гарэлі маёнткі, а ў дзень жандармы палілі вёскі і сёлы.

Дні і ночы захліпаліся ў моры агню, які і павінен быў прынесьці збавеньне мільёнам працоўных мас...

У адзін з гэткіх „сьветлых“ дзён адбыўся палявы суд над паўстанцамі Ігуменшчыны...

Іх расстралялі...

— Як мала, як мала!—казаў пан Панятоўскі пьючы гарбату з мяйсцовай жандармэрыяй,—толькі расстраляць?.. Па мойму—раней повесіць, ня даць сканаць на шыбельніцы і тагды страляць, па аднаму, як шалёных сабак... Ды ўсё трэба гэта рабіць на вочах ваколічнага сялянства, на вачох бацькоў і матак гэтых бунтаўшчыкоў, каб і дзісяты закаяўся займацца такімі штукамі...

— За тых хлопакоў, якіх мусім ешчэ вешаць і стрэляць!— чуць трымаючыся на нагах і паварачваючы языкам сказаў жандармскі палкоўнік, чокаючыся з панам Панятоўскім,..

— Я, пане палкоўніку,—гаманіў трымаючы чарку ў руках Панятоўскі,—заўсёды мувіў, цо не вольна даваць патолі хамам... Цо, пан палкоўніку, паведзе на тэн выпадак, які быў у моім маёнтку? Хто мусі быць пакараны за руйнаваньне і пажары дзесёнткаў, соткі такіх маёнткаў, за пшэліту крэў нашэго шляхецтва ў гэтым хамскім краю!? Так нех бэньдзе спокуй і наша панаваньне нех жые!

Пры слове „жые“ камізэлька ня стрымала тоўстага жывата Панятоўскага, і два гузікі упалі на стол.

— Шапрашам,—сказаў сканфужаны такім здарэньнем пан Панятоўскі і сеў у крэсла...

Ешчэ Польска ня згінела
Траля—ля—ля—ля—ля...

Цягнуў у кутку набраўшыся да адказу „пазнанкі“ ад‘ютант палкоўніка, раз-по-раз цалуючы руку маладой дачкі Панятоўскага, паненкі Ванды..

— Мне хцэся до Варшавы... Мувяць, цо там так ладне, так пшыемна,—захоплючыся прыгожасьцю ад‘ютанта, гаворыла Ванда...

— О, так... мы хутка ў Варшаве бэньдземы...

— Для чэга?

— А так...

— Цо пан, ад‘ютанце мувіць?!

Раптам вясёлая капэля, якая спраўляла „хаўтурны“ вечар па толькі што расстраляных паўстанцах ускочыла з-за сталоў, пачуўшы за вакном страляніну.

Атрад паўстанцоў адбіваў у польскіх жандармаў арыштованых сялян, якіх вялі на дапрос да палкоўніка,..

Усе вайсковыя выскачылі на ганак, а Панятоўскі бегаў як апантаны па хаце, не знаходзячы мейсца, куды схавацца..

Калі бойка кончылася палкоўніку быў данесен рапарт, што паўстанцы ў ліку больш сотні чалавек перабілі канвойную каманду і вызвалілі арыштованых, захапіўшы апошніх з сабою ў лес...

Палкоўнік даў загад усіліць варту пастарунку, а сам, насупіўшы бровы, сеў дапіваць „пазнанку“...

XI.

Па дарозе ў вёску Ціхі Бор ішоў сьляпы жабрак Мітрафан, трымаючыся рукою за плячо свайго хлапца-павадыра.

Павадыр быў босы, у падраных штанох і кашулі, з торбаю за плячыма і сухім лазовым прутком у руках.

Гарачы раньняга лета дзень змарыў да астатку сіл старога і малога жабракоў...



...Палкоўніку быў данесен рапарт...

— Скажы, сынку,—запытаў, Мітрафан,—відаць вёска ці не?

— Відаць... некалькі крокаў і мы ў вёсцы,— адказаў павадыр, папраўляючы торбу...

— Гэта што там у цябе ў торбачцы шарахціць?

— Знайшоў кніжку—вось і нясу.

— А цікавая?

Чытаць ня ўмею

І ты ня ўмееш? Шкода... Ніхай я сьляпы, а то і відушчы пазірае на паперу і ня разумее, што там надрукована...

— А начаваць дзядзуля, тут ня будзем... Пройдзем адным бокам сяла—ды далей...

— Калі-ж ногі мае, сынку, ісьці адказваюцца.. Ты што!? Ты столькі сьцежак не пралажыў, столькі зямелькі чорнай не патаптаў, як я... Мяне тут уся акруга ведае... Мужыкі і паны... Часамі ў маёнтак зойдзеш, то ў порабкоў дзень—два, а то і тыдзень пражывеш. Ёсьць людзі добрыя на сьвеце.

— А паны добрыя? Як па твойму дзядуля?

— Што паны... Аб іх цяпер і гаворыць ня можна. Я хаджу па сьвеце і калі ня бачу, то шмат чаго чую. О як зьдзекваюцца паны над бедным народам...

— А народ цярпіць,— дагаварыў павадыр.

— Мусіць цярпець, калі панская ўлада...

З гэтымі словамі жабракі ўвайшлі ў вёску...

Ліра Мітрафана і яго цененькі галасок пачалі напамінаць кожнай сялянскай хаце аб жабрацкім краі.. Аб краі і народу, які з пакон вякоў жабрue.

Павадыр так сама крыху падпяваў.

Але яму не цярпелася. Яму хутчэй хацелася быць у тэй вёсцы, дзе ў сягоньняшнюю ноч павінна адбыцца сходка...

Мінаючы, то адну, то дзьве хаты, повадыр як бачыш прайшоў, са старцам вёску *і пайшлі далей*.

Ужо было цёмна, калі двое жабракоў у тэй самай вёсцы, куды павадыр і сьпяшаўся. хадзілі ад хаты да хаты і прасіліся начаваць.

Урэшце самы бяднейшы жыхар вёскі адвёў у сваё гумно і паказаў кучу саломы, дзе можна начаваць.

А дванацатай гадзіне ў ночы, як было і умоўлена, павадыр выкраўся ад заснуўшага старца і пабег туды, дзе яго чакалі.

Маленькая вясковая хатка, з завешанымі шчыльна вокнамі была перапоўнена хлопцамі—сялянамі.

Як толькі пасьля шостага стуку адчынілі дзьверы, у хаце зрабілася так ціха, што жужаніна мухі чутна была...

— Грышка, Грышка!—чулася нават у сенцах...

А калі толькі Грышка ў вопратцы правадыра зьявіўся ў хату амаль ня ўсе спалохаліся.

Грышкі ніхто не пазнаў, таго самага Грышкі, якога ня так даўно бачылі ў Каровіным Гаю на сакрэтным сходзе...

— Мяне сьляпы Мітрафан сюды прывёў,—сказаў Грышка вітаючыся са ўсімі папарадку.

— Гэта, значыцца, павязло, калі сьляпы відушчага прывёў... А ты хітрэц Грышка...

— Ай ды малайчына, каб так яму жылося! Вось надумаў штуку!

Некалькі хвілін—і ў кожнага прысутнага ў руках была бальшавіцкая адозва, якія Грышкі некалькі дзён насіў у сваей жабрацкай торбе.

Сход зацягнуўся да трэціх пявуноў.

Хлопцы не маглі разьвітацца з Грышкам, не маглі надзівіцца яго сьмеласьці і выдумцы.

А праз некалькі дзён Грышка ў гэтай самай вопратцы, вядучы за руку сьляпога Мітрафана уваходзіў у маёнтак пана Касінскага, дзе зьмяшчаўся штаб аднэй польскай дывізіі.

Тут яму даручана было выпаўніць больш паважны і сур'ёзны справу—выкрасьці сакрэтныя паперы і раскідаць прызываючыся да бунту лісткі сярод польскіх жаўнераў.

На вялікі жаль Грышка зразу як толькі увайшоў у пякарню, дзе жывуць парабкі, пачуў вестку, якая парушыла ўсе яго пляны.

Два порабкі, якія былі ў сувязі з паўстанцамі і павінны былі дапамагчы Грышку выпаўніць даручэньне, сядзелі ў пастарунку заарыштованымі за падазрэньне ў нападзеньні на скарбніка, які вёз грошы ў дывізійную касу.

У маёнтку было не спакойна.

Грышка убачыў, што аставацца тут ні ў якім разе ня можна, і, выкінуўшы некалькі лісткоў каля кузьні, пад плугі, якія парабкі пасьля абеду павінны былі запрагаць для ворыва, угаварыў дзядулю ісьці далей.

— Няма супакою на сьвеце і ня будзе,—казаў Мітрафан, чуючы размову Грышка з тутэйшым пастушком,—тагды толькі настане для чалавека супакой, калі зямлёю вочы загорнуць.., Чаго-бы вось нам баяцца з табою? нас не абкрадуць, бо не багатыя, не заб'юць, бо нікому дрэннага нічога ня робім, а неяк вось, сынку, непакойна на сэрцы...

Грышка маўчаў. Яму нават сорамна стала, што ён водзіць сьляпога жабрака, а жабрак прыкрывае маладога бунтара—паўстанца, які вялікую справу робіць ходзячы ад вёскі да вёскі... Такую справу, за якую сотні і тысячы людзей павешаны і застрэляны...

І пашлі жабрак і бунтар ад аднэй мясьціны да другой...

Адзін моліцца—ласкаю і пакорнасьцю просіць сабе кавалак хлеба...

А другі каб мець кавалак хлеба, каб знішчыць крыўду і нявалю, уздымае бунтарскі дух народу, кліча да барацьбы з панамі...

XII.

Недалёка ад шляху, на ўзгорку, пад трымя нізкарослымі хвойкамі была насыпана высокая магіла...

Там былі закопаны сяляне—паўстанцы.

Грышку аб гэтым мейсцы даўно было вядома, вось чаму, параўняўшыся з гэтымі трымя хвойкамі, Грышка зьвярнуўся да сьляпога старца:

— Дзядулька! Вунь... але ты праўда ня бачыш... Адным словам недалёчка ад шляху стаяць магілы, дзе закопаны паўстанцы...

— Так чуў, чуў аб гэтым...

— Зойдзем туды...

На вачох Грышкі навярнуліся сьлёза, калі яны укленчылі на жоўты пясок магілы...

— Маліся сынку, хай ім бог дае царства нябесное.

— Я ня ўмею, дзядуля, маліцца... Ты маліся, а я так... па своему...

Тры жмені пяску Грышка усыпаў, сабе ў торбачку... Сэрца яго забілася мацней. Але пачуцьцё помсты заглушала ўсю боль яго маладой поўнай агню і адвагі бунтарскай душы.



Там былі закопаны сяляне-паўстанцы.

Толькі шум хвоек вывёў яго з задуменьня.

— Не даравацъ!—вырвалася гучна слова з вуснаў Грышкі. Мітрафан у гэты час перажагнаўся і сказаў.

— Слабыя мы з табою, сынок дарагі... Не даруе, хто сілу будзе мець...

Грышку нібы то хто сказаў зірнуць на шлях, з якога да гэтых самых магіл ішоў некі незнаёмы чалавек.—

А можа сочаць за тымі, хто тут бывае на гэтых магілах? —мільганула думка ў Грышкі.

І ён доўга ня думаючы ускінаў сваю торбу на шыю Мітрафана сам пабег з узгорку ўніз, у адваротны бок ад шляху.

Грышка не памыліўся.

Незнаёмы чалавек падышоў да жабрака нешта доўга гаварыў паказваючы пальцам на Грышку. Пасьля відаць было, што выцягнуў з торбы лісткі і, разглядзеўшы іх, сілком пацягнуў за сабою сьляпога.

Грышка што было духу папёр цераз поле ў бярэзьнік. Яму была вядома, што за вёрст пяць пачынаюцца абшары пана

Панятоўскага, дзе ён быў сьвінапасам, дзе і па гэтуль яго бацька пасе быдла...

— Туды страшна,—падумаў Грышка, прыхіліўшыся за бярозу і аглядаючыся наўкола, каб з кім нібудзь не спаткацца,—а то можа да лясьніка? Няўжо хто зловіць? Няўжо там варта пастаўлена?..

Дабраўшыся да густога лесу Грышка зусім спакойна пашоў па знаёмых дарожках да лясьніковай хаты.

— А што яны зробяць са сьляпым жабраком?—ня пакідала думка Грышку,—няўжо так сама па зьвярынаму расправяцца?.

Лясьнік толькі што вярнуўся з абходу і разам з Гэлькаю сядзелі на прызьбе.

Гэлька вярнулася да хаты праз два тыдні.

Яна уцякла была з дому да цёткі, якая так сама была замужам за адным з лясьнікоў Радзівілаўскага лесу.

Усе думалі што Гэлька загінула. Бацька хацеў ужо імшу адслужыць. Але яна зьявілася да хаты, ні слова не кажучы дзе і чаго была. Толькі праз некалькі дзён прызналася бацьку, што пашла шукаць у лесе Грышку і гэтакім чынам дайшла да цёткі.

Стары лясьнік быў бязьмерна рад і цяпер ні на адзін крок не адпускаў яе ад сябе.

У лес ідзе—вядзе з сабою, дома сядзіць—казкі ёй гаворыць, або паложыць галоўку на калені і гладзіць яе прыгожыя, мяккія як шоўк валасы.

А Гэлька назьбірае кветак, ўʼе вяночкі і што хвіліны ўспамінае Грышку, з якім гэтак дружыла пасучы каровы і якога выдаў польскім жаўнерам гэты паганы сабака Лыска.

У нядзельку-ж яна разам з бацькам нясе гэтыя вяночкі на магілу якогасьці забітага палякамі хлапца, якая знаходзілася недалёка ад краю лесу.

Гэлька чамусьці думала, што там пахован Грышка, якога забілі, калі уцякаў з пастарунку.

Лявон, бацька Грышкі, так сама што дня маліўся на гэтай магіле, ня ведаючы таго, што яго Грышка жывы і здаровы.

— Тата, чаму мне ня страшна ў лесе?..

— Таму, дачушка,—адказаў лясьнік,—што ты ў лесе радзілася, выгадавалася і увесь час жывеш... Ты як ваўчанётка дзікае, хутчэй людзей спалохаешся, чым глухой пушчы і шумлівага лесу.

Лыска, які ляжаў каля ног лясьніка, загаўкаў і пабег да варот.

Гэлька кінулася ўсьлед за Лыскам.

— Тата, тата!.. Паглядзіце... хто гэта...

Стары лясьнік бягом падбег да варот і стаў углядацца на чалавека, які баязьліва пазіраў з-за дрэва.




— Грышка!—загукала Гэлька, ажно рэха пакацілася па лесе...

І Грышка стрымгалоў бег да варот.

Лыска перастаў брахаць. А лясьнік ня верыў сваім вачам.

Толькі калі Гэлька кінуўшыся на шыю пачала спазнанага абарванца цалаваць, лясьнік паверыў, што гэта быў Грышка сьвіналас.

— Ты жывеш?!—чуць прамовіў ад радасьці бацька Гэлькі.

— А чаго мна паміраць!

Стары лясьнік, выпускаючы сьлязу за сьлязою не пераставаў цалаваць Грышку, аберуч абняўшы яго і Гэльку.

— У нашым лесе цяпер крыху паспакайнела,—казаў лясьнік, вядучы Грышку ў хату,—ня бойся, у мяне можна доўга жыць, ніхто ведаць ня будзе...

І толькі сёньня першую ноч за ўвесь час блуканьня па лесе, за час паўстанчаскага жыцьця Грышка начаваў больш менш спакойна, не галодны і ў цёплай хаце.

Схавалася ў змроку ночы хата лясьніка. Наступіла мёртвая ціша. Бадай усё жывое паснула.

Але Грышка яшчэ ня спаў. Ён слухаў апавяданьні лясьніка, які больш месяцу разам з Лявонам сядзелі ў вастрозе.

Гэлька ўжо спала...

XIII.

— Вы чулі? Сьляпога жабрака Мітрафана палякі заарыштавалі..

— Гэта таго жабрака, што на Чырвоных Магілах маліўся? (так звалі магілы паўстанцаў).

— Таго самага. Павадыр ўцёк, а ў яго, кажуць, поўныя торбы знайшлі бальшавіцкіх лісткоў...

Такімі чуткамі зажылі ўсе ваколічныя вёскі...

— Кажуць,—дадавалі другія,—што гэта не павадыр яго быў, а паўстанец, які ішоў пана нашага забіць.

— Шкода што не забіў гэту погань...

І шмат іншых казак хадзіла пра жабракоў, якія па ўсей Беларусі хадзілі і бунтавалі народ, каб паўставалі супроць паноў,

З гэтага часу ўсе жабракі, якіх так шмат на Беларусі, былі ў вялікай пашане. А польская ўлада пачала папаўняць пастарункі рознымі калекамі, бачачы ў кожным свайго ворага, шчырага прыхільніка паўстанцаў.

Тым часам наступаў вялікі неспакой сярод польскіх войскаў. У паветры запахла порахам. Усе ў адзін голас пачалі гаварыць, што палякі вось-вось павінны пакінуць залітыя крывёю абшары Беларусі...

— Паўстанцы, стройся!—пранеслася баявая каманда па лясох і балотах...

З далёкіх глухіх пушчаў паўстанчаскія атрады пачалі падыходзіць бліжэй да шляхавых дарог да тых мясьцінаў, дзе маглі быць непадалёку пазыцыі...

Грышка ўжо даўно разам са сваею дружынаю знаходзіўся ў добра знаёмым яму лесе, дзе быў вартаўнікам бацька Гэлькі.

Жыцьцё паўстанцаў пашло куды лепей.

Раней прыходзілася жыць дзічынаю, ды перахвачанымі харчамі ў польскіх войск, што стоіла заўсёды не малой ахвяры.

Цяпер-жа—былі блізка родныя вёскі.

У цёмныя ночы шмат хто з паўстанцаў крадучыся пабіраўся да хаты, жыў там дзень-два ў соломе або дзе-нібудзь у склепе, каб на вочы нікаму не паказацца, а пасьля, набраўшы харчоў, зноў уцякаў да сваёй дружыны ў лес...

Хатнія так сама часта дастаўлялі ў лес харчы сваім бацьком ды братом, прысылалі цэлых рэзаных кабаноў, цялят, авечак, хлеба і інш.

Адным словам, ня жыцьцё пайшло, а масленіца. Уся сувязь паўстанцаў, той дружыны дзе быў Грышка, трымалася праз лясьніка і яго дачку Гэльку.

Позьнім вечарам, калі ўсё нарыхтуецца да сну, Грышка што дня ішоў на спатканьне да Гэлькі. Гэлька выпаўняла ўсе заданьні, якія ёй даручаў Грышка. Яна амаль што дня хадзіла ў маёнтак пана Панятоўскага, прыслухоўвалася да настрою польскіх войскаў, якіх тут было нямала і аб гэтым даносіла Грышку.

Не пасьпее узыйсьці сонейка, не прасохнуць яшчэ лясныя сьцежкі ад раньняй расы, як Гэлька ужо бяжыць у маёнтак, або ў вёску, дзе былі хлопцы, таксама трымаючыя сувязь з баявымі дружынамі лясоў і балот.

А вечарам, маленькая паўстанка са здаваленьнем, якога ня можна нават апісаць, апавядае Грышку аба ўсім, што яна чула і што ёй перадавалі сказаць.

Месяц выплыве на сярэдзіну неба. Пачынаюць часамі і птушкі раньнія шчабятаць, захаваўшыся ў лісьцях дрэваў, пастушок—сьвінапас і пастушка ня могуць разьвітацца.

Скончыўшы гутарку, аб справах сакрэтных, яны цэлымі гадзінамі сарамліва пазіраюць адзін на другога, моўчкі прытуляюцца, але не знаходзяць слоў аб чым гаманіць.

Ды на што словы, калі ім і так прыемна, прыемна толькі пазіраць адно другому ў вочы, якія заўсёды зоркамі блішчаць у змроку ночы.

Гэлька ня раз хадзіла разам з Грышкам да дружыны. Ёй падабаліся гэтыя адважныя, незнаёмцы, якія дзень і ноч жывуць у лесе.

Паўстанцы таксама любілі гэту дзікую, чорнавокую дзяўчынку, якая парою выручала іх ад голаду і іншага няшчасьця Яны жартавалі з ёю, абзывалі яе лясным ваўчанёткам... А Грышку часта не праміналі сказаць, нібы жартамі, што ваўчанётка яго каханка.

Грышка маўчаў, толькі яго загарэлыя шчокі ружавелі, вочы хутка пачыналі бегаць і сьвяціцца нібы аганькі.

— Ну, а калі тваё ваўчанётка прыбяжыць да нас?—Вясёлая яна дзяўчынка!—ня раз жартавалі хлопцы над Грышкам, які сапраўды пачынаў сумаваць, калі дзень, аб два ня прыходзілася спатыкацца з Гэлькаю.

Неяк аднаго дня над вечар прыбегла „ваўчанётка“ ў густы кустарнік, дзе быў прывал дружыны...

Але не вясёлую вестку прынесла яна хлопцам, якія так радасна яе спаткалі.

З вёскі даносілі, што вайсковыя часьці заўтра павінны пакінуць гэты район і накіравацца да Менску. А за дні тры, або чатыры адяжджае і караючы атрад жандармэрыі. З гэтай прычыны, як даносілі падпольнікі, у гміне павінен сьпешна адбыцца суд над сялянамі, больш чым над палавінай вёскі, якія збунтаваліся і не пашлі да пана на работу. Шмат каго будуць судзіць за зносіны з паўстанцамі, хаця ніякага доказу на гэта ў польскіх уласьцей ня маецца...

Заставалася адно. Папоўніць дружыну суседнімі баявымі атрадамі і ў часе суду напасьці на гміну, каб такім чынам выратаваць нявінных,..

Хлопцы заварушыліся.

Былі пасланы нарочныя для паведамленьня ўсіх бліжэйшых атрадаў, каб у вызначаны час злучыцца ў пэўным мейсцы і разам атакаваць гміну.

Яшчэ патрэбна было як найхутчэй павядаміць мяйсцовае жыхарства, каб з іх боку была пэўная дапамога паўстанцам

разузнаць сілу польскіх войск, якія знаходзяцца блізка ад гміны, дзе павінен адбыцца суд над сялянамі...

— Я пайду!—выскачыў першы Сьцёпка,—мяне тут мала ведаюць... Я і Андрэй...

— Я гатовы!—гукнуў Андрэй, майструючы падашву, якая адвалілася ад бота.

— Я адзін пайду,—ціхім голасам сказаў Грышка,—я як бачыш аб усім разьведаю.. Вы так сама са мною, толькі не далей краю лесу... У гміну я адзін пайду...

Усе пазіралі на Грышку.

А Гэлька памкнулася была нешта казаць, а пасьля закрыла твар хусткаю і бягом пабегла ў туманную даль гушчару.

Назаўтра раніцаю Грышка хадзіў па акраіне лесу, які стыкаўся з канцамі сялянскіх загонаў тэй вёскі, дзе патрэбна было зрабіць разьведку.

На полі нікога ня было відаць працуючым, бо было яшчэ рана.

Дзень, як на дзіва, выдаўся цёплы і прыгожы. Грышка скінуў падзёртую вопратку і аружжа, захаваў пад кусты, а сам застаўся бяз нічога, у адных зрэбных штанах і кашулі.

Чакаючы змроку, каб няпрыкметна перабегчы ў вёску, Грышка нарэзаў бярозавых дубцоў і пачаў вязаць венік, каб ня было ніякага падазрэньня.

Вясновае сонца песьціла яго лахматую галаву, цалавала яго твар гарачымі праменямі.

Рой думак насіўся ў яго галаве аб тым, што ён будзе рабіць, калі яго зловяць. Але палахлівасьці ня было ні капелькі.

Можа Грышка прывык ужо да такіх апасак, да такіх рыскоўных разьведак, калі ён ня раз сам ішоў у лапы свайго ворага, але заўсёды з-пад самага носу уцякаў, як толькі было небясьпечна.

— А можа і цяпер удасца выпаўніць пляны,—уцяшаў ён сам сябе.

Пачуўся недзе далёка-далёка плач трубы пастуха. Гэты знаёмы і блізкі сэрцу гук прагнаў усе змрочныя думкі.

Грышка пачаў успамінаць, як ён пасьціў сьвіней, пасьля кароў, як гуляў з хлапцамі, лавіў птушкі,—адным словам жыў, нічога ня ведаў і нікога не баяўся.

— Но, каб цябе ліха!.. Куды вернеш?!..

Грышка зірну на загоны і ўбачыў селяніна, які абворваў бульбу...

Узяўшы на плячо зьвязаныя венікі, Грышка пашоў да аратага...

— Шнурок вузенькі,—падумаў Грышка,—значыцца бедны... Ня выдасьць мяне.

Араты пабачыўшы незнаёмага хлапца, застанавіўся і пачаў курыць...

—Што горача, дзядзька?—запытаў Грышка, кідаючы на мяжу венікі...

— Вядома ня холадна, калі потам абліты і я і кабыла!.. А ты адкуль гэта? Нешта ня ведю ў твар...

— Я з тэй вёскі...

— З Камянёў?

— Так...З Камянёў... А чаму дзядзька адзін?

— Ня пытайся! Абудвы сыны там недзе...

Пры гэтым араты махнуў галавою на лес і цяжка пачаў уздыхаць.

— Я каня паваджу вам, хутчэй будзе... А вы мяне ў вёску сваю правядзіцё,—сказаў Грышка зусім сьмела, бачачы, што перад ім чалавек надзейны.

Ото-то добра, а то, падла, мухі кусаюць, дык з ёю ня справіцца ніяк...

Не прайшло і паўгадзіны, як Грышка запытаў аратага:

— Вы чулі пра Грышку сьвінапаса?

— А то як-жа!.. Ого, пра, яго рэчы апавядаюць...

— Вось гэта я і ёсьць той самы Грышка сьвінапас...

Араты выпусьціў з рук пугу і некім спужаным поглядам аглядаў Грышку з ног да галавы...

— Я думаю,—казаў больш сурь'ёзным тонам Грышка, выпусьціўшы з рук павадкі вобруці,—што ты мяне ня выдасі польскім лягіёнам...

Незнаёмы селянін, хрысьцячыся, пачаў казаць:

— Няхай бог бароніць... Ніколі, ніколі... Сыночак, мае дзеткі таксама там, у лесе... Ужо два месяца весткі не даюць аб сабе...

І крыж за крыжам клаўся на мокрыя ад поту грудзі сівабародага селяніна...

— Я веру,—сказаў Грышка,—жагнацца ня трэба... Я бачу, што табе таксама ня смачна жывецца...

Араты маўчаў толькі ківаў галавою і ўздыхаў...

Пасьля паўдня, калі кончылі абвораваць загон, Грышка вярхом на кані, перакінуўшы цераз плечы венікі, уехаў у вёску, па якой дзень і ноч хадзілі і пяялі п'яныя жаўнеры .. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты, як толькі цямнела, нават на вуліцу баяліся паказацца....

На Грышку ніхто нават не зьвярнуў увагі.

А вечарам, адзеўшы гаспадарову браварку і кажух Грышка разам з вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі ехаў на начлег пад той самы лясок, дзе яго павінны чакаць Андрэй і Сьцёпка...

Невясёлая песьня начлежнікаў кранула чулае сэрца Грышкі... Ён пачаў ім падпяваць, уваткнуўшы твар у каўнер кажуха.

Ні ў кога з начлежнікаў і думкі не зьявілася. што з імі едзе Грышка сьвінапас, аб якім яны гутараць што дня на начлезе.

Калі на сенажаці, каля самаго лесу, начлежнікі расклалі вогнішча і паселі наўкола, Грышка зразу пачуў вельмі цікавую і нават новую для яго гутарку.

Хлопцы апавядалі аб Казюку, які быў разам з Грышкам сьвінапасам і з іншымі паўстанцамі, а пасьля ўцёк да хаты і цяпер паказвае польскім жаўнерам, водзіць іх па лесе каб выкрываць нашых хлопцаў паўстанцаў...

— Кажуць,—дабавіў адзін з хлапцоў,—што яго Грышка пакрыўдзіў, дзеля чаго Казюк і хоча злавіць Грышку, каб не даравань.

— Эге! Здохне ня зловіць! Не такі Грышка дурань, каб яго шляхцюк злавіў!—гаварылі адзін да другога хлопцы, далей адсоўваючыя ад вогнішча, якое расло і шырылася ад ускладзеных на яго сухіх бярозавых дубцоў...

Грышка седзючы паводаль каля дрэва лавіў кожнае іх слова і некі час не паказваўся...

*(Працяг будзе).*

М. Чарот






Дзьве вярсты ад гораду, пад жвіровай горкай, каля маленькай рэчкі, знаходзіцца вёска Ліхва.

Нізкія хаткі, пакрытыя саламянымі дахамі, абросшымі цёмным мохам, рассыпаны на вялікім абшары паміж садоў і агародаў. З усіх хатак вызначаецца ў сярэдзіне вялікая дрыўляная будыніка на высокіх дубовых слупох. Калісьці тут была карчма, цяпер тут школа, і вясёлыя малыя дзеткі забаўляюцца на яе старым пахілым ганку.

За хатай знайшлі сабе прыпынак цэлае стада сьвіней. Укапаўшыся ў зямлі ружовымі круглымі рыламі, ляжаць яны і глытаюць пах сьвежай сочнай зямлі.

Разам з сьвіньнямі тут любіць забаўляцца малы Іцка, сын шкляра Лейбы. Ён так звыкся з сваімі чатырохногімі каротка-хвостымі сябрамі, што зусім іх не баіцца. Ён з імі праводзіць час, як са сваёй раўнёй; езьдзіць на іх вярхом, цягне іх за хвасты і качаецца з імі ў пяску.

Бацькі ня білі яго за такое сяброўства. Так ішоў дзень за днём, Іцка забаўляўся з сьвіньнямі, маючы пры гэтым сваю сакрэтную мэту, аб якой нікому не гаварыў.

Быў суботні дзень. Жыды вёскі Ліхвы сядзелі на прызбах і гаманілі між сабою. Было горача. Іцка сядзеў каля сваёй маткі і прыслухоўваўся да яе казак. Вельмі цікавыя былі казкі...

З усіх гэтых казак у памяці Іцкі асталося вось якая казка:

Недалёка ад Ліхвы жыве багаты пан. Пад яго палацам ёсьць камены склеп, дзе ляжаць у мэталічных трунах панскія бацькі, дзяды і прашчуры. Увабраныя ў золата і брыльянты ляжалі яны. Кожны брыльянт—цэлы багаты скарб.

Аднаго разу ў цёмную асеньнюю ноч у склеп улезьлі зладзеі і сарвалі з нябошчыкаў золата і брыльянты—поўныя мяшкі золата і брыльянтаў. Зладзеі панесьлі гэта шынкару на схаваньне. Шынкар закапаў скарб пад хатай, у тым мейсцы, дзе цяпер стаіць школа і дзе капаюцца сьвіньні. Праз некалькі дзён пасьля кражы прыехаўураднік з некалькімі стражнікамі і знайшлі

гэты скарб, але ня ўвесь—можа дзесятую частку знайшлі. Шынкара з усей сям'ёй загналі далёка-далёка ў Сыбір, скуль яны і не вярнуліся, а скарб астаўся ляжаць у зямлі.

Іцка пастанавіў знайсьці гэты скарб. У хаце так голадна і холадна. Бацькі скардзяцца на беднае жыцьцё—калі ён знойдзе скарб, дык ашчасьлівіць усіх.

З таго часу Іцка пастаянна капаўся каля хаты. Цэлымі днямі ён са сьвіньнямі капаўся ў пяску, а ў ночы пазіраў у бок карчмы і яму здавалася, што адтуль мігаюць яму яскравыя брыльянты.

Быў ясны летні дзень. Усё вакол адпачывала і драмала пад гарачымі праменьнямі сонца.

Іцка як заўсёды капаўся ў гарачым пяску і шукаў захаванага скарбу. Раптам з боку грэблі пачуўся топат коняў, бегатня і страляніна. Благія дзікія людзі са стрэльбамі ў руках насіліся туды і сюды па вёсцы. Пачуліся страшныя жудасныя крыкі, вось як раз нібы колюць парсюка.

Іцка глыбока укапаўся ў зямлі і затаіў дыханьне. Яго маленькае сэрца так моцна білася, што яму здавалася, нібы благія людзі на конях гэта пачуюць. Ён ляжаў доўга. А пазьней, калі ў вёсцы супакоілася і мельнік Сьцяпан выцягнуў яго з пад хаты і адвёў да сябе дамоў, Іцка даведаўся, што астаўся сіратцінаю—балахоўцы зарэзалі яго бацькоў. Так гаварылі сяляне. Але малы хлопчык ня мог гэтага зразумець і ўсё распытываўся, дзе яго бацькі, калі яны за ім прыдуць. Яму хацелася ісьці да хаты, але Сьцяпан не пускаў:

— Сядзі, мой сынок, сядзі,—гаварыў яму Сьцяпан, гладзячы яго па галоўцы,— не бядуй, мы цябе не пакінем.

Праз пару дзён з гораду прыехалі камісары, яны аб нечым распытывалі сялян, хадзілі па ўсіх хатах, нешта запісвалі, а пасьля яны палажылі некалькі вазоў трупаў, прыкрылі іх вялікімі рагожамі і павезьлі ў горад.

Іцку яны таксама ўзялі з сабою, ня гледзячы на тое, што Сьцяпан не хацеў яго адпускаць. Па дарозе Іцка падышоў к возу і падняў рагожу...

Пара жудасных застыўшых вачэй на яго так грозна глянулі, што ён чуць жывы ад страху адскочыў назад.

У горадзе яго адвезьлі ў вялікі дом. Там было яшчэ шмат дзяцей—усе сіроты і шмат настаўнікаў і настаўніц. Іцку вельмі смутна зрабілася. Ён сумаваў, па вёсцы, сьвіньнях і рэчцы. Там было так вольна і весела. А тут ты павінен вучыцца і працаваць.

У ночы лежучы на ложку, яму прадстаўлялася яго родная хата ў вёсцы. Ён знаў сваіх бацькоў. Ён знайшоў скарб і ўсіх узбагаціў. Мама купіла са е новую белую хустку, а бацька—новую вопратку. На стале ляжыць вялікая булка хлеба. Але чаму так грозна блішчаць вочы ў маткі, а вопраткі бацькі акрываўленыя.

Іцка дрыжыць ад страху, ўкапаўшыся глыбока ў падушкі, пачынае голасна плакаць:

— Маці, маці, я баюся. . хачу дамоў... дамоў...

А раніцай, калі Іцка прасыпаўся, ён доўга паглядаў вакол на малыя ложкі, на вялікія сьветлыя вокны, на незнаёмых дзяцей і ня ведаў дзе ён знаходзіцца.

Увесь лад жыцьця гэтага дому яму здаваўся нейкім дзіўным і прыкрым.

Разам спаць, разам есьці, разам вучыцца, гуляць, сьпяваць —усё разам.

І яму заўсёды хацелася быць адным. Ен часта тайком выходзіў у сад, на вуліцу, дзе ён задумёна блукаўся. Настаўніцы за гэта яго моцна прабіралі, але не памагала—ён рабіў сваё.

Было сьвята. Дзеці выбіраліся на гулянку ў лес. У шэрагі, як салдаты, яны выстраіліся на дзядзінцу.

Іцка вельмі любіць лес. Там дома так сама ёсьць лес: стромкія сосны, грыбы, ягады... Вельмі часта Іцка бегаў па мяккім моху з вясковымі пастухамі, сьвістаў, сьпяваў, сьмяяўся, ажно з усіх куткоў пушчы раздаваліся гучныя водгалаські.

Але ісьці „разам“ ён цяпер не хацеў—выскачыў з шэрага і ўцёк за горад на Прыпець.

А рака доўгая і шырокая, ледве другі бераг угледзіш. Спакойна коцяцца воды паміж балотных берагоў, імкнуцца аж у мора,—думае Іцка,—а ў моры рыбы вялізныя, страшныя, людзей глытаюць.

Іцка на хвілінку рыбаловам зрабіўся. Улез босымі нагамі ў ваду і пачаў лавіць рыбу кіём. Ен так заахвоціўся сваёй забаўкай, ажно не прыкмеціў як нехта падышоў да яго ззаду і палажыў яму рукі на плечы.

Іцка азірнуўся—перад ім стаяў малы жэўжык, такі як ён босы з вялікай шапкай на галаве.

Хлопчык Іцку вельмі спадабаўся, загарэлы ад сонца з запыленымі нагамі якія ледзьве былі відаць з пад даўгіх партонак—ён быў вельмі падобны да яго сяброў з вёскі Ліхвы.

— А ведаеш,—казаў яму Іцка—паедзем туды на чаўне!

Хлапец згадзіўся. Праз пару хвілін хлапчукі адвязалі човен які стаяў прывязаны да куста, ускочылі ў яго і двумя шастамі адпіхнулі яго ад берагу.

Човен паплыў. Тады Іцка палажыў шост, лёг на дно чоўна і давай узірацца ў глыбокую сінь неба.

Квелы ветрык гладзіў яму твары і валасы. Вада ціха плюхалася пад лодкай і хлопчыку здавалася, што ён едзе ў Амерыку да свайго дзядзькі краўца.

А човен усё плыў наперад. Горад астаўся далёка за імі. Вакол зелянела жытняе поле. А хлопчык усё ляжаў на дне чоўна і задумёна ў неба паглядаў.

Тым часам надыйшлі чорныя хмары, падняўся вецер і кідаў човен ва ўсе бакі.

Хлопец занепакоіўся, і пачаў пужацца.

— Вернемся назад!—казаў ён да Іцкі.

Але гэта было пя так лёгка рабіць. Човен насіўся плыньню наперад. Хлапчукі яго стрымаць не маглі. Пачалася навальніца з дажджом.

Праз некалькі хвілін наехаўшыя рыбаловы затрымалі іхні човен і вывелі на бераг.

Перачакаўшы дождж, завезьлі з сабою дзяцей у свой хутар вёрст пяць ад гораду, хлапчукі там пераначавалі.

Іцка чуўся вельмі добра ў рыбаловаў. Лежачы на печы пад вялікай рыбалоўнай сеткай, якая вісела на кіёх, ён думаў аб тым, як добра быць рыбаловам.

Вольныя без настаўнікаў, без вартаўнікоў, рыбаловы плаваюць на вялікіх лодках па рацэ і робяць, што ім хочацца. Іцка забыўся аб усім. Яму здавалася, што ён у чоўні на рэчцы. Закідвае невад, выцягвае шмат рыбак, у якіх вочкі чырвоныя, шалуха срыбная. А вакол маланкі блішчаць, пяруны рагочуць. Хвалі нясуцца і скачуцца, як раз'юшэныя зьвяры і кідаюць лодку, ва ўсе бакі. Але Іцка не баіцца. Ён—рыбалоў. З такімі думкамі хлопчык засыпае на цёплай печы.

Назаўтра рыбаловы адвезьлі хлапчукоў назад у горад.

Калі ў дзіцячым доме зноў угледзілі Іцку, дык усе—настаўнікі і дзеці—вельмі ўзрадаваліся. Усе думалі, што ён утапіўся. Яго доўга шукалі каля рэчкі, далі знаць міліцыі, думалі што прапаў. Кухарка плакала, бо ўсе яе вінавацілі ў сьмерці Іцкі, дзеля таго што яна адна асталася ў доме і павінна была глядзець за ім.

Аб гэтым усім апавядалі яму дзеці, якія скакалі вакол яго цэлы дзень і стараліся рабіць прыемнага чым толькі маглі. Нават і настаўнікі паглядалі на яго добрым вокам.

Але хлопчыка цягнула на волю—ў вёску...

У дзіцячым доме дні цягнуліся аднастайныя нудныя. Што дня тая самая яда, тыя самыя лекцыі, гульні. Апрача таго на Іцку цяпер звярачвалі больш увагі—пільнавалі яго, каб ён зноў ня ўцёк!

З кожным днём Іцка ўсё болей і болей непакоіўся. Пачаў сварыцца з дзяцьмі.

Пасьля абеда растроены і разгневаны стаяў Іцка на сходах і глядзеў як дзеці забаўляюцца.

— Дай сюды сваю місачку! сказаў Іцка да маленькай дзяўчынкі з блакітнымі вочкамі.

— Я сама вымыла гэту місачку,—спакойна адказала дзяўчынка,—калі не лянуешся, ідзі на кухню і вымый сабе місачку.

Іцка зазлаваўся і штурхануў дзяўчынку. З лямантам і плачам дзяўчынка пакацілася па сходах уніз. Бледны і спалоханы Іцка астаўся на мейсцы спалоханы. Дзяўчынка моцна пабілася. Доктар казаў адвесьці яе ў шпіталь.

Гэты выпадак зрабіў на Іцку вялікае ўражаньне і прымусіў яго зрабіцца лепшым. Ен нікога болей не чапаў. Настаўнікі і дзеці таксама пачалі лепей адносіцца да яго. Ніхто аб здарэньні з дзяўчынкай яму не ўспамінаў.

Але гэта ўсё яго яшчэ больш не пакоіла. Цэлымі днямі ён трывожыўся і яму ўсё здавалася, што дзяўчынка памірае.

Часам ён хадзіў каля шпіталя і распытываўся, як дзяўчынка маецца.

Яму надта хацелася чым колечы ўгадзіць дзяўчынцы і ён пастанавіў пайсьці ў вёску Ліхву, адшукаць скарб з золатам і брыльянтамі і аддаць дзяўчынцы.

Ня доўга думаючы, Іцка ўцёк у вёску Ліхву. Пайшоў адразу да Сьцяпана. А калі Сьцяпан пачаў яго распытываць чаму ўцёк з гораду—ён выдумаў байку, нібы яго там мучылі і есьці не давалі.

Сяляне над ім узьлітаваліся і забралі яго к сабе. Удзень ён пасьвіў сьвіней і гусей, а ўночы ён хадзіў скарб адкопываць. Але колькі не капаўся нічога не знайшоў.

— А можа гэта выдуманая байка?—пачау думаць хлопчык.

Прайшло некалькі месяцаў, а ён усё не забываўся аб пакрыўджанай ім дзяўчынцы.

Патрохі пачала падыходзіць восень. Поле апусьцела і лісты на дрэвах пажаўцелі.

Пачаліся васеньнія дажджы. Вецер рваў саламяныя стрэхі і сьвістаў у комінах.

Іцка зажадаў быць у горадзе сярод дзяцей і настаўнікаў.

Сяляне таксама гаварылі яму, што ніякага толку няма быць яму пастухом.

— Цяпер,—кажа Сьцяпан,—іншы сьвет—усе павінны вучыцца.

Іцка вярнуўся б назад у горад, але баіцца можа „яна" памёрла і ўсе будуць глядзець на, яго як на разбойніка.

Сьцяпан выбіраўся адвесьці ў горад харчовы падатак.

— Трэба доўг свой заплаціць,—гаварыў Сьцяпан сваім суседзям. Мы шмат вінаваты дзяржаве. Яна дала нам зямлю і волю, дык мы за гэта павінны даць хлеба рабочым і Чырвонай Арміі.

А калі Сьцяпан павёз у горад збожжа і бульбу, дык паехаў з ім і Іцка.

Марудна кратаўся старэнькі конік Сьцяпана па ціхіх вуліцах гораду. Іцка ішоў сумны з боку і ўсё думаў у каго пытацца аб пакрыўджанай ім дзяўчынцы.

— Іцка, Іцка, Іцка,—пачуў ён раптам голас. Гэта кухарка ішла на рынак і ўгледзіла яго.

Іцка, жывеш? Яна яго абняла, як сваё роднае дзіця.

— А дзяўчынка выздаравела?

— Выздаравела. Яна ўсё пытаецца, дзе ты дзеўся.

Сьцяпан пакіраваў свайго коніка ў дзіцячы дом.

Іцка астаўся ў доме. Ён зрабіўся найлепшым хлапцом у дзіцячым доме. Кінуў думку аб скарбах і пачаў добра вучыцца.

Час-ад-часу ў дзіцячы дом прыходзіў Сьцяпан са сваім сынам камуністам, які толькі што вярнуўся з Чырвонай Арміі. З імі ў дзіцячы дом прыходзілі і іншыя сяляне з вёскі.

Прывозілі з сабою гасьцінцы для дзяцей: яйкі, масла і малако.

— Вы нашыя сіроты,—гаварылі селяне,—мы аб вас не забудзем. *Тыя, хто хацеў нас зноў зрабіць нявольнікамі,* забілі вашых бацькоў. Мы павінны гэта памятаць.

Калі надыйшла Акцябрская урачыстасьць, прыехаў з вёскі сын Сьцяпана, які быў выбраны старшынёю Валаснога Выканаўчага Камітэту. Ён сабраў дзяцей разам з настаўнікамі і павёз іх у Ліхву.

У быўшай карчме была наладжана гульня. Два дні гулялі там дзеці з дзіцячага дому разам з дзяцьмі вёскі Ліхвы.

Адным з найвясялейшых у гэтай вялікай грамадзе быў Іцка.

Я. Левін.






Многа тысяч год таму назад людзі яшчэ ня ведалі прыватнае ўласнасьці. Яны супольна ўладалі ўсім тым, што мелі. У іх ня было дзяржаўнай улады.

Гэты далёкі, вельмі далёкі час называецца звычайна часам першабытнага камунізму.

Па меры таго, як у грамадзе зьявілася прыватная ўласнасьць, яна, быўшая раней аднолькаваю ва ўсіх сваіх часьцінах стала *разнароднаю.* Адны з людзей мелі сваю ўласнасьць, другія яе ня мелі; у адных было шмат усялякага дабра, а ў другіх ледзь хапала на пражыцьцё; адны рабіліся ўласьнікамі зямлі; другія— ўласьнікамі жывёлы.

Для таго, каб істнаваць, людзі павінны былі змагацца з прыродаю, павінны былі *вытварыць.*

Займаючыся вырабчасьцю, людзі займалі ў ёй розныя мейсцы. Адны загадвалі, другія выконывалі загады.

Так, калі скончыўся першабытны камунізм, людзі пачалі дзяліцца на групы.

У адну групу ўвайшлі земляўласьнікі, у другую тыя, каторыя камандавалі ў вытворчасьці, у трэцюю тыя, каторыя ня мелі ўласнасьці і г. д.

З таго часу чалавечая грамада складаецца з розных груп ці, як іх называюць, *клясаў.*

І так, што мы называем клясам?

*Клясам мы называем групу людзей, злучаных агульнымі гаспадарчымі інтарэсамі.*

Сяляне, напрыклад, заусёды складалі адну клясу, бо мелі аднолькавыя інтарэсы. Памешчыкаў яднялі другія інтарэсы і яны таксама складалі аддзельную клясу. Інтарэсы сялян былі варожымі інтарэсам памешчыкаў і наадварот.

У кожную эпоху мейсца занятае ў грамадзе тэю ці іншаю клясаю меняецца. То першую ролю граюць рабаўласьнікі і рабы, то памешчыкі і прыгонныя, то фабрыканты і рабочыя. Разьвіваюцца вытварчыя сілы грамады,—мяняецца і строй грамады. Кляса, якая стаяла на чале вытварчасьці, трэціць уладу.

На мейсца яе становіцца новая кляса, якая і пачынае кіраваць гаспадарчым жыцьцём.

Кляса, для якой прышоў час сыйсьці з гістарычнай сцэны ніколі дабраахвотна не пакіне ўлады. Яе прыходзіцца скідаць сілаю. Гэты момант, калі адна кляса адбірае ўладу ад другой, называецца *момантам рэволюцыі.*

Рэволюцыя выключае сабою, звычайна, доўгі пэрыяд *клясавай барацьбы.*

Клясавая барацьба, барацьба тых клясаў, на якія дзеліцца *грамада, ніколі не спыняецца. Яна запаўняе сабою ўсю гісторыю.* Яна галоўны фактар грамадзянскага жыцьця.

Барацьба клясаў на працягу вякоў нясупынна мяняе сваю форму; з захаванай яна робіцца адкрытаю, з адкрытай—ізноў захаванаю, то носіць востры характар, то прытупляецца, робіцца хранічнаю. Кожная кляса, абараняючы свае інтарэсы, выкарыстоўвае ўсе магчымыя сродкі абароны. У клясавай барацьбе праціўнікі карыстаюцца рознаю зброяй: газетны артыкул, прамова ў парлямэнце, забастоўка, паўстаньне, царкоўнае каяньне, дэманстрацыя—законы вось тая зброя, пры дапамове якой адна кляса змагаецца з другою.

Барацьба, каторую кляса вядзе са сваімі праціўнікамі, можа быць сьвядомаю, г. з. такою, калі яна разумее якімі сродкамі можна перамагчы ворага,—і несьвядомай, калі кляса толькі адчувае варожасьць сваіх інтарэсаў, інтарэсам другой клясы, але ня ведае, якім парадкам трэба змагацца з ворагам.

Напрыклад, бунт рабоў у Рыме 2000 год таму назад быў барацьбою несьвядомаю, бо рабы хацелі зьнішчыць сваіх гаспадароў і заняць іх мейсца.

У нашы часы нямецкія рабочыя вядуць сьвядомую барацьбу з капіталістамі. Яны ня хочуць заняць мейсца сваіх фабрыкантаў і банкіраў. Яны хочуць зьнішчыць той грамадзянскі лад пры якім, кучка дармаедаў можа эксплёатаваць масы. Пры гэтым, яны разумеюць, што іх барацьба і перамога прадыктаваны ўсім ходам гаспадарчага жыцьця Нямеччыны, і саўпадаюць з інтарэсамі падаўляючай большасьці нямецкага народу.

Мы ўжо казалі, што клясавая барацьба заўсёды канчаецца рэволюцыйным выбухам, які вядзе да зьмены аднае пануючае клясы другою.

Да нашага часу, пры гэтым, і тая кляса, якая траціла уладу, і тая, якая займала яе мейсца, былі клясамі меншасьці, г. з. яны належылі да невялікіх лічбаю груп грамадзянства. Так, напрыклад, было калі на зьмену рабаўласьнікам прышлі памешчыкі-прыганятыя, альбо, калі мейсца памешчыкаў заняла буржуазія.

Толькі ў асобе рабочае клясы на чале грамады стала кляса *большасьці*, кляса, да якой належыць большасьць народу. Канчатковая перамога гэтае клясы прывядзе да таго, што скончыцца эксплёатацыя чалавека чалавекам, захапленьне маленькаю куччкаю працы вагромністай масы.

З *клясавай*—пасьля перарыву ў некалькі тысяч гадоў—чалавечая грамада ізноў зробіцца *бязклясавай*. Чалавек чалавеку больш ня будзе ваўком. Чалавек чалавеку будзе братам, братам па працы, па барацьбе са сьмелымі сіламі прыроды за лепшую будучыну чалавецтва.

Праф. Вольфсон.






Пайшоў ужо сёмы год, як замцовываецца новая прамысловасьць.

Фабрычна-заводзкая і іншая прамысловасьць, ў якіх галоўным дзеячом зьяўляецца рабочы, ужо ў значнай меры узышла на новы шлях сваёй гаспадарчай і тэхнічнай дзейнасьці.

Зусім ня тое бачым мы ў сельска-гаспадарчай прамысловасьці, ня гледзячы што гэта зьяўляецца галоўной прамысловасьцю нашай Беларусі.

Тут нам прыходзіцца сустракацца, па першае, з сівымі дзядоўскімі і прадзядоўскімі прыёмамі выкарыстовываньня і выраб-ку сельска-гаспадарчых расьлін і другое—з цяжкім разпаўсюджаньнем сярод сялян папулярных кніжак па сельска-гаспадарчым і грамадзянска-эканамічным пытаньням.

Усё гэта разам не дае нам пэўнага руху адраджэньня сельска-гаспадарчай прамысловасьці і, галоўным чынам, зьмены ў нашага селяніна ўстарэлага псыхолёгічнага пагляду на сутнасьць сучаснай сельска-гаспадарчай прамысловасьці.

Але пры гэтым раней усяго зьяўляецца пытаньне, якім-жа шляхам дапамагчы нашаму селяніну ў сэнсе зьмены яго пагляду на карыстаньне такім багацьцем прыроды, як зямля? Гэта здолеяе зрабіць толькі сялянская моладзь. Сам селянін гэтага нязробіць. Ён глыбока будзе абараняць свае асабістые выгады ад карыстаньня зямлёю, дзякуючы напрамку быўшай царскай дзяржавы. Яму вельмі ўжо цяжка адмовіцца ад гэтага і быць запраўды ўдзельнікам творчага жыцьця беларускай рэспублікі ня толькі палітычнага, але эканамічна-сельска-гаспадарчага.

Толькі адна наша вясковая моладзь здоляе вывясьці наша сялянства з таго тупіку, ў якім яно апынулася пры новым, як палітычным, так і эканамічным жыцьці рэспублікі.

У дапамогу моладзі дзеля адраджэньня сельскай-гаспадаркі істнуюць яшчэ і спэцыяьные ўстановы: агульная аграномія і саюзы. Першае, як яшчэ новая організацыя ня мае сродкаў для асьветнай і практычнай работы ў справе новага адраджэньня сельскай гаспадаркі і зьяўляецца яшчэ ў большасьці з асоб з невялікім агранамічным сьветапоглядам, ня зможа пагэтаму ў блізкай будучыне даць добрых вынікаў.

Саўхозы (савецкіе гаспадаркі), як яшчэ слаба наладжаны ня здоляюць правесьці шырокай практычнай дзейнасьці; атсутнасьць сродкаў дзеля памяшчэньня сельска-гаспадарчых галін, і ўзыходзячую на новую эканамічную палітыку—недаступна нашаму сялянству. Прычын па гэта шмат: на першае, нашы саўхозы так яшчэ бедныя, як агульна-палітычнымі так і спэцыяльна сельска-гаспадарчымі кніжкамі, брашурамі, што ніяк ня змогуць цяперашні час праводзіць культурнаасьветную працу, павялічываць разьвіцьцё нашага сялянства; па другое і самы склад кіраўнікоў некаторых саюзаў настолькі яшчэ непадгатаваны для працы сярод сялянства каб замацаваць новую арганізацыю адраджэньня сельска-гаспадарчай прамысловасьці, што ў гэтым напрамку саўхозы ня так хутка зробяць пералом ў сьвядомасьці нашага сялянства.

Здавалася-б, што большасьць рабочых быўшых панскіх маёнткаў, быўшыя батракі, увайшоўшыя цяпер у гушчу сялянскага жыхарства, здолілі-б зрабіць уплыў на больш карысьнейшые прыёмы тэхнікі с.-гаспадаркі, але гэта ня здарылася і яны сталі такімі земляробамі, як і наша сялянства.

Апошняе тлумачыцца тым, што быўшыя памешчыкі ніколі і ня думалі каб зрабіць сваіх рабочых сьвядомымі, як у сэнсе іх разьвіцьця, так і каб яны сьвядома выконвалі тэхніку сельскай гаспадаркі.

Такім чынам быўшыя батракі ня могуць праводзіць, а ніякае працы сярод сялянства па шляху разьвіцьця сельска-гаспадарчай прамысловасьці.

І так мы бачым, што для новага пераломy нашай с.-г. прамысловасьці Беларусі астаецца толька наша сялянская моладзь.

Моладзь скарыстае ўсю сваю энэргію, свой розум каб зьнішчыць сярод сялянства ўсе сівыя, зацьвіўшые погляды на сельскую-гаспадарку, якія шкодзяць праводзіць новые політычные і эканамічные заданьні савецкай дзяржавы.

Наша моладзь рэволюцыйная, наша моладзь здольна хутка ўсвайваць прыёмы і формы новага політычнага і экономічнага жыцьця.

Наша сялянская моладзь, знаходзіцца большасьцю ў сялянскай гушчы, ведае яе дрэнные бакі, у адносінах погляду на сельска-гаспадарчую прамысловасьць наогул, гэтым хутчэй могуць зрабіць належны ўплыў.

Вось задачы нашай моладзі.

Вялікая справа, будаваньне сельска-гаспадарчай прамысловасьці нашай маладой рэспублікі Беларусі.

Галоўнае багацьце Беларусі—зямля і лясы.

Апошняе знаходзіцца пад кіраўніцтвам пэўнага органу Савецкай Улады. Бязумоўна ў сілу гэтага адказнасьць за неправідловае выкарыстовываньне ляжыць на гэтым органе, але і тут моладзь павінна прыняць гарачы ўдзел, прысьці на дапамогу дзеля эканамічнага адраджэньня лясной прамысловасьці.

Зямля ўся перадана Савецкай Уладай для карыстаньня сялянству і зразумела што на сялянсьцьве ляжыць адказнасьць за правідловае карыстаньне.

Учым-жа выяўляецца задача моладзі? Адказ на гэта пытаньне, безумоўна, шырокі.

Галоўная задача павінна выяўляцца: укінуць у гушчу сялянскага жыхарства сьвядомасьць, зьнішчыць непрадуктыўнасьць карыстаньня зямлёй.

Абавязкова зьмяніць погляд нашага сялянства на форму карыстаньня такога багацьця прыроды, як зямля.

Наша Беларусь рэспубліка землеробская, а знача мы павінны пакласьці ўсе свае сілы на гэтым фронце і тым павялічыць наша народнае багацьце.

На гэтым фронце мы павінны збудаваць сваю Амэрыку.

Мы павінны падняць становішча нашай гаспадаркі так, каб змаглі конкурыраваць на міравым рынку.

Наш беларускі народ бязумоўна адзначаецца сваёй працаздольнасьцю, яму толькі нехапае ведаў.

Дык ты моладзь бяры лейцы ў рукі і пакіруй застарэўшыя прыёмы карыстаньня зямлёй у новы, бурлівы раўчук.

Ты моладзь ўсе аджыўшые погляды у нашага селяніна павінна амаладзіць, павінна акамсамоліць.

Ты моладзь павінна зрабіць так, каб наш селянін здалеў сваімі амалоджноымі поглядамі вялікае заданьне—адраджэньне сельска-гаспадарчай прамысловасьці сваёй краіны Беларусі!

Агран. Кацкураў






Беларуская моладзь, якая жыве ў Савецкай Беларусі ды ў іншых рэспубліках Савецкага Саюзу, уваходзячы ў Камсамол, робіцца фактычным і поўнапраўным сябраю сусьветнай моцнай пралетарскай арганізацыі.

Беларускія камсамольцы праходзяць праз пралетарскія школы, тэхнікумы, унівэрсытэты, выхоўваюцца ў бадзёрай і здаровай атмсфэры пралетарскага будаўніцтва грамадзянскага і дзяржаўнага жыцьця. Яны жывуць ідэямі камуністычнай інтэрнацыянальнай арганізацыі. Яны будуць запраўднымі, адважнымі й адукаванымі комуністамі.

Беларускія камсамольцы—гэта лепшая надзея працоўных мас Савецкай Беларусі. Надзея гэта мацнее й расьце з кожным годам, месяцам, днём. І ня доўга ўжо чакаць асталося, каб надзея спраўдзілася, перайшла ў жыцьцё як рэальнасьць, як істнуючы факт.

*Скора, ужо скора прыдуць яны, камуністы—настаўнікі,* аграномы, дактары, інжынэры, прафэсары, выдатныя публіцысты, песьняры, артысты й компазытары, грамадзянскія й палітычныя дзеячы.

Станецца. Беларускія рабочыя й сяляне вераць у гэта, чакаюць гэтага, пераконаны ў гэтым.

Бачаць ужо як ідуць цьвёрдым крокам першыя шэрагі беларускага камуністычнага маладняка.

Вітаюць яго!..

* * *

А як-жа там, за рубяжом жыве й выхоўваецца беларуская моладзь? У якіх варунках культурных і політычных знаходзіцца яна, якімі ідэаламі кіруецца яна ў сваёй працы?

На гэты раз у кароткіх словах нарысуем становішча беларускай моладзі ў Літве, Латвіі і Чэха-Словакіі (Празе).

**У Літве** беларусы складаюць нацыянальную меншасьць і жывуць у прымежным з Горадзеншчынай і Віленшчынай пасе, гдзе вёскі з беларускай насельнасьцю чарадуюцца з чыста-літоўскімі вёскамі.

Няма там ні беларускіх школ, ня бывае там беларускай газэты, ня сустрэнеш там беларускай кнігі.

Прад беларускім маладняком гэтых мяйсцовасьцяў ляжаць тры шляхі: ці вучыцца ў літоўскіх школах, ці ехаць вучыцца заграніцу, ці жыць у цемры.

Мала хто з сялянскіх дзяцей мае магчымасьць выехаць адукавацца ў іншую дзяржаву. Звычайна яны змушаны вучыцца ў літоўскіх школах або—што часьцей—застаюцца ня пісьменнымі.

А дзеля таго, што ў Літве ўся навука—ад ніжэйшых школ да вышэйшых—знаходзіцца пад ўплывам, ці ляпей сказаць, знаходзіцца ў лапах ксяндзоў, то зразумела, што ў пачатковых вясковых школах беларускую моладзь навучаюць як шанаваць „начальства“ і маліцца богу. А гэткая „навука“ для сялянскіх дзяцей часам бывае куды горай і шкадней, чымся простая няпісьменнасьць,

Няма чаго й казаць, што ў Літве беларуская моладзь мае магчымасьць атрымаць політычнае разьвіцьцё, што там яна арганізавана, што яна рэволюцыйна ў лепшым сэнсе гэтага слова. Варункі для палітычнага разьвіцьця й палітычнай працы ў Літве вельмі цяжкія.

Як ведама, у Літве цяпер пануюць шавіністычна настроеная ваеншчына, ксяндзоўшчына й буржуазія. Там пануе белы тэрор: ня толькі камуністычныя, але і эс-эраўскія арганізацыі загнаны ў падпольле, а час ад часу літоўская паліцыя робіць у розных мяйсцовасьцях вобыскі ды арэшты —ўсё шукаюць „бальшавікоў“.

Буржуазны літоўскі ўрад усім цяжарам сваяго адміністрацыйнай—поліцэйскага апарату навальваецца на спробы моладзі палітычна разьвівацца й арганізавацца.

А моладзь усё-ж-ткі творыць камсамол—у патайку, рызыкуюць свабодай.

У турмах літоўскіх і зараз ёсць ня мала камсамольцаў, якія—прыйдзе гэты час!—шмат раскажуць аб чорнай працы „дэмакратычнага“ панска-ксяндзоўскага літоўскага ўраду.

**У Латвіі** беларусы таксама зьяўляюцца нацыянальнай меншасьцю. Усяе беларускае насельнасьці там налічаецца каля 70.000 чалавек, з якіх 90%—сяляне.

Варункі для культурнага разьвіцьця беларускай моладзі значна, можна сказаць непараўнальна лепшыя, чымся ў Польшчы й Літве урада Польшчы й Літвы, у часе ўтварэньня гэтых дзяржаў, надта многа і урачыста абяцалі беларусам, але ўсе гэтыя абяцанкі засталіся на паперы. З бегам часу правы й дамаганьня беларускай насельнасьці „забываліся“ й абціналіся, а, урэшце, справа дашла да поўнай ігнарацыі беларускіх культурных патрэб (аб палітычных мы ужо й не гаворым!) і да спыненьня беларускай культурнай чыннасьці.

Урад Латвіі нічога не абяцаў, але за тое хоць дазволіў беларусам займацца культурным адраджэньнем, організоўваць школы, тэатры і г. д. Гэтага было даволі, каб беларусы на працягу 3—4 год прарабілі значную культурную работу. Цяпер у Латвіі ёсьць 50 пачатковых беларускіх школаў і 2 гімназіі. Зразумела, што гэтай лічбы школаў не хапае, каб здаволіць прагу беларускай моладзі да асьветы.

Але, як вядома, нельга сказаць пра моладзь, што яна добра выхоўваецца, калі яна толькі вучыцца: канчае пачатковую, сярэднюю ці вышэйшую школу. Трэба каб падрастаючае пакаленьне вучылася **зусім іначай**, як раней: не па буржуазнай сыстэме й праграме, не па буржуазным падручнікам і не пад кіраўніцтвам і ўплывам буржуазных настаўнікаў і прафэсароў.

У сучасны момант надзвычайна цяжкай барацьбы пралетарыята з капіталістамі, самае галоўнае каб малодняк разьвіваўся й рос політычна, каб ён набіраўся матар'ялістычнага разуменьня падзей, каб ён меў клясавую пралетарскую ідэалёгію і каб добра навучыўся па-марксыцкі думаць.

Трэба адзначыць, што беларуская моладзь у Латвіі якраз вучыцца па-старому. Якраз палітычныя варункі яе жыцьця гэткія, што палітычная арганізаванасьць і палітычнае выхаваньне адсунуты ў бок.

Беларускія школы ў Латвіі гатуюць з беларускага маладняка так званых „лёйяльных грамадзян“ з спэцыфічным патрыатычным бе арускім „душком“. Бо выхаваньне моладзі трапіла ў рукі беларускіх эмігрантаў, якія апрача старых народніцк.-беларускіх ідэй і лёзунгаў „няхай жыве незалежная Бела усь“—даць нічога ня могуць і... ня хочуць.

А беларускаму селяніну і рабочаму ў Латвіі патрэбен **новы** маладняк, які умеў-бы ня толькі пяяць „Ад веку мы спалі“ і скончыць беларускую гімназію, але які-б дасканала разумеў сэнс клясавай барацьбы, які-б меў пралетарскую псіхалёгію, які-б меў сваю клясавую арганізацыю, быў сябраю Камсамолу.

Яшчэ горай выглядае з палітычнага боку беларуская моладзь у **Чэхаславаччыне, у гор. Празе.**

Беларускую калёнію ў Празе-чэскай складаюць студэнты беларусы, уцёкшыя з Польшчы (Заходаяй Беларусі), каб заграніцаю скончыць унівэрсытэцкі курс. Усяго ў калёніі болей 100 чалавек.

На жаль ядро гэтай калёніі есьць хворае у палітычным сэнсе, бо складаецца яно з старых беларускіх эмігрантаў, якія задаюць палітычны тон усёй беларускай арганізацыі. Палітычныя ідэалы гэтай старай эмігрантшчыны ня йдуць далей эс эраўскіх лёзунгаў „зямлі й волі“ „незалежнай беларускай народнай рэспублікі“ з соймам і прэзыдэнтам на чале.

Сыры, не апрацаваны палітычна беларускі маладняк, прыяжджаючы ў Прагу, трапляе ў варункі ўжо нібы „асьвечаныя“ часам, сталыя, непарушныя. Усё паветра беларускай калёніі прасочана нейкім спэцыфічным народніцка-клерыкальных пахам, з пэўным нахілам к антысацыялізму.

Тут, нават, маюцца свае традыцыі, свае ідэалы, крытыкаваць, якія ня зусім-то небясьпечны, бо лёгка будзеш залічаны ў шэраг бунтуючых, „большевиствующих“.

Наогул, у гэтай калёніі пануе шкодны погляд, што студэнты не павінны „гуляць у політыку“, а займацца выключна навукай.

Калі пачытаць выдаваемую там беларускімі студэнтамі часопісь—„Студэнт“, то адразу відаць які шкодны уплыў мае на беларускі маладняк стараэмігранцкае ядро. У часопісі з пляча вядзецца агітацыя за палітычныя ідэалы, узятыя бяз крытыкі без праверкі ў кіраўнікоў калёніі. Перадавыя часопісі крычаць аб „беларускай народнай рэспубліцы“, аб „сойме і прэзыдэнце“. Некаторыя артыкулы робяць няпрыемнае уражаньне сваім зацятым нацыяналізмам, агідным антысэмітызмам, замілаваньнем да рэлігіі, папоў і ксяндзоў, і, зразумела,— сваей няпрыкрытай варажасьцю к сьвецкай уладзе, к комунізму й Камінтэрну.

Беларускія арганізацыі ў Празе трымаюць сувязь з украінскімі, расійскімі й чэскімі арганізацыямі—блізкімі па палітычнаму кірунку да іх саміх: з украінскімі „хліборобамі“, чэскімі „хрысьціянскімі дэмакратамі“ і інш. Але аб сувязі, блізкасьці з чэскімі комуністамі, з чэскімі камсамольцамі— беларускія студэнты ў Празе, нават, і падумаць ня хочуць.

Яны ў сваей грамадз. і політычнай чыннасьці кіруюцца (як відаць з часопісі) толькі „хрыстовымі ідэаламі“ і яшчэ „нацыянальнымі ідэаламі“

Гэта два кіты, на якіх пабудованы палітычны сьветапагляд пражскіх беларусоў. Ідэі соцыялізма, комунізма, інтэрнацыяналізма далёкі ад іх, варажы ім.

Сьцвярджае маленькім прыкладам. У сваю сакольскую арганізацыі яны ня прыймаюць тых, хто вызнае Інтэрнацыянал (хоць-бы нават і II!), хто не належыць да нацыянальнае партыі

Адным словам, асярэдзіна беларускай студэнцкай арганізацыі ў Празе згніўшая, адстаўшая ад сучасных вялікіх падзей! Чым далей, тым болей яна адстае і робіць нахіл управа.

Беларускі маладняк, які кожны год аднаўляе свае шэрагі новымі сябрамі з бацькаўшчыны, павінен грунтоўна перааацаніць працу і ідэалёгію сваіх кіраўнікоў.

Павінен разламаць і выкінуць струхлеўшае стара-эміграцкае ядро, калі ня хоча скаціцца разам з ім у контррэвалюцыйнае. белагвардзейскае балота.

Старыя пагніўшыя пні трэба выкарчаваць і выкінуць, каб не перашкаджалі росту маладняка!

Аб жыцьці беларускай моладзі ў далёкай Амэрыцы й у панскай Польшчы—у наступны раз.

Цвікевіч.



# СЯМІМІЛЬНЫМІ КРОКАМІ

*(Аб нашым Дзяржаўным тэатры).*

Менск—калыска беларускага тэатру. Роўна 77 гадоў таму назад тутака была напісана беларускім пісьменьнікам В. Дуніным-Марцынкевічам яго першая,—і наогул першая беларуская! —п'еса „Сялянка," якая ў тые-ж 1840-ые гады была пастаўлена на сцэне ў Менску-ж. Савецкаму-ж Менску гістарычная доля Беларусі суліла стаць „калыскаю," дзіцячым домам" і „камсамольскаю школаю" беларускага тэатру наогул. Яшчэ 2—3 гады творчае працы і наш Беларускі Дзяржаўны тэатр стане ўсімі прызнаным зрэлым культурным фактарам, маладым поўным сіл сынам Вялікае Сацыяльнае Рэвалюцыі!

Тыя, хто стаіць блізка да жыцьця і нясупыннай творчае працы нашага Дзяржаўнага тэатру, у гэтым зусім пэўны.

Дык загляньма-ж у мінулае нашае драматычнае літаратуры і ў былое нашага тэатру.

Першая п'еса зьявілася ў 1846 г. Праз 20 толькі год тойжа самы В. Дунін-Марцынкевіч напісаў другую сваю, і наогул другую беларускую, п'есу-сатыру „Пінская шляхта," якая зараз другі ўжо сэзон, маецца ў рэпэртуары Беларускага Дзяржаўнага тэатру і карыстаецца пасьпехам, стаўшы ўжо чыстым жартам, бязгнеўным жартам над правасудзіем царскіх часоў. А ў свой час (у 1869г.) гэты твор цэнзура ня толькі не дапусьціла на сцэну, але нават і ў друк. Трэцяю па часу лічыцца яго-ж Дуніна-Марцынкевіча п'еса „Залёты," зьявіўшаяся ў сьвет у 1870 г. А потым ізноў праз 20 толькі год (у 1890 г.) Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) напісаў сваю сатырычную п'есу „Злодзей," якая была пастаўлена аматарамі ў мястэчку Радашковічах. Ня ўбачыла яна больш ні тэатральнае сцэны, ні друку, бо была гостраю па свайму зьместу і на-жаль, як кажуць, нават не захавалася цяперака ў рукапісі. Ізноў перарыў і толькі ў 1903 г. Карусь Каганец, адзін з першых беларускіх сацыялістаў, паміж іншым, напісаў сваю п'есу „У іншым шчасьці няшчасьце захована!" дзе даў сацыяльныя ўмовы жыцьця, даў быт парабка, працуючага на пана.

Калі ось так аглянуцца назад, ды адкінуць тэатральныя спробы аматара Дунін-Марцынкевіча (яго тры драмат. творы*) ды адну такую-ж спробу, праз 20 год, Ядвігіна Ш., то **найранейшаму драматычнаму беларускаму твору, распачаўшаму ўжо шэраг драм. твораў**—п'есе Каганца „У іншым шчасьці“... —**усяго толькі 20 гадоў узросту**. Як бачым наша беларуская драматычная літаратура яшчэ зусім малада!

Паглядзімо-ж, як ладзіўся ў нас сам беларускі тэатр.

Першымі ўбачылі тэатральную сцэну „Сялянка“ (40-ые гады) і потым „Залёты“ (70-ые гады) В. Дунін-Марцынкевіча. Гэта ў Менску і сіламі толькі аматараў, а не *актораў* і *толькі* для гасьцей самога аўтара, а не для шырокае публікі.

Праз 20 гадоў таксама аматары і толькі для цеснага кругу блізкіх, знаёмых паміж сабою людзей (бо ня было цэнзурнага дазволу!) ставіўся „Злодзей„ Ядвігіна Ш. Затым яшчэ праз 15 год у м. Старое сяло (пад Менскам) аматары паставілі (ў 1906 г.) „Па рэвізыі“ Крапіўніцкага, твор украінскага тэатру, пераложаны на беларускую мову доктарам Чарноцкім.

І ось толькі ў 1908 годзе, нябошчыкі ўжо зараз абодва, Алесь Бурбіс і Ігнат Буйніцкі, апошні з жонкаю і дочкамі, Ч. Родзевіч і др. заклалі ў Вільні белар. драматычны гурток —першую так сказаць беларускую трупу, якая мела незвычайны пасьпех у Вільні, прызнаны нават расійскаю чорнасоценнаю прэсаю. Трупа аб'ехала беларускую правінцыю, дзе выклікала такі ўздым спачуваючых сымпатый, што гэта стала трывожыць павятовую адміністрацыю і змусіла хутка скончыць паездку. Выступленьне Ігн. Буйніцкага з сямьёю ў Петраградзе з беларускімі народнымі танцамі, зьвярнула тады на апошнія ўвагу балетных працоўнікоў дзяржаўных тэатраў палуночнай сталіцы. Такім чынам, калі, нават, заплюшчыць вочы на тое, што працу абарвала вайна і акупацыі, **сталай адносна тэатральнай беларускай працы ўсяго 15 гадоў узросту**. Апярэджаны Вільняю Менск не захацеў ад яе адставаць і ў 1913 г. тутэйшыя беларускія культурнікі, з Аркадыям Смолічам на чале і пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча, сучаснага старэйшага і здольнага беларускага артыста ў Менску (працуе й зараз у Белар. Дзярж. тэатры)—склалі першую ў Менску белар. трупу і гатаваліся ставіць „Паўлінку“ Янкі Купала, „Хамка“ і „Рыся“ Ожэшкі. Але губэрнатар ня толькі ня даў на гэта дазваленьня, але пачаў цікавіцца, што за „беларусы“ такія гэтыя Ф. Ждановіч і К-о. Калі-б і гэтую дату (памятны год) лічыць за сталую, то ў 1923 г. **усяго 10 год мінула, як пачала складвацца першая беларуская ў Менску трупа**.

---

*) У Мозыру тав. Даўгаполаў знайшоў новую рукапіс ад 1860 г. Дунін-Марцынкевіча—п'есу пад назваю: «Розная бывае міласьць!»

Пасьля першае расійскае рэвалюцыі (у 1908 г.) распачалася тэатральная беларуская справа ў Вільні. Толькі пасьля другое, вялікае сацыяльнае, расійскае рэвалюцыі, у 1917 г. распачалася ў Менску тая сталая тэатральная праца, пераімшчыцаю якое стаў з 1920 г. наш сучасны Беларускі Дзярж. тэатр. Такім чынам больш чым выразна ясна, што толькі першая наша рэвалюцыя стварыла магчымасьці істнаваць беларускаму тэатру наогул **і толькі вялікі сацыяльны рух радзіў безперарыўнае ўжо быцьцё (6-ы год!) беларускага тэатру. Нашаму-ж савецкаму беларускаму тэатру ўсяго 4-ы год жыцьця!**

Наш беларускі тэатр радзіўся з рэвалюцыяю, пад яе зараз уплывамі расьце і як убачым ніжэй дасягае кожын год усё большых пасьпехаў, якія сьведчаць і аб яго жыцьцяздольнасьці і аб вялікім творчым надхненьні яго сучаснага кіраўніка і артыстаў, выпаўняючыя вялікай культурнай вартасьці працу.

Калі мы агледзім усю драматычную літаратуру, ад твора Каганца „У іншым шчасьці"... за мінулые 20 гадоў (1903—1923), якія-ж творчыя беларускія сілы і які-ж драматычны інвэнтар нашага тэатру мы ўбачым?..

За 20 апошніх гадоў мы маем 12 аўтараў і каля 100 арыгінальных п'ес, з якіх палавіна належыць 11 аўтарам, а другая палавіна—плод твору т. Усев. Галубка, які працуе „за дзесяцярых," праўда з трупаю аматараў, ставячы толькі свае ўласныя творы і ўжо 2 гады заглядваючы са сваім на-сьпех у большасьці апрацаваным рэпэртуарам у самыя глухія мясціны акраін Менску і вёскі, дзе ён за год ставіць больш чым 150 спэктакляў.

З паусотняю п'ес арыгінальных здавалася-б можна было працаваць белар. сучаснаму тэатру, але калі блізка аглядзець гэтыя драматычныя творы, то з 11 аўтараў толькі адзін Ф. Аляхновіч, сам актор і рэжысэр белар. тэатру, добра знае патрэбы і ўмовы сцэны і таму то ён самы плодны драматург: ён аўтар 12 п'ес Буйнейшыя з нашых выдатных сучасных беларускіх пісьменнікаў—Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны—аўтары 10 п'ес, з якіх зараз адпавядаюць тэхнічным і іншым запатрабаваньям сцэны толькі тры п'есы, і дзьве з іх прытым невялічкія. Карусь Каганец напісаў 5 драмат. твораў, але ўсе яны ня лічыліся з патрабаваньнямі сцэны. Здольны Алесь Гарун пакінуў нам толькі некалькі дзіцячых драмат. сцэнак. Л. Родзевіч напёк аднаактовае драбязы. Міхась Кудзелька пакуль што даў тэатру толькі „На купальле" і некалькі дробных камэдый. Як бачым у дзейсным рэпэртуатры беларускага тэатру можна толькі лічыць: некалькі твораў Ф. Аляхновіча, два—тры творы Янкі Купалы, пару аднаактовак Л. Родзевіча ды творы Дунін-Марцынкевіча і М. Кудзелькі. Як відаць адразу—нявельмі то багата! Бяда яшчэ ў тым, што ў нас перавагаюць адна—і двуактоўкі; некаторыя творы аўтарамі недаапрацаваны ў

ў вымаганьнях сцэны, або проста не адпавядаюць зараз сваім зьместам рэволюцыўнаму часу. Калі ўзяць патрэбы цэлага сэзону сталага тэатру, то арыгінальных п'ес патрэбнага зьместу, і ня дробных у нас бракуе і толькі налічваецца да 20 твораў невялікіх „ня глыбокіх“ па зьместу, такіх якія звычайна складаюць сабою тыповы „лёгкі,“ вясёлы летні рэпэртуар тэатру.

Маем мы яшчэ да 50 п'ес перакладных. Зьмест іх самы розны, але ня зусім адпавядаючы нашаму часу.

У чым-жа найбольш характэрныя асаблівасьці зьместу беларускае драмат. літаратуры?

У большасьці значнейшых драмат. твораў мы бачым сацыяльную барацьбу мужыка з панам. Вядсма, у гэтых творах мы ня найдзем ярка выяўлянага клясавага пралетарскага пункту гледжаньня, але за тое ня найдзем і народніцтва, як палітычнае ідэалёгіі. Ня вельмі найдзем мы ў нашай драмат. літэратуры псіхалёгічную глыбіню. Нацыянальнага шавінызму ня найдзем таксама; сустракаецца некаторы нацыянальны адбітак, але ён не актыўнага, а пасыўнага характару і можа быць тлумачан, як „абаронны“ нацыянальны дух.

Гэта тая балючая нацыянальная чуласьць, якую адзначыў у сваім часе т. Л. Троцкі ў сваім артыкуле (вясною 1923 г.) па нацыянальнаму пытаньню. Чуласьць доўгі час раней прыгнечаемае нацыі. Ёсьць яно і ў беларусаў, якія на сваіх хрыбтах пазналі салодасьць панаваньня польскага пана, а яму на зьмену і расійскага чынушы. Затое ў белар. драмат. творах не найсьці ні кроплі чалавеканенавістніцтва! Яго і ня можа быць у народу, які на $^9/_{10}$ па сваему складу—працоўные вёскі і гораду, бо нацыянальнае буржуазіі белар. народ ня мае, калі ня лічыць дробна-буржуазных элемэнтаў, да якіх можна аднесьці больш заможнае сялянства і шматкі сытага белар. рамясніцтва па гарадох.

Дзякуючы таму, што наша соцыяльная рэвалюцыя разьвязала беларускую нацыянальна-палітычную праблему (бо толькі пры савецкім дзяржаўным ладзе можа жыць вольным з вольнымі—і роўным з роўнымі беларус побач з др. народамі)—захавала сваю сілу толькі патрэба ў нацыянальна-культурным здавальненьні белар. працоўных мас. І як культура працоўных белар. культура расьце ў рэспубліце саветаў з кожным днём. Беларускі тэатр, як фактар гэтае культуры, як фактар выхаваньня белар. працоўных мас—разьвінаецца і моцна з кожным днём. З первых сталых сваіх дзён ён стаў абслугоўваць масы, а ня буржуазную вярхушку. Зусім малады ён ня знае яшчэ традыцый, ня знае гэтае з імі неадрыўнае залежнасьці і сувязі. Ён ніколі ня быў тэатрам для самога сябе дзеля мастацтва толькі. Разбуджаны першаю рэвалюцыяю, другою замацаваны к жыцьцю і пасьпехам, беларускі тэатр повен маладых сіл. Гэтую яго моладасьць, жыцьцяздольнасьць адзначыў адзін з талентных маскоўскіх тэатральных крытыкаў, калі пазнаёміўшы-

ся з белар. тэатрам у Менску ён пісаў: „На спэктаклях „На купальле“ і „Машэка“ на мяне хлынуў паток нязвычайных ў радавым тэатры веснавых ўражаньняў—жыцьцярадаснасьць, нязжыты, безпасрэдны рамантызм, якаясь-ці захапляючая, ўся танцуючая музыкальнасьць, сонечнасьць.“ Са сваім новым рэпэртуарам тое-ж уражаньне наш тэатр выклікаў і ў маскоўскае работніцкае публікі за часы сваіх спэктакляў там у дні Усерасійскае сел.-гаспадарчае выстаўкі. Найлепшую ацэнку працы артыстаў даў адзін са старых выдатных маскоўскіх знаўцаў тэатру, які па сканчаньню спэктаклю лічыў патрэбным сказаць, што белар. тэатр чаруе гледзяча „безпасьрэдным жыцьцём,“ а ня ігрою на сцэне.—Так судзіла і адзначала пасьпехі нашага тэатру Масква.

Як-жа так сталася, што аб нашым тэатры так загаварылі?

А справа ў тым, што апошніх два гады, пад кіраўніцтвам рэжыс. Яўсьцігнея Міровіча, белар. трупа дасягла пасьпехаў, працуючы над сабою і выконваньнем роляў, працуючы над новым рэпэртуарам. У летку 1921 г. Міхась Кудзелька даў тэатру свой новы драматычны твор у 3 актах „На купальле“—прымітыўны па зьместу, але пышачы жыцьцярадаснасьцю і народным гумарам. Тэраўскі напісаў да яе музыку. Я. Міровіч папрацаваў над ёю ўсё лета і пачатак восені. П‘еса адразу заваевала сабе сымпатыі публікі—і невіданая рэч!—у першым-жа сэзоне (1921—22 г.) вытрымала больш 30 пастановак. У сезон 1922—23 г. выдатны пасьпех выпаў на долю двух новых п‘ес, падгатаваных мастацкі нашым тэатрам: „Жрэц Тарквіні“ прайшоў 18 разоў і твор самога кіраўніка тэатру „Машэка“ ішоўшы 8 разоў. „На купальле“ таксама і ў гэты сэзон карысталася пасьпехам. Сэзон 1923—24 году сустрэў таксама навіною, якая на працягу малога часу ідзе ўжо 10 раз. Гэта гістарычныя абразы Яўсьц. Міровіча „Кастусь Каліноўскі.“ Апрача названых п‘есь ішлі і др. першыны, добра падгатаваныя, але ня стаўшыя, як кажуць, „гваздамі сэзону.“

Што-ж сталася такое? Адкуль такі пасьпех?

Заместа дарогі звычайнага аматарскага народнага тэатру ў гусьце ўкраінскага былога бытавога тэатру, якім і быў наш ранейшы белар. тэатр—наш тэатр пайшоў агульнаю дарогаю сусьветнага тэатру: ён прыцёг на службу тэатру ўсе мастацтвы.

Усё мастацкі абдумана і апрацована. Мастацкія дэкарацыі, належныя вопраткі, пробы бяз концу, покі не дасягнута поўная сугалоснасьць ігры артыстаў („Жрэц Тарквіні“ вытрымаў 73 пробы, покі ўбачыў сьвет!). І гэта ўсё дасягнута было пры кепскай аплаце працы артыстаў, пры бедным асыгнаваньні грошай на пастаноўкі, бо наша маленькая рэспубліка ня так багата. Але талентнасьць рэжысэра-кіраўніка, яго ўпартая, захапіўшая мала-па-малу артыстаў праца, растучая самапачуцьцё артыстаў, перш увераваўшых, а потым пазнаўшых важнасьць

творчае працы ў сэнсе ўплыву на публіку, на выхаваньне мас, шчырае захапленьне і замілаваньне прарobленаю высока-культурнаю працаю з боку працоўнікоў тэатру—вось прычыны заслужанае пахвалы і пачэснае нагароды. Тэатр наш перарадзіўся!

За апошніх 2 гады Белар Дзярж. тэатр атрымаў новы рэпэртуар, творча абнавіўся, дабіўся прызнаньня і ўвагі да сябе, мае заслужаныя пасьпехі. І што важней за ўсё—ён ўсё больш і больш рэволюцыяніруецца ў сваім рэпэртуары, абнаўляецца ў мэтадах свае тэатральнае працы.

У параўнаньні за 250-гадовым дзедам, расейскім тэатрам, малады камсамолец Беларускі Дзяржаўны тэатр мае першы залог сваіх новых пасьпехаў—маладыя жвавыя ногі!.. Сямімільнымі крокамі шыбае ён усё ўперад і ўперад!

**О. Дыло.**



# ТЭАТР НА ВЁСЦЫ



З самых старадаўных часоў жыло ў нашага сялянства імкненьне да тэатральных прадстаўленьняў. У глыбі вякоў, у старадаўныя часы селянін стварыў свае ўласныя тэатральныя прадстаўленьні, у розных праявінах, харавыя сьпевы, традыцыйныя гульні, танцы, балет-пантаміма („Яшчур“, „Танец з казой“ і г. д.), сцэнічныя лубкі (хадзьба з мядзьведзем, з кабылкай, з жоравам, купальскія прэдстаўленьні і г. д.) Традыцыйны грым у народных скамарохаў была—сажа, адзеньні—вывернуты шэрсьцю на верх кажух, бяроставыя маскі на твары, ільняныя бароды і г. д.

Скамарохі яшчэ і цяпер упамінаюцца ў нашых народных песьнях.

З мэтай агітацыі, каб шчыра служыць пану, яшчэ ў XVII і XVIII стагодзьдзях езуіты ў нашым краі ставілі п'есы на беларускай мове.

Па панскіх маёнтках калісьці складаліся тэатральныя труппы з прыгоньнікоў.

Болей двух сот гадоў па нашых вёсках вандраваў лялечны тэатр—батлейка.

Яшчэ ў пяцідзесятых гадох мінулага веку беларускі пісьменьнік Дунін-Марцінкевіч ставіў у Меснку сваю опэру „Сялянка“.

Посьле рэволюцыі 1905 году, калі пачалося беларускае адраджаньне,—узьявіўся і новы беларускі тэатр.

Першыя піанеры беларускага тэатру з Ігнатам Буйніцкім на чале раз'яжджалі са сваёй аматарскай труппай на ўсей Беларусі.

Галоўны расквіт беларускага тэатру пачаўся пасьля Акцябрскага перавароту.

Цяпер мы маем ужо „Бел. Дзярж. Акад. Тэатр“ у Менску, „Другую бел. труппу“, тэатральную студыю ў Маскве і шмат аматарскіх тэатральных гурткоў па вёсках.

Рэпэртуар беларускага тэатру, які складаўся ў 1912 годзе з якіх 3—4 арыгінальных п'есак і 5—6 перакладных, цяпер даходзіць да 200 Ёсьць п'есы вельмі цікавыя па сваёй сцэнічнасьці і па зьместу. Галоўны зьмест нашых сцэнічных твораў—быт вёскі і соцыяльна-клясавыя матывы, якія часам даходзяць да яркай рэвалюцыйнасьці. Некаторыя з бытавых п'ес—вельмі музыкальны і лірычны. Паміж іншым ёсьць у нас цэлы цыкль дзіцячых п'ес.

Гэта ўсё стварылася ў нас у працягу якіх колечы апошніх 3—4 гадоў. Наш Дзяржаўны тэатр сяголетнім летам зрабіў выезды ў розныя гарады Беларусі. Быў ён цэлы месяц і ў Маскве на выстаўцы, дзе карыстаўся вялікім посьпехам. Аб яго пастаноўках пісалася ва ўсіх сталічных газэтах.

Але Менскія беларускія труппы ня маюць магчымасьці раз'яжджаць па вёсках, дзеля гэтага ў некаторых нашых павятовых гарадох і ў некаторых валасьцёх з'арганізаваліся аматарскія труппы. Шмат выдрукаваных беларускіх п'ес яшчэ няма. Яны знаходзяцца ў рукапісах. Па нашай вёсцы яны і прадаюцца ў рукапісах. Беларускі спэктакль дзе колечы ў нашым мястэчку, воласьці або вёсьцы (паміж іншым, ў вёсцы—вельмі рэдкі)—вялікая навіна для ўсей ваколіцы.

З 20—30 і болей вёрст вакол зьязджаюцца паглядзець спэктакль. Аб гэтым спэктаклі сяляне потым гавораць у працягу месяцоў. Сяляне вельмі любяць тэатр.

Хто пакуль што зьяўляецца па вёсках арганізатарам спектакляў?

У большасьці вясковы настаўнік. Акторамі—вясковая моладзь. Ацэншчыкамі ігры, вустнымі рэцэнзентамі—сяляне, вясковыя кабеты. Паглядзець ігру часам не лянуецца і стары дзед. Ён часта лянуецца ў цэркаў схадзіць, а на спектакль абавязкова пойдзе. Чаму? бо ён калісь сам з „Казой“ хадзіў „каляднічаць“, бо ў яго крыві жыве гэта тэатральнасьць.

А крытыка, крытыка зьяўляецца посьле спэктакля! Наіўная, дзіцячая і мілая крытыка...

„Міхась такую бараду прычапіў, так адзеўся, што і пазнаць трудна было“...

Марыльку чуць-чуць па голасу пазнала“...

Тэатрам служыць часам школа, часам вялікае гумно ў быўшым панскім маёнтку, часам сельскі магазін з пад збожжа, часам дзякоўская, або папоўская хата, адабраная сельскім сходам пад клюб—ці хату-чытальню. Паставіў некалькі козлаў, налажыў з верху памост з досак і—сцэна гатова. Разставіў шэрагі зэдлікаў і—публіка разселася.

Прылады для сцэны і вопраткі?—у кожнай сялянскай хаце.

І публіка глядзіць, дзівуецца і надзівіцца ня можа...

Тут, праўда, фокусаў сьвету, багатых дэкарацыяў няма: пара газьнічак-лямпачак, некалькі ёлачак на сцэне—і гатова...

Блытаюць—путаюць ролі вясковыя аматоры, але публіка і не заўважывае—яна зачарована...

А „закулісныя“ інтрыгі якія адбываюцца:—ажна валасы дыбам становяцца: ня хоча якая небудзь маладая прыгожая Ганулька іграць старую бабу—хоча блішчэць на сцэне сваёй пякнатой—чуць угамоняць.

На „артыстаў“ потым глядзяць як на нейкіх надзвычайных людзей, вясковы карэспандэнт напіша ў „Савецкую Беларусь“ рэцэнзыю з „падробнай“ ацэнкай кожнага з удзельнікаў. І ў канцы ў яго выходзіць, што „ўсе ігралі добра“.

Мілыя людзі—і аматоры і карэспандэнты і публіка...

І гэтак ідзе ўжо ў нас некалькі гадоў над Савецкай уладай. Гэта—яркі кавалак новага быту па нашых вёсках.

Колькі „дзядзькоў“ вясковы спэктакль адарваў ад царквы, колькі „галаварэзаў“ ад лішняй бутэлькі самагону выратаваў,—калі спэктакль быў пастаўлены ў якое колечы рэлігійнае „сьвята“!

Тэатр у правінцыі, у глухой вёсцы—найлепшае змаганьне за новы быт а пры ўмеласьці пастаноўкі і добрым падборам п'ескі—адзін з пярвейшых разсаднікаў культуры.

На гэта павінен зьвярнуць увагу Камсамол. Ён павінен ўзяць вясковы тэатр у свае рукі і паставіць яго сапраўды добра.

Падбор п'есак павінен быць жывы, удалы, падхадзячы для прымітыўнай вясковай сцэны. Можна с авіць кароценькія чырвонныя лубкі са здаровым гуморам. Можна даць і болей сур'ёзныя п'ескі, пры якіх не патрэбны сложныя дэкарацыі. Пры гэтым можна з'арганізаваць маленькі хор.

Сыстэматычны вясковы тэатр таксама павінен стварыць Камсамол. Калі ён за гэта возьмецца, дык пэўна зробіць.

**Я—р.**



*Рэдактары* **М. Кудзелька. А. Ажгірэй.** *Малюнкі і гравюры мастака* **Гуткоўскага.**

Глаўліт № 2062. 1 дзярж. друк. зак. № 77. друк у ліку 2500 экз.

## Зьмест нумару.



---